

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

28 СТУДЗЕНЯ 2000г. № 4/4036 КОШТ 65 РУБ.



## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **250 рублёў**, на квартал — **750 рублёў**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **760 рублёў**, на квартал — **2 тысячы 280 рублёў**.*

**Наш індэкс — 63856.**

*Перазімуем...*

*Фота А.МАЦЮША*



# КОЛА ДЗЁН

**26 студзеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон аб мовах, дзякуючы якому беларуская мова на вышэйшым заканадаўчым узроўні была абвешчана дзяржаўнай. З таго дня прайшло дзесяць гадоў, і сёння ўжо можна задумацца над пытаннем, што ёсць і што магло б быць, калі б... У кожнага свой адказ. Аднак ёсць і самы аргументаваны, які далі вынікі мінулагодняга перапісу насельніцтва. Упершыню за дзвесце гадоў колькасць беларусаў на іх этнічнай зямлі стала павялічвацца. Узрасла на 5-6 працэнтаў і колькасць людзей, якія лічаць беларускую мову сваёй роднай. 37 працэнтаў жыхароў Беларусі, па выніках перапісу, штодня дома размаўляюць па-беларуску, а гэта тры мільёны семсот тысяч грамадзян. Словам, дзесяць гадоў, якія прайшлі з дня прыняцця Закона аб мовах, беларусамі пражыты недарэмна. Але...**

### АДАБРЭННЕ ТЫДНЯ

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў на пленарным пасяджэнні дзевятай нечарговай сесіі аднагалосна прынялі ў другім чытанні праект Выбарчага кодэкса. Дакумент доўга рыхтаваўся, удакладняўся і ў выніку ўзгаднення з Галоўным дзяржаўна-прававым упраўленнем Адміністрацыі Прэзідэнта ў праект было ўключана звыш 60 паправак па 59 артыкулах. Нават былі ўлічаны некаторыя парады Кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ ў Беларусі. Да прыкладу, з праекта выключана норма, што забараняла вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты грамадзянам, якія падвяргаліся адміністрацыйнаму спагнанню, што накладаецца ў судовым парадку. З 50 да 25 працэнтаў зніжаны парог яўкі выбаршчыкаў у другім туры галасавання. Цяпер свае адносіны да Выбарчага кодэкса трэба выказаць членам Савета Рэспублікі, куды дакумент накіраваны для адабрэння. Праўда, апазіцыя не ўсе пункты кодэкса падтрымлівае...

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

У друку з'явіліся звесткі, паводле якіх наша краіна па колькасці насельніцтва знаходзіцца на пятым месцы сярод краін СНД — пасля Расіі, Украіны, Узбекістана, Казахстана, а сярод 34 краін Еўропы — 15-ым. Побач з намі Бельгія, Венгрыя, Грэцыя, Партугалія. За 10 гадоў паміж перапісамі гарадскіх паселішчаў у нас паболела толькі на адно (Дрыбін), а сельскіх зменшылася — на 1099. Рэзкае змяншэнне колькасці насельніцтва пачалося з 1993 года. Цяпер у Беларусі жыве 981 чалавек, каму за 100 гадоў (з іх 867 — жанчыны). Самая доўгажыхарка жыве ў Брагінскім раёне, ёй сёлета 2 студзеня споўнілася 122 гады. Старэйшы беларускі мужчына мае толькі 110 гадоў. Па нараджальнасці мы сёння на 27-м месцы ў Еўропе. Больш, чым у нас, узровень смяротнасці ў Расіі, Венгрыі, Латвіі, Балгарыі, Украіне, меншы — у Эстоніі, Малдове, Літве, Вялікабрытаніі. Па разрыву (12 гадоў) паміж працягласцю жыцця мужчын і жанчын мы поруч з Расіяй і Украінай, больш такога ў свеце няма. Паводле даных некаторых спецыялістаў, ужо праз 50 гадоў у Беларусі можа застацца жыць толькі 4,5 мільёна чалавек. Сумна...

### УДАКЛАДНЕННІ ТЫДНЯ

Міністэрства эканомікі Беларусі ўнесла ўдакладненні ў пералік сацыяльна значных тавараў (работ, паслуг), цэны (тарыфы) на якія рэгулююцца непасрэдна міністэрствам. З гэтага часу міністэрства рэгулюе цэны на наступныя тавары: масавыя гатункі хлеба і батонаў; малако і кефір тлустасцю 1,5 і 2,5 працэнта (у бутэльках і поліэтыленавых пакетах), смятану тлустасцю 15 і 20 працэнтаў, тварог нятлусты і тлустасцю 9 працэнтаў; масла жывёльнае (за выключэннем дэсертнага садавіннага і шакаладнага); мяса ялавічыны, свініны і птушкі; вараныя каўбасы першага і другога гатункаў, безгатунковыя; сухія малочныя сумесі, мясныя і плодаагароднінныя кансервы для дзіцячага харчавання; яйкі курыныя; цукар; соль кухонная харчовая; запалкі. Рэгуляванне цэн (тарыфаў) на іншыя віды тавараў (работ, паслуг) ажыццяўляюць аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам на падставе пастановы Савета Міністраў ад 18 чэрвеня 1999 года.

### СПІС ТЫДНЯ

Паводле інфармацыі амерыканскай газеты "Вашынгтон таймс", Беларусь названа сярод 12 краін свету, якія маюць тэхнічную магчымасць вырабляць біялагічную зброю. У спіс трапілі яшчэ тры краіны былога СССР — Расія, Украіна і Казахстан, а таксама Індыя, Ірак, Іран, Кітай, Лівія, Пакістан, Паўночная Карэя і Сірыя. І усе гэтыя краіны маюць магчымасць добра жыць, але магчымасць гэта яшчэ не рэальнасць...

### РОСТ ТЫДНЯ

Апошнімі днямі на тэрыторыі нашай краіны "выраслі" маразы ад 5-7 градусаў да 14-17, а месцамі і да 20. Але маразы — гэта не бяда, бо ўжо не агледзімся, як прыйдзе вясна. Нашых людзей больш хвалююць цэны. А яны растуць. Так з 1 лютага чакаецца павелічэнне тарыфаў на электраэнергію для насельніцтва на 30 працэнтаў. Дадзена "дабро" на павелічэнне тарыфаў і на міжгароднія перавозкі на 40 працэнтаў, а на прыгарадныя — на 50 працэнтаў. Словам, недзе праз пару месяцаў трэба чакаць зноў павелічэння "мінімалкі", а там ізноў цэн. Калі ўжо мы вырвемся з гэтага зачараванага кола?

### СПАДЗЯВАННІ ТЫДНЯ

Не за гарамі лета, калі ў аўстралійскім горадзе Сіднеі адбудуцца летнія Алімпійскія гульні 2000 года, у якіх прыме ўдзел і наша краіна. Зараз кандыдатамі ад Беларусі на Алімпіядзе з'яўляюцца 275 чалавек па 26 відах спорту. Пераважаюць сярод іх лёгкаатлеты, нямала плыўцоў і тых, хто будзе спаборнічаць у кулявой стральбе. Дзяржаўным бюджэтам на гэты год прадугледжана выдзяленне на Алімпійскія гульні каля 10 мільёнаў долараў. У спартыўным ведамстве Беларусі ўпэўнены, што ўдзельнікі нашай зборнай, а іх будзе 196 чалавек, не падвядуць сваю краіну. Праўда, падвесці можна і пад манастыр, як гэта ўжо здаралася неаднойчы. Аднак будзем спадзявацца, што нашы спартсмены лепшыя ў свеце...

### НАВІНКА ТЫДНЯ

Рэспубліканскае аб'яднанне "Белтэлекам" спецыяльна для аказання жыхарам Мінска паслуг па выдачы даведак аб нумарах тэлефонаў кватэрных абанентаў сталічнай даведачнай службай "09" выдзеліла асобны тэлефонны нумар "009". Цяпер, набраўшы "009", мінскі абанент зможа атрымаць неабходны яму тэлефонны нумар як па поўных, так і па няпоўных даных. Гэтая паслуга платная. Для насельніцтва адна інфармацыя будзе каштаваць 10 рублёў, а для арганізацый — 20. Пакуль што нядорага...

### ПАДАРАЖАННЕ ТЫДНЯ

Гарэлка — гэта не хлеб і малако, але... Кошт гарэлкі напрыканцы мінулага тыдня ўзняўся адразу на 30 працэнтаў. Цяпер пляшку "Крышталю люкс" і "Белай Русі" можна набыць за 794 рублі. "Крышталь-100" каштуе 766 рублёў, "Два буслы" — 740 рублёў. Гатункі "Сталічная", "Маскоўская", "Руская", "Палеская", "Пшанічная" і "Сталіца" каштуюць 755 рублёў за паўлітровую пляшку. Самым танным напоем застаецца віно, якое па-народнаму называецца "чарнілам".

# Закону "Аб мовах" — 10 гадоў

Пазаўчора ў тэатральнай зале мінскага Чырвонага касцёла адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 10-ым угодкам прыняцця Закона "Аб мовах". 26 студзеня 1990 года ў гмаху, што побач з касцёлам, беларускай мове, як мове карэннага насельніцтва краіны, быў нададзены справядлівы статус дзяржаўнай.

Тады, відаць, нікому з тых, у каго аж дух займала ад шчаслівых патрыятычных пачуццяў, не ўяўлялася, што ў 2000 годзе гэтая дата застанецца адно што фармальна знакава-значнай і ўрачыстай...

Святкаванне пачалося "Малітвай" Наталлі Арсеннеевай. Першым выступіў Ніл Гілевіч, які з'яўляўся тады намеснікам старшыні камісіі, што займалася праектам Закона "Аб мовах". Ён узгадаў фрагменты з уласнага выступлення ў парламенце перад галасаваннем. Гэтыя пранікліввыя словы засталіся, на жаль, актуальнымі і сёння.

Генадзь Бураўкін, які ў свой час быў старшынёй Таварыства беларускай мовы, у сваім выступленні параўнаў рэдакцыі законаў аб мовах 90-га і 98-га гадоў. Ён падкрэсліў, што з новага тэксту закона знята сутнасная прэамбула: "Мова — не толькі сродак зносін, але і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жывая мова — жывы народ".

Леанід Лыч, якому, між іншым, належыць непасрэдная ініцыятыва правесці гэтыя ўрачыстасці, коратка і акцэнтавана прааналізаваў, чаму беларуская мова згубіла адзіна дзяржаўны статус.

Наогул зала была паўнюткая — пісьменнікі, актывісты ТБМ, палітычныя дзеячы. На жаль, толькі апазіцыйныя.

Дарэчы, як сказаў старшыня ТБМ Алег Трусаў, падобныя ўрачыстасці пройдуць бліжэйшым часам па ўсёй краіне. А 26 лютага ў сталіцы адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя "Закону "Аб мовах" — 10 гадоў", на якой будзе дадзены самы грунтоўны аналіз цяперашняга стану беларускай мовы.

**Кірыла ПАЗНЯК**

ВАНДРОЎКІ

# А за "Харошкамі" — балет...

На пачатку года, выступіўшы перад мінчукамі з вялікай канцэртнай праграмай, Дзяржаўны фальклорна-харэаграфічны ансамбль "Харошкі" на чале з мастацкім кіраўніком Валянцінай Гаявой выправіўся ў Кітай. Творчая вандроўка прадоўжыцца цэлых паўгода.

А на пачатку гэтага тыдня выправіўся ў далёкую дарогу Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра Валянціна Елізар'ева. Гастрольны маршрут знанага калектыву таксама пралягае ў Кітай, а на афішы — "Лебядзінае возера" ды "Спартак". У спектаклях занятыя "зоркі" беларускага балета: Кацярына Фадзеева, Веніямін Захараў, Уладзімір Даўгіх, яркія маладыя салісты Вольга Гайко, Руслан Мінін ды інш. Развітваючыся з мінскай публікай перад, як мяркуецца, досыць працяглым расстаннем, артысты выступілі ў лепшых спектаклях цяперашняга рэпертуару. Адбыўся і "юбілейны", 50-ты паказ балета В. Елізар'ева — А. Мдзівані "Страсці" ("Рагнеда").



*На здымку: сцэна з балета "Страсці" ("Рагнеда").*

*Фота Віт. АМІНАВА*

ПАМЯЦЬ

# "...Інтэлігент сялянскага паходжання"

Вялікую літаратурна-мемарыяльную работу праводзяць у Пухавіцкім раёне. Толькі за апошнія гады тут урачыста адкрыты мемарыяльныя дошкі ў гонар Якуба Коласа, Алеся Бачылы. Штогод праводзяцца дні памяці народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава. А літаральна днямі ў вёсцы Зазер'е адкрыта мемарыяльная дошка ў знак памяці пра паэта Аркадзя Моркаўку (1900—1957). Зазер'е, Пярэжыр, Станцыя Седча (альбо — "16-ы раз'езд"), Зазерка — усе гэтыя мясціны і сілкавалі паэтычнае натхненне, праставалі талент свайго земляка.

Да адкрыцця мемарыяльнай дошкі спрычыніліся, безумоўна, мясцовыя ўлады, мясцовыя руплўцы збярэжання гістарычнай і літаратурнай памяці краю. Найперш — намеснік старшыні Пухавіцкага райвыканкама Тамара Шчэкоціна, загадчык аддзела культуры райвыканкама Яўген Сушко, дырэктар раённага краязнаўчага музея Аляксандр Пpановіч.

І на адкрыццё дошкі, і на сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі Зазерскай сярэдняй школы завіталі родныя Аркадзя Моркаўкі — дачка Ларыса Аркадзьеўна Проніна, унучка Ірына Львоўна Качаткова, праўнукі. Ушанаваць памяць адметнага творцы прыехалі на пухавіцкую зямлю і намеснік старшыні рады Саюза беларускіх пісьменнікаў паэт Навум Гальпяровіч, галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" паэт Алесь Пісьмянкоў, галоўны рэдактар газеты "Чырвоная змена" крытык і краязнаўца Алесь Карлюкевіч.

Прыемна, што досыць сур'ёзна падрыхтаваліся да сустрэчы ў мясцовых школе і бібліятэцы. Для чытачоў бібліятэкі падрыхтавана была выстаўка матэрыялаў, прысвечаных творчасці літаратараў-землякоў. А ў Зазерскай сярэдняй школе гасцей пазнаёмілі з літаратурнай кампазіцыяй па творчасці Аркадзя Моркаўкі. У час сустрэчы, у размовах пасля яе выказваліся слушныя думкі пра неабходнасць стварэння ў школе краязнаўчага музея. Безумоўна, вартая ўвагі ў яго сценах будзе надзвычай Аркадзю Моркаўку. А мо ёсць сэнс падумаць і аб наданні школе імя паэта-земляка? Носіць жа імя Алеся Бачылы мясцовая бібліятэка.

**Мікола МІРШЧЫНА**

ІМПРЭЗЫ

# Кніга, якой наканаваны поспех

25 студзеня Уладзімір Арлоў і Генадзь Сагановіч, аўтары кнігі "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", сустрэліся з чытачамі. Прэзентацыя кнігі адбылася ў бібліятэцы імя Янкі Купалы.

Аўтары паведамілі, што задумалі кнігу ў дні жнівеньскага путчу 1991 года, якраз пасля паведамлення аб утварэнні ГКЧП. Палітычная будучыня Беларусі ў той момант уяўлялася не надта шчаслівай — а калі цяжка, дык шукаеш духоўнага апірышча ў слаўным мінулым, у "зорным часе" краіны.

Кніга, як вядома, была надрукавана ў Вільні і на грошы замежных спонсараў. Але пры іншых варунках яна магла б выйсці ў свет з мінскай дзяржаўнай друкарні і на грошы беларускай дзяржавы. Але пасля вядомых "рэферэндумаў" не толькі гэтая, але і шэраг іншых неабходных Беларусі кніг былі выкраслены з выдавецкіх планаў. Наклад у пяць тысяч асобнікаў не задаволіў чытацкага попыту. Ён разыдзецца гэтак жа хутка, як і кніга Уладзіміра Арлова "Адкуль наш род" альбо кніга Генадзя Сагановіча "Невядомая вайна". Дарэчы, сп. Сагановіч рыхтуе новае выданне "Невядомай вайны", у якое ўвойдуць зусім не вядомыя шырокай грамадзе і малавядомыя навукоўцам матэрыялы аб гэтых драматычных падзеях, знойдзеныя аўтарам у архівах у апошні час. Магчыма, што новае выданне будзе не толькі на беларускай, але і на ангельскай мове.

Сустрэча з чытачамі часам набывала характар навуковай дыскусіі. Прысутных вельмі хвалявала пытанне гістарычнай тэрміналогіі. Наколькі тэрмін "Беларусь" адпавядае нацыянальным інтарэсам, ці не варта нам вярнуцца да спрадвечнага — "Літва", "ліцвіны"? Сп. Сагановіч прыгадаў, што і сам, каб не блытаць старажытную Літву з сучаснай краінай, што мае такую ж назву, карыстаўся тэрмінам "Летува" і "летувісы". Аднак, на ягоную думку, вырашаць гэтую праблему трэба комплексна. Русь, Літва, Беларусь — гэта звенні адзінага ланцуга. З гэтага і варта сёння зыходзіць. А сп. Арлоў дадаў, што невядома якую назву будзе мець наша зямля праз сто-дзвесце гадоў (дай Бог, каб не "Россия" — падумалася мне...)

Уладзімір Арлоў рыхтуе новае выданне "Таямніцаў Полацкай гісторыі". У сувязі з гэтым да яго былі пытанні адносна кантактаў з беларускай філіяй Рускай праваслаўнай царквы. І яшчэ: ці мае нейкая канфесія Беларусі набыць статус нацыянальнай рэлігіі. Уладзімір Арлоў мяркуе, што Беларусі наканавана быць краінаю шматканфесійнай, а праваслаўная царква ў Беларусі можа стаць беларускай, толькі вызваліўшыся ад маскоўскага кіраўніцтва, стаўшы аўтакефальнай. Дарэчы, у справе беларусізацыі праваслаўная царква моцна адстае ад каталікоў і пратэстантаў.

На заканчэнні прэзентацыі чытачы мелі магчымасць набыць кнігу "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" з аўтаграфамі аўтараў.

Аўтары, трэба адзначыць, даволі крытычна ставіцца да сваёй працы. Штосьці можна было зрабіць і лепей. Увогуле ўдасканальваць можна да бясконцасці. Але гэта справа будучыні, наступнага наклада, наступнага выдання.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

ЮБІЛЕІ

# Ад "Чырвонай Беларусі" пачатак

У нашых калег з часопіса "Беларусь" і ў нашых добрых суседзяў — бо ўжо колькі дзесяткаў гадоў жывём мы ў міры ды згодзе на першым паверсе аднаго і таго ж будынка — свята: 70 гадоў назад, у студзені 1930 года з'явіўся першы нумар іх выдання. Праўда, тады часопіс называўся не "Беларуссю", а ў духу свайго часу — "Чырвонай Беларуссю". І адпаведна адлюстроўваў той час такім, якім ён быў. У гэтым лёгка ўпэўніцца, калі пазнаёміцца з першым нумарам, што на сённяшні дзень даўно стаў бібліяграфічнай рэдкасцю і ёсць толькі ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Ды і гэта зусім не той экземпляр, які ў ліку абавязковых трапіў у яе адразу пасля выхаду. На ім значыцца пячатка Адэскай публічнай бібліятэкі — яшчэ адно пацвярджэнне, як няпроста было аднаўляць фонды галоўнай бібліятэкі краіны пасля Вялікай Айчыннай вайны.

Але пра сам нумар... Невысокага гатунку папера, якая за сем дзесяткаў гадоў зусім стала шэрай. А асноўныя матэрыялы такія, што не выклікаюць сумнення аб грамадска-палітычнай скіраванасці выдання. У перадавым артыкуле "11 год БССР" чытаем: "Будуючы сацыялістычную бацькаўшчыну, рабочая кляса і яе правадыр — камуністычная партыя вядзе бязьлітасную барацьбу з капіталістычнымі элемэнтамі гораду і вёскі, дае рашучы бой правым і левым ухілістам, змагаецца з прымірэнцтвам усіх колераў, усіх нацый". Прыводзяцца і канкрэтныя прыклады "барацьбы". З судовага нарыса, змешчанага на старонках часопіса, можна даведацца, што справядлівая кара спасцігла трох контррэвалюцыянераў — Насуту, Парсакова і Венедыктава. Двое былі прыгавораны да расстрэлу, адзін — да пяці гадоў зняволення.

Такі быў час, таму і "песні" — адпаведныя. Як і ў гэтым нумары "Чырвонай Беларусі":

"Шэраг вясковых цэркваў, паводле прыгавору сялян, перадаецца пад сьвірны для ссыпкі хлеба". Але тут жа ёсць і такое паведамленне: "У Мінску пачалі работу курсы па падрыхтоўцы рабочых, якія едуць на працу ў калгасы".

У гэткім духу ўспрымаецца змест і іншых нумароў "Чырвонай Беларусі". Часопіс вялікую ўвагу ўдзяляў надзённым задачам дня, таму расказваў пра жыццё горада і вёскі, адпаведна пра індустрыялізацыю і калектывізацыю, асвятляў найбольш значныя падзеі з культурнага жыцця. Вядома, шмат і такіх матэрыялаў, у якіх жаданае выдаецца за рэальнае ці над праўдзівасцю пераважае "захопленасць", калі на ўсё глядзіцца праз ружовыя акуляры і падаецца, што толькі яны дазваляюць аб'ектыўна ўспрымаць рэчаіснасць.

Але разам з тым камплекты "Чырвонай Беларусі" — гэта летапіс жыцця Беларусі ў пачатку 30-х гадоў. Так, летапіс толькі гэтага перыяду, бо ўжо ў 1933 годзе часопіс спыніў свой выхад. Прычына называлася празаічная: "зыходзячы з неабходнасці ўпарадкавання і ўмацавання кіраўніцтва часопіснай справай і неабходнасцю максімальнай эканоміі паперы". Але не будзем забываць, што гэта быў час, калі прымаліся першыя захады па выкрыцці "нацдэмаўшчыны". Па назве "Беларусь" была "Чырвонай...", але шмат якія матэрыялы партыйнае кіраўніцтва не задавальнялі. Не задавальняла, відаць, ва ўсім і тое, як "Чырвоная Беларусь" прапагандавала нацыянальную літаратуру, мастацтва, а аўтарамі яе, у прыватнасці, былі Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, а таксама Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Кузьма Чорны і іншыя.

Прайшлі гады, і "Чырвоная Беларусь" стала часткай гісторыі беларускай журналістыкі, а ў 1944 годзе выйшаў першы нумар новага часопіса "Беларусь". Ніхто тады і не задумваўся, што гэтае выданне па сутнасці з'яўляецца пераемнікам "Чырвонай Беларусі", бо таксама адразу пачало арыентавацца на грамадска-палітычную, культурна-асветную тэматыку. Толькі ў 1982 годзе ўспомніў пра гэта галоўны рэдактар "Беларусі" Аляксандр Шабалін (рэдакцыйны калектыў у розныя гады ўзначальвалі Міхась Чарот, Мікола Хведаровіч, Ілья Гурскі, Міхась Калачынскі). І вырашыў ліквідаваць несправядлівасць. А зрабіць на той час гэта можна было толькі з дазволу ЦК КПБ, куды і быў накіраваны адпаведны ліст-просьба, у якім абгрунтоўвалася неабходнасць лічыць часопіс "Беларусь" пераемнікам "Чырвонай Беларусі". Такім чынам "Беларусь" адразу пастарэла на чатырнаццаць гадоў.

Калі сабраць разам усе гадавыя камплекты "Чырвонай Беларусі" і "Беларусі", яны зоймуць не адну паліцу — як-ніяк, а больш за 730 нумароў. Па-рознаму ўспрымаюцца яны сёння. Адны, як толькі бібліяграфічная каштоўнасць, гістарычныя дакументы свайго часу. А іншыя і цяпер, праз некалькі дзесяткаў пасля іх выхаду ў свет, цікава чытаць. Праўдзівей сказаць, нават не столькі нумары цалкам, колькі асобныя матэрыялы ў іх. Найперш гісторыка-краязнаўчага характару, зместам сваім звязаныя з тымі ці іншымі момантамі нацыянальнай гісторыі. Як ні дзіўна, але ў гэтым сэнсе выйграюць нумары, што выходзілі ў першыя пасляваенныя гады, а для Беларусі такім годам, як вядома, стала і палова 1944-га.

На працягу 1944—1946 гадоў у "Беларусі" пастаяннымі з'яўляліся рубрыкі "Наш даведнік", "Старонкі гісторыі"... І што самае цікавае, друкаваліся матэрыялы, якія павінны былі ўвайсці ў энцыклапедычны слоўнік "Выдатныя дзеячы беларускай зямлі", што рыхтаваўся Інстытутам гісторыі Акадэміі навук БССР пад рэдакцыяй сакратара ЦК КП(б)Б Ц. Гарбунова. На жаль, даведнік так і не пабачыў свет, а публікацыі на старонках "Беларусі" сведчаць, што гэта магло б быць вельмі цікавае і карыснае выданне. Ды і іншыя матэрыялы аналагічнай тэматыкі гавораць на карысць таму, што ў першыя пасляваенныя гады арыентацыя "Беларусі" была ярка акрэсленага адраджэнскага характару. Калі б на вокладцы не быў пазначаны год, нізашто не паверыў бы, што пісалася гэта не адно дзесяцігоддзе назад. Мяркуйце самі па назвах матэрыялаў: "Нашы продкі", "Усяслаў Чарадзей", "Крутагор'е — Койданава — Дзяржынск", "Карусь Каганец", "Браніслаў Эпімах-Шыпіла", "420-годдзе беларускага друку", "Грунвальдскі бой", "Смаргонская акадэмія", а поруч даведкі пра жыццё братоў Тышкевічаў, А. Ельскага, І. Ходзькі, С. Кутаргі, У. Дыбоўскага і іншых нашых знакамітых землякоў.

Па часопісе "Беларусь", як і па іншых перыядычных выданнях, што выходзяць даўно, можна прасачыць накірунак тых ці іншых змен, якія адбываліся ў жыцці грамадства, бо гэта свайго роду лакмусавая паперка. Асабліва чуйнай да іх была гісторыка-краязнаўчая тэматыка. Замест яе, пачынаючы з 1947 года да сярэдзіны 50-х у "Беларусі", як калісь у "Чырвонай Беларусі", шмат месца займалі матэрыялы, якія славілі савецкі лад жыцця, але абыходзілі ўвагай пытанні нацыянальнага развіцця. Праўда, ужо шукалі не "нацдэмаў", але затое перападала "касмапалітам", "буржуазным нацыяналістам". А пачалася "хрушчоўская адліга", і зноў на старонках "Беларусі" "пасвятлела"...

Часопіс — гэта люстра грамадскага жыцця. І сённяшняя "Беларусь" — таму сведчанне. Праблематыка часопіса адпаведная часу. Знаходзіцца месца матэрыялам грамадска-палітычнай скіраванасці, ёсць і сацыяльна-эканамічнага кірунку, але падача іх не такая, якая была не толькі раней, а і некалькі гадоў назад. Будзе правільным сказаць, што часопіс "Беларусь" — найбольш сучасны з сённяшніх перыядычных выданняў нашай краіны. Прынамсі, выданняў дзяржаўных. І гэта тычыцца не толькі матэрыялаў, а і знешняга выгляду, дызайну.

"Беларусь" — візітная картка Беларусі. Таму рэдакцыя і робіць, здавалася б, немагчымае: на малой плошчы, ва ўмовах, калі літаральна ўсяго не стае, у кожным нумары ўмудраецца даць так шмат публікацый, што, калі нават іншых нумароў не чытаў, уяўленне аб нашай краіне можна атрымаць дастаткова поўнае. Дзеля гэтага не першы год выходзіць і рускамоўны варыянт "Беларусі", а зусім нядаўна, аб чым мы паведамлялі ўжо, з'явіўся і часопіс "Беларусь" на англійскай мове, які не паўтарае беларуска-рускамоўны варыянт, стаў выданнем самастойным па змесце.

Ад "Чырвонай Беларусі" пачатак... Пачатак добры. А калі трывалая аснова закладзена, дык і жывецца прыстойна.

З юбілеем калегі! З юбілеем пастаянныя чытачы "Беларусі".

Жыць "Беларусі" ў суверэннай Беларусі!

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

## Лаўрэаты часопіса "Полымя"

Рэдакцыйнай калегіяй часопіса "Полымя" прысуджаны прэміі за лепшыя творы, апублікаваныя на яго старонках у 1999 годзе. Лаўрэатамі "Полымя" сталі: у галіне прозы — **Вольга Іпатава** (за раман "Залатая жрыца Ашвінаў", NN 6,7), **Алесь Наварыч** (за апавяданні "Чырвоны мур пад зялёнай ялінаю" і "Грушы", N 10); у галіне паэзіі — **Рыгор Барадулін** (за цыкл вершаў "Псалмы Давідавы", NN 3, 11), **Алесь Пісьмянкоў** (за вершы, N 12); па раздзеле "Старонкі нашай гісторыі" — **Аляксей Ненадавец** (за артыкул "Незаслужана забыты", N 5), "Крытыка і літаратуразнаўства" — **Тамара Нуждзіна** (за артыкул "Загадка Віктара Казько", N2), "Сярод кніг" —**Васіль Жуковіч** (за рэцэнзію на кнігі Ніны Мацяш "Я вас люблю..." і "Палёт над жытам", N 8).

АНОНС

## Прэзентуюць... CD

Пакуль ёсць час, паспяшайцеся набыць білеты на першы ў новым годзе канцэрт Ансамбля салістаў "Класік-Авангард". Гэта будзе своеасаблівая прэзентацыя праграмы, запісанай на першым кампактдыску калектыву. Выйшаў ён у Швейцарыі восенню мінулага года, тамсама адбылася ўрачыстасць, пра якую мы з часам раскажам больш падрабязна. Адначасова быў выдадзены і так званы рэкламны CD, запісаны швейцарцамі не ў студыі, а непасрэдна на канцэрце беларускіх музыкантаў. Творы, прадстаўленыя на абодвух дысках, і прагучаць у праграме-прэзентацыі праз тыдзень, 8 лютага, у Зале камернай музыкі, што на Залатой Горцы ў Мінску. Вядома, гэта будуць не ўсе творы, а толькі па адным чатырох аўтараў: А. Жыватова, У. Дзешавова, Д. Смірнова (рускі авангард 20 ст.) ды В. Кузняцова (авангард беларускі... пачатку трэцяга тысячагоддзя). І, зразумела, што прэзентаваць публіцы CD ніхто не будзе. Нам проста падораць жывую музыку. У выдатным выкананні "Класік-Авангарда" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава.

**С. Б.**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Адкрыўся філіял

Веткаўскі музей народнай творчасці адкрыў свой філіял у цэнтры Гомеля. Першая экспазіцыя расказвае аб народных святах і абрадах. Прадстаўлены ў філіяле таксама іконы, ткацтва, прадметы быту мінулых стагоддзяў. Тэматычныя экспазіцыі для гамяльчан будуць праводзіцца пастаянна. У планах музейшчыкаў — навучанне мясцовых школьнікаў тэхніцы вышыўкі і ткацтва.

## "Філасофія і сучаснасць"

Так называецца выстава гомельскага жывапісца Яўхіма Міневіцкага, якая адкрылася ў абласным цэнтры. Палотны мастака ўражваюць неардынарнасцю ідэйна-тэматычнага накірунку, своеасаблівай манерай жывапіснай мовы, дзе колеры канцэнтруюцца вакол перакрыжаванняў сонечных праменняў. Як адзначылі на выставе вядомыя жывапісцы Р. Ландарскі і С. Дзьяканаў, работы Міневіцкага пераконваюць у майстэрстве мастака, у індывідуальнасці яго творчага почырку.

## Прэміі — таленавітым

Аблвыканкам устанавіў штогадовыя прэміі для падтрымкі таленавітай творчай моладзі: навучэнцаў дзіцячых школ мастацтваў, сярэдніх навучальных устаноў, акцёраў. У мастацкім аддзеле краязнаўчага музея адбылася цырымонія ўручэння прэмій 18-ці пераможцам, якія летась вызначыліся на прэстыжных конкурсах, фестывалях, мастацкіх пленэрах, у выканаўчым майстэрстве. Прэміі ўручыў старшыня аблвыканкама М. Вайцянкоў.

## Узнагарода пасла Расіі

Гісторыя Гомеля звязана і з жыццём Пушкіна. Праз гэтыя мясціны паэт ехаў у ссылку. У абласным цэнтры ёсць вуліца, названая ў гонар Пушкіна, а вядомы мясцовы скульптар Г. Гарбанёў выканаў бронзавы бюст паэта, які неўзабаве будзе ўстаноўлены каля абласной бібліятэкі. Днямі пасол Расіі ў Беларусі В. Далгоў уручыў дырэкцыі гэтай установы памятны медаль, выпушчаны да 200-годдзя з дня нараджэння Пушкіна, за актыўную дзейнасць бібліятэкі па прапагандзе творчай спадчыны паэта.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*БРЭСТЧЫНА...*

## У час зімовай сесіі

Упершыню за апошнія колькі гадоў са студэнтамі-завочнікамі выпускнога курса філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржуніверсітэта сустрэліся мясцовыя пісьменнікі. У сустрэчы гэтай удзельнічалі Валянціна Кукса, Анатоль Дэбіш, Мікола Сянкевіч і Алесь Паплаўскі. Цэлую акадэмічную пару — дзве гадзіны — гучала паэтычнае слова, адказвалі літаратары на пытанні суразмоўцаў. Алесь Паплаўскі спяваў свае песні. Кожны з прысутных мог набыць кнігі гасцей, атрымаць аўтограф. Застаецца дадаць, што такое жаданае і патрэбнае мерапрыемства арганізавала і правяла дацэнт кафедры беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта Зоя Мельнікава.

**Уладзімір ТАРАСЮК**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Кніга аб родным краі

Жыхары Іўеўскага раёна атрымалі ў новым годзе незвычайны падарунак. Гэта кніга "З гісторыі вякоў і пакаленняў Іўеўскага краю". Выдадзена яна райвыканкамам, Гродзенскім універсітэтам імя Янкі Купалы, абласным і раённым саветамі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. У кнізе расказваецца аб помніках розных часоў і эпох, старажытных паселішчах. Пра Іўе, якое было ўжо ў XVI стагоддзі адным з цэнтраў асветніцтва і культуры, апавядаюць навукоўцы І. Фёдараў, Т. Данскіх, А. Госцеў... Пра передваенны перыяд, пра вызваленне раёна ад нямецкай акупацыі расказваюць публікацыі М. Васілючака і І. Басюка. Кніга, выдадзеная ў Лідскай друкарні, змяшчае таксама нямала фотаздымкаў, малюнкаў і картаў.

## Юбілей "Крэсавяцаў"

Ансамбль польскай песні "Крэсавяцы" з Ліды адзначыў свой дзесяцігадовы юбілей. З творчасцю гэтага самабытнага калектыву добра знаёмы жыхары старажытнага горада і суседніх раёнаў. З поспехам выступаў гурт і ў Польшчы. У рэпертуары ансамбля пераважаюць польскія песні, але спевакі выконваюць творы і на беларускай, украінскай і англійскай мовах. На ўрачыстай вечарыне калектыў павіншавалі гродзенскі біскуп Антоній Дзямянка, Генеральны консул Польшчы ў Гродне Сільвестр Шостак і намеснік старшыні Лідскага гарвыканкама Валерый Кучынскі.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Ад казкі да мюзікла

У абласным тэатры лялек адбылася прэм'ера казкі па п'есе беларускага драматурга Сяргея Кавалёва "Шлях у Батлеем" на музыку Паўла Кандрусевіча. Гэту казку галоўны рэжысёр Алег Жугжда паставіў яшчэ летась, але з-за рамонту будынка гледачы ўбачылі яе толькі сёлета. Зараз тэатр рыхтуе яшчэ адну прэм'еру — спектакль-мюзікл "Залаты ключык".

## Праз літаратуру, жывапіс...

У Хоцімскай музычнай школе працуе літаратурна-музычны салон. Ідэя яго стварэння належыць былой выкладчыцы замежных моў Галіне Урбановіч, якая вырашыла аб'яднаць творчыя сілы Хоцімшчыны, каб праз музыку, літаратуру і жывапіс павышаць інтэлектуальны ўзровень жыхароў. У салоне ўжо адбылося некалькі мастацкіх імпрэз.

## Дапамагаюць мытні

Фонды Мсціслаўскага гісторыка-археалагічнага музея папоўніліся. Па рашэнні Міністэрства культуры рэспублікі раённаму музею перададзена паўсотні абразоў, канфіскаваных на Брэсцкай мытні. Дарэчы, раней мсціслаўцы атрымалі дзевяць абразоў, рэквізаваных у кантрабандыстаў гродзенскімі мытнікамі.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Яшчэ адзін заслужаны

З'явіўся яшчэ адзін заслужаны калектыў РБ. У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў ім стаў Беларускі тэатр "Лялька". Віцебская трупа, заснаваная ў 1985 годзе, атрымала гэтае ганаровае званне за значныя дасягненні ў галіне тэатральнага мастацтва. Дарэчы, мастацкі кіраўнік "Лялькі" Віктар Клімчук летась таксама атрымаў званне заслужанага дзеяча мастацтваў, а тэатральны калектыў — прыз ЮНЕСКА "Крыштальную зорку".

**Святлана ГУК**

ПАМЯЦЬ

Віктар ГАРДЗЕЙ

# Падарожжа ў Цельшына

ЗА АКНОМ вагона ўжо ад самых Баранавіч замільгалі знаёмыя краявіды: чэзлыя ўздоўж чыгункі, пакурчаныя хвоі, мізэрныя сваёй беднасцю пасёлачкі тых, яшчэ першых, дачнікаў, густа зарослае чаратамі рэчышча ціхаплыннай Шчары, але чым далей, то ўсё выразней прыкметы сапраўднага Палесся. Абапал двухпуткі часцей і часцей трапляюцца белыя бярэзнікі, адзіночныя ў полі дубы, неасушаныя гразкія балацявіны, а ў прамежку паміж імі на сухіх пагорках вабяць зрок гонкія грыбныя ды ягадныя бары. Прыгарадны дызель-поезд, мерна пагрукваючы коламі на стыках рэек, пачынае замаруджваць імклівы бег і нарэшце спыняецца на бязлюдным паўстанку ў вядомай мне змалку вёсцы, чыгуначным палатном раздзеленую на дзве неаднолькавыя палавіны.

Дзень добры, Цельшына!

Пасажыры, найбольш хлопцы і дзяўчаты, выкульваюцца на пясчаны насып, што служыць тут перонам, бягуць на пераезд, а лі балота, што мела дзіўную назву Чмелішча, з маіх родных Малых Круговіч можна было ці праехаць, ці прайсці нават нацянькі: спачатку гацямі і грэблямі, затым лясным гасцінцамі цераз урочышчы Княжое і Чорнае, а там, далей, за віхлястай рачулкай Цною далёка бачыліся ў летняй смузе густыя люсінскія гаі і бары.

Але, як часта бывае, пра вёску Люсіна я ўпершыню даведаўся з трылогіі "На ростанях", якую яшчэ ў дзяцінстве прагна ўхапіў у вясковай хаце-чытальні, таму што ўжо на першай старонцы ўбачыў такія знаёмыя назвы вакольных вёсак. Малады настаўнік, ён жа "панічыку" Андрэй Лабановіч хваліць школьную старожку Мар'ю: "О, не, бабка, веру, веру! Аб тваім знахарстве усюды кажуць: у Хатовічах, у Малкавічах, у Ганцавічах — усюды!" У тым дзесяцігадовым узросце было вельмі дзіўна, што нашы глухія палескія мясціны так хараша апявае славуты пісьменнік, і таму выдатная кніга была прачытана на адным дыханні, што называецца, за адзін прыхватак. I, напэўна, менавіта з таго дацць даражэй" мяне зусім не цікавяць. Справа ў тым, што камерцыйныя шапікі прымасціліся на падмурку невялікай школкі, дзе калісьці настаўнічаў малады Якуб Колас.

Захапляючыя падзеі, якія адбываліся ў палескай глушы на пачатку веку, зразумела, захоўваюць сваю таямніцу, але сёе-тое ўсё ж можна ўявіць. Мроі як хутка прыходзяць, так хутка і знікаюць. Там, удалечыні, за тоўшчаю часу, над Цельшынам вісіць панурая асенняя ноч, а на ўсю вёску ў цемры бліщчыць толькі адно акенца. У цесным пакойчыку гарыць лямпа пад светлым абажурам, на стале перад Андрэем Лабановічам ляжыць разгорнутая кніга. Вось ён, стомлены за дзень, моцна заснуў, і над ім клапатліва схілілася бабка Мар'я. Знахарка шэпча пацеры і замовы, каб у "панічыка" перастала балець галава. Па кнізе Якуба Коласа вядома, што паблізу стаяў і дом пана падлоўчага, абнесены высокім плотам з пералазам, цераз які ўпотай скакаў малады настаўнік, каб пабачыць вясёлую і задзірыстую Ядвісю. Вельмі шкада, што іх гарачае і яшчэ кволае гу..." Напэўна, акурат гэтым і тлумачацца калючыя, не вельмі дружалюбныя позіркі, якімі на адыход незнаёмага прыблуду надзялілі дзяўчаты з камерцыйных шапікаў. Як жа! Доўга таптаўся паблізу, штосьці думаў, разважаў, нават прыцэньваўся да іхняга няхітрага тавару, а купіць нічога не купіў.

На гандляроў, аднак, крыўдаваць не трэба, а як па-людску, то і іх можна зразумець. Няма пакупцоў — няма прыбытку. Пасажыры з дызель-поезда даўно разбегліся хто куды, не бачна нават дзяцей, не снуюць сюдтут сівыя бабулькі. Люсінцы капаюць бульбу. Раптам аднекуль наляцеў віхор, закружыўся ўздоўж папярэчнай ад скрыжавання вуліцы, дзе-нідзе выхапіў з паштовых скрынак свежыя газеты і параскідваў іх па апусцелых агародах. Падняць газеты да вечара не будзе каму. Непадалёк за сельскай крамай, дзе таксама ні разу не бразнулі дзверы, кароткі завулак вільнуў улева, на поплаве злучыўся з прасёлкам, а той у сваю чаргу нырнуў у густы мяшаны лес. Што і казаць: колькі разоў я хадзіў і ездзіў па гэтай самай дарозе! Вунь мне чамусьці мроіцца: у іхнім гаманкім, вясёлым натоўпе матлянуўся на момант і знаёміты паношаны "лапсярдак" маладога настаўніка Андрэя Лабановіча. Але раптоўная мроя знікла, як і прыйшла, вочы паступова звыкаюцца з даўно нябачанымі палескімі малюнкамі, якія набываюць першапачатковы, рэальны сэнс. Так, гэта не Цельшына. Гэта славутая вёска Люсіна, дзе ў мясцовай школцы працаваў Якуб Колас, і нават цяпер, на размежжы двух стагоддзяў, яго тут любяць і помняць. I сціплы паўстанак, дзе спыніўся наш дызель-поезд, уво даўным-даўно носіць імя народнага песняра Беларусі.

Што ні кажы, а ўсё ж прыемна сам-насам прайсціся па тых сцежках і дарожках, па якіх у такой жа скрушнай адзіноце калісьці блукаў галоўны герой трылогіі "На ростанях", вялікі праўдашукальнік і рамантык Андрэй Лабановіч. У першай частцы твора — аповесці "У палескай глушы" Якуб Колас надзвычай маляўніча і сакавіта апісаў побыт і звычкі палешукоў, іх гаротнае жыццё ў часы царызму, а многія жыхары Люсіна сталі прататыпамі непаўторных персанажаў кнігі — тутэйшай інтэлігенцыі і сялян. Даўнія з'явы і малюнкі выразна паўстаюць у вачах, і ўжо на пераездзе, паблізу невялічкай пачакальні з акенцам касіра і раскладам руху цягнікоў, нешта змушае прыцішыць крок, азірнуцца вакол сябе.

Вунь тая вуліца, што справа ад чыгункі, напрыканцы вёскі злучаецца з лясным гасцінцам, які праз надта грыбное ўрочышча Пакамерава прывядзе ў былую воласць Хатовічы, а па-сапраўднаму ў вялікую вёску Хатынічы, зноў жа не адзін раз згаданую ў аповесці. Недзе там, далей па гэтай дарозе, вам трапяцца і Завітанкі, дзе жыў пан каморнік з дачкой-прыгажуняй, і знакамітая Яшукова гара, дзе паміж дзвюх асін сяляне павесілі свайго прыгнятальніка, лютага пана Яшука. Тут жа, наводшыбе Люсіна, у пачатку стагоддзя махалі велізарнымі крыламі два ветракі, стаяла заняпалая карчма "з пакрыўленымі сценамі і пагнутым дахам", а наўсцяж чыгункі на аднолькавай адлегласці ад раз'езда разбягаліся чатыры хаткі, у якіх жылі будачнікі. Толькі дарэмна шукаць у часе і прасторы нейкія адзнакі даўніны: сёння нічога гэтага няма — ні жоўтых будак, ні ветракоў, ні старой карчмы, бо ўжо і тады адзінокі нямоглы шынкар Абрам дажываў свае апошнія дні. Па кнізе помніцца яшчэ, што за вярсту адсюль чыгунка рабіла залом, але, зноў жа, таго залому не відаць: каляю выпрамілі ці то за польскім панаванні, ці то пасля вайны, і цяпер па абодва бакі ад пераезда рэйкі бягуць імкліва і роўна, як страла. Яно і не дзіўна: у суседняй Цне сплыло багата вады, у Люсіне змянілася не адно пакаленне палешукоў, і пра колішні час напамінаюць хіба што назвы ўрочышчаў — Сяльцо, Татарка, Яшукова гара, Целяшоў дуб...

Дызель-поезд, пакуль я таптаўся на пераездзе, адгукнуўся ўжо аднекуль здалёк, з-пад самых Малькавіч (у аповесці — Маневічы), з-за рэдкіх хмурынак выглянула пяшчотнае сонейка, і вёска Люсіна ажыла, засвяцілася ўва ўсёй першароднай вераснёўскай прыгажосці — з пажоўклымі старасвецкімі прысадамі ўздоўж вуліц, з новымі мураванымі дамамі і прысемістымі старымі хаткамі ўпершамешку, з адчайна мароктымі прагаламі там, дзе раней стаяла чыёсьці жытло. Вядома, гэта не першае маё падарожжа па мясцінах, дзе пачынаў свой працоўны і творчы шлях назаўсёды любімы ў беларускім народзе Якуб Колас. Сюды, у Люсіна, калісьці, пакуль не асушылі і не ўзарасамага часу перад вачыма неадступна стаяць непаўторныя вобразы палешукоў — цельшынскага старасты Рамана Круглага, рыбака дзеда Мікіты, возніка Сцяпана Рылкі, святых айцоў Мадэста і Кірылы, цэлая галерэя жаночых партрэтаў — паненак-прыгажунь Ядвісі, Габрынькі, Людмілы, Марыны, той жа вельмі чуйнай да чужога болю знахаркі бабкі Мар'і.

Там, у маленстве, іменна па трылогіі "На ростанях", калі можна так сказаць, адбылося завочнае знаёмства з "самавітымі, простымі малюнкамі Палесся, поўнымі невыразнага характару і жыцця", але пазней, ужо ў юнацкім узросце, было і рэальнае знаёмства з гэтай дзіўнай вёскай Люсіна. Першы раз сюды, на коласаўскія сцежкі-дарожкі, я прыехаў дзесьці ў сярэдзіне шасцідзесятых у якасці карэспандэнта раённай газеты, каб напісаць рэпартаж пра догляд пасеваў у тутэйшым калгасе. Тагачасны люсінскі старшыня Фадзей Паўлоўскі на траскучым матацыкле доўга вазіў мяне па калгасных палях, дзе толькі ўзыходзілі бульба, буракі, лён, знакамітая "хрушчоўская" кукуруза. Асушаных тарфянікаў тады яшчэ не было, і палеткі невялікімі акрайкамі ці палянкамі параскідаліся то скрозь лесу, то дзесьці паміж балотцамі і пясчанымі выдмамі. У той жа дзень я пабываў на ферме, потым самахоць, з вялікім інтарэсам заглянуў і ў прасторную драўляную школу, ведаючы, што адразу пасля вайны яна пабудавана на грошы Якуба Коласа.

Прайшло некалькі дзесяцігоддзяў, і пейзаж у вёсцы істотна змяніўся: на месцы старых караўнікаў, цялятнікаў, стайні тырчаць адны цагляныя шулы, паміж якімі закладваліся прасценкі з бярвенняў, няма і школы: чарнее яшчэ свежае котлішча, на шырокім пляцы асенні ветрык аскубае жоўтае лісце з адзінокіх, самотных дрэў. Шкада: сённяшнія калгасныя і сельсавецкія кіраўнікі не змаглі ацаніць як след памяць народнага песняра. Праўда, у другім канцы вёскі, направа ад вуліцы, што вядзе з пераезда, стаіць мураваны школьны будынак, узведзены па тыпавым праекце. Увесну 1982 года мы, маладыя сябры літаб'яднання "Заранка" пад старшынствам Уладзіміра Калесніка, прыязджалі сюды на адкрыццё літаратурна-этнаграфічнага музея, які, гэтак жа, як і школа, быў названы імем Якуба Коласа.

Помніцца, першы раз у Люсіна я наведаўся па камандзіроўцы Ляхавіцкай раённай газеты, але пазней, калі ў Ганцавічах аднавілі раён, паездкі па рэдакцыйных справах у гэтую слаўную вёску былі такія частыя, што зрок перастаў успрымаць многія характэрныя, цікавыя дэталі з жыцця і побыту палешукоў. Ды ўжо ў зусім іншым святле паўстаў глыбінны палескі кут сёння — пасля амаль дваццацігадовай разлукі з ім. Самае дзіўнае: бязлюдны не толькі чыгуначны паўстанак, але і вясковая вуліца, што гнуткім выкрунтасам стрэльнула ад пераезда. Стаіць верасень, не імжыць дожджык, а ў такое сухое надвор'е, як пісаў наш класік, добра капаць бульбу. Дарослае насельніцтва, мабыць, гне спіны дзесьці за вёскай, на асушаных тарфяніках, вось таму і ціха навокал. Старасвецкія прысады, ні то карагачы, ні то ясакары — пазнаць цяжка, бо лістота на дрэвах ужо няма — уздоўж вуліцы цягнуцца да скрыжавання, дзе леваруч на нізкім, ледзь заўважным пе чышчы прытуліліся два камерцыйныя шапікі. Яны, як і ў горадзе, гандлююць рознай драбязой: жавальнымі гумкамі, "снікерсамі", майткамі ды пральным парашком. Аднак лісліва позіркі мясцовых гандляроў і іх рынкавы прынцып "купіць дзешавей — пракаханне скончылася зусім не па-людску. Ядвіся раптоўна выехала з Цельшына, бо зараўнавала саперніцу "цікавую" панну Людмілу, дачку каморніка з Завітанак. Ды, зноў жа, тут, на гістарычным скрыжаванні, з'яўляецца нечаканая думка. I ў школьных падручніках, і ў крытычных артыкулах да гэтага часу чытаем: Ядвісі ды Ядвіся, і ні разу, прынамсі, мне яе імя не сустрэлася ў спалучэнні з прозвішчам. Можа, наогул яго няма? Не, ёсць — Ядвіся Баранкевіч. Менавіта такое прозвішча меў яе бацька пан падлоўчы. Родам дзесь з Гродна і паходжаннем са старога дваранства, ён размаўляў добраю беларускай мовай і пры кожным выпадку падкрэсліваў сваю прыналежнасць да ліцвінаў, г. зн. беларусаў.

Пляц, дзе даўней стаяў дом пана Баранкевіча, спатрэбіўся іншым людзям, і, бадай, ужо немагчыма знайсці хоць бы якія сляды колішняй, увогуле заможнай, сядзібы. У памяці застаўся толькі вобраз незвычайнага чалавека з яго моцнымі рысамі і ягонымі слабасцямі. У бацькі панны Ядвісі быў цяжкі характар і круты нораў, як ссупяцца бровы і абвіснуць вусы — чакай буры. У той жа час, калі мераць нашу беларускасць строгімі меркамі пана падлоўчага, то можна смела сцвярджаць: у Люсіне і цяпер жывуць самыя сапраўдныя, шчырыя "ліцвіны". У вёсцы шануюць звычаі і абрады дзядоў, захоўваюць "традыцыі сялянскай старажытнасці", у нядзельку, не кажучы пра Вялікдзень ці Каляды, барані Божа, ніхто не возьмецца за нейкую грэшную справу. Палешукі размаўляюць на мілагучнай беларускай мове, тут і напрыканцы стагоддзя ўдаецца "пачуць няўмысля ўроненае сакавітае слова, прыказку або цікавае параўнанне". Ёсць у люсінцаў і ўласныя вясельныя песні. Напрыклад, жаласлівая і пяшчотная: "Ад Люсіна да Макава Хрысціну нявестачку..." Ці яшчэ. Кабеты дзе-небудзь на гулянцы бадзёра заяваюць: "Ой, што гэта за зелле, чырвонае карэнне?" Мужчыны, усе як ёсць за сталом, гуртам падхопліваюць: "Гэй, буракі!" Пераказаць песню, ды яшчэ такую самабытную, проста немагчыма: трэба самім наведацца ў палескую глыбінку і пасядзець з людзьмі ці то на вяселлі, ці то на хрэсьбінах.

Што ж да цяжкага характару і крутога нораву, "калі ўжо ссупяцца бровы", як у пана падлоўчага, то і гэта ў Люсіне мае месца. Успомніце хаця б бойку Лявона Шкурата і Кандрата Куксы з аповесці "У палескай глушы". Аднаго такога гарачага "ліцвіна", Піліпа Цялушку, я ведаў асабіста. Як ні дзіўна, ён быў першым вучнем Якуба Коласа і героем грамадзянскай вайны. Падчас наступлення белапалякаў люсінскі юнак арганізаваў атрад самаабароны і на подступах да станцыі сустрэў захопнікаў дружным кулямётным і ружэйным агнём. Тыя адступілі і доўга ў вёску не патыкалі нават носа. Пра партызанства Піліпа Цялушкі часта апавядала наша раённая газета, і ён у адказ дужа паважаў журналістаў. Сустрэўшы на вуліцы, гераічны дзед з белай акладзістай барадой і ордэнам Чырвонай Зоркі на пінжаку любым манерам стараўся залучыць у сваю хатку і хоць чымнебудзь пачаставаць.

Увогуле ветлівасць і гасціннасць ці не самыя характэрныя рысы жыхароў Люсіна. А яшчэ Якуб Колас справядліва пісаў: "...палешукі — людзі паважныя, сталыя, асцярожныя, не адразу і не кожнаму расчыняюць душу, бо ўжо, мусіць, сама прырода Палесся палажыла на іх сваю адзнаку. Бясконцыя балоты вучылі іх мудраму разважанню, мора лясоў выхоўвала ў іх засцярогу..." там, з краю поплава, шэрагам цягнуцца двары яшчэ не вельмі старой забудовы. У канцавой хаце, акурат цераз канаву, жыве мой даўні знаёмы Уладзімір Паўлавіч Жалезны. З юнацкіх гадоў ён працаваў у калгасе трактарыстам, цяпер на пенсіі, але як дазваляе здароўе, то часам бярэцца за сякерку і робіць цяслярскую справу даволі адмыслова. Угледаюся ў той бок, і вось дзіва: гаспадар дома стаіць пад яблыняй каля веснічак, і здаецца, таксама кагосьці чакае. Лёгкі ўздых, спорны крок, і я ўжо тут, пад яблыняй. Карабатае дрэва ад моцных парываў ветрыку-скавышу хіснулася, затрэсла голлем, як быццам працягваючы запыханаму і няўзванаму госцю чырванабокія яблыкі, а сам Жалезны, па сённяшнім часе, дык старажыл вёскі, пачуўшы у размове імя Якуба Коласа, цікаўна і дапытліва паглядзеў на мяне.

— Як жа! Ведаем мы Якуба Коласа. I раман яго чыталі. Нашу вёску Колас апісаў так праўдзіва і складна, як бы з чаго перамаляваў. Узяць таго ж старасту Рамана Круглага. Не ўмеў ні чытаць, ні пісаць, ды як спраўна служыў у воласці! Але ж, ведаем мы Якуба Коласа. I дзеці яго любяць. А староста Раман Круглы — гэта мой родны дзед...

Вось жа неспадзяванка! Стаю, разгублена лыпаю вачыма. Аказваецца, адзін з цікавейшых персанажаў аповесці "У палескай глушы" таксама меў свайго прататыпа. Якуб Колас выхапіў з жыцця і па-майстэрску апісаў зусім канкрэтнага і рэальнага чалавека. Той, кніжны, староста Раман Круглы, як і сапраўдны, быў непісьменны і каб не памыліцца ў службовых справах, выпрацаваў для сябе цэлую навуку. Беручы ў воласці казённыя паперы, дасціпны палешук складваў "павесткі з павесткамі, лісты з лістамі, нядоімкі з нядоімкамі", а дома, у Цельшына, усе гэтыя квіткі і канверты, нічога не перабблытаўшы, раздаваў дакладна па адрасу. Раман Круглы гучна трубіў носам, насіў чырвоны кажух з шырокім, як засланка, каўняром, ды, апроч таго, меў здаравецкі склад і здароўе рася хлістанную грудзіну. Але, скажыце, якіх дзівосаў не бывае на свеце! За два крокі ад мяне стаіць немалады ўжо унук знакамітага цельшынскага старасты. Нашчадак колішняга асілка апрануты па-сучаснаму, шчуплейшы ў плячах і, зразумела, трубіць носам так, як дзед, ён не ўмее. Толькі ў вачах усё тая ж палеская хітрынка: ну што, браце, здзівіў я цябе! I праўда, навіна здзівіла, моцна ўразіла. Бянтэжыць хіба што відавочнае несупадзенне прозвішчаў: Круглы і Жалезны. Аднак такое бывае, прозвішчы могуць мяняцца і ў другім і ў трэцім пакаленні, асабліва калі сваяцтва вядзецца па мацярынскай лініі.

Стоячы пад прыціхлай яблыняй, адразу яшчэ цяжка ацаніць і асэнсаваць пачутую навіну, што нясе ў сабе адзнакі і жыццёвай былі і прыгожай легенды, як, скажам, рамантычнае каханне Андрэя Лабановіча і Ядвісі Баранкевіч. Можа, таму лезці да чалавека з лішнімі роспытамі не хочацца, ды і часу бракуе. Сонца ўважлівіці падае на шэры лес, удалечыні за поплавам, дзе неспакойна стрыжэ вушамі адзінокі вараны конік, гусцее вечаровая смуга. Трэба спяшацца: хутка прыгарадны дызель-поезд. А на гэтай па-асенняму самотнай яблыні, аднак вельмі сакавітыя і смачныя яблыкі...

Ужо каля знаёмага скрыжавання, ледзь толькі ўлеглося хваляванне ад сустрэчы з унукам Рамана Круглага, выразней убачыліся многія, не заўважаныя раней, праявы сённяшняга жыцця палешукоў. Якуб Колас пісаў

(Працяг на стар. 12)



**ЧАСАПІС**

## *"Роднае слова", N 12*

**Пра аповесць В. Быкава "Ваўчыная яма" разважае ў артыкуле "Настальгічная навацыя, або Водар іранічнага блазенства" І. Запрудскі. Змешчаны таксама артыкулы А. Яскевіч "Паэтычная спадчына Пампы Бярынды і Івана Ужэвіча", А. Каўруса "Гук "ў" і яго перадача на пісьме", І. Хлусевіч "Словаўтваральныя варыянты фразеалагізмаў", А. Палуян "Вілаваты ці вілападобны?" (асаблівасці ўтварэння прыметнікаў са значэннямі падобнасці), Т. Валодзінай "Свая сярмяжка не цяжка" (адзенне ў фразеалогіі культуры беларусаў), К. Панюціч "З добрага роду — і людзі добрыя" (назвы дваюрадных, траюрадных братоў і сясцёр у беларускіх гаворках), Л. Баршчэўскага "Росквіт еўрапейскай літаратуры ў эпоху Адраджэння", А. Бразгунова "Аповесць пра Рышчана" і еўрапейскі рыцарскі раман", І. Ківель "Селянін на пачэсным пасадзе" (спроба тыпалогіі вобраза селяніна ва ўсходнеславянскай прозе), Т. Яцкевіч "З гісторыі вытворчасці алею на Беларусі", Л. Агеевай, З. Зімінай "Асколкі дахрысціянскай пісьменнасці. Руны", А. Павільча "Кніжнае" вучэнне ў асветніцкай сістэме Старажытнай Русі", Т. Габрусь, І. Голубева "У прысадах нясвіжскіх паркаў" (алея помнікаў дзеячам Нясвіжа), В. Міцкевіч "Дарогі, вечныя дарогі..." (дарога ў жыцці і творчасці Я. Коласа), У. Содаля "Вугельчыкі з попелу", Т. Кудрашовай "Дракон як міфалагічная істота ўсходняга календара і славянскай культуры" і іншыя. У "Літаратурным ветразі" М. Скобла прадстаўляе М. Ермаловіча як паэта.**

## *"Фрагмэнты", N 6*

**На сённяшні дзень "Фрагмэнты" з'яўляюцца ці не адзіным перыядычным спецыялізаваным філасофска-культуралагічным выданнем на Беларусі. Чарговыя нумары ўжо не столькі адкрываюць і рэвалюцыянізіруюць культуральнае мысленне, а хутчэй паўтараюць сказанае раней, паказваючы, што пострэфлексія ў свой час можа перарасці ў традыцыяналізм.**

**"Даўно ўжо няма аніякай рызыкі: ані перад невядомай будучыняй, ані перад гераічным мінулым" — даволі паказальнае сцвярджэнне рэдактара Ігара Бабкова адкрывае зборнік і ў пэўнай ступені з'яўляецца знакавым паказчыкам. Беларускую рэфлексію сёння можна ахарактарызаваць як татальную стомленасць, прызвычаенасць і параўнаць з доўгім блуканнем па музеі-еўропе, дзе ўжо з'явіліся нашыя экспанаты. Бадай, застаецца пашукаць толькі "Іншую Еўропу", дзе мы ўжо "аднойчы нарадзіліся і аднойчы памерлі".**

**Мультыкультуралізм — з'ява настолькі ж актуальная, наколькі і расплывістая, шматформульная. Базавымі тэкстамі для ўсведамлення, што такое мультыкультуралізм, можна лічыць артыкулы Дайнэша Д'Суза "Злачынствы Крыстафора Калюмба", Сэмуэля Фрэнсіса "Іншы твар мультыкультуралізму", Яцэка Кухарычыка "Праблемы з мультыкультуралізмам".**

**Уласна-беларускае рэфлексійнае мысленне ў зборніку прадстаўлена тэкстамі Ігара Бабкова "Этыка памежжа: Транскультурнасць як беларускі досвед", Валянціна Акудовіча "Нідзе і ніхто", Сяргея Санько "Традыцыяналісцкі пагляд на традыцыю: "прэзумцыя аўтахтоннасці" і "дэканструкцыя традыцыі", Алеся Анціпенкі "Радыкалізм мыслення, універсалізм і уніфікацыя культураў" і інш. У кантэксце звязу абстрактнага мыслення і літаратуры надрукаваны тэксты Юрася Барысевіча "Камунікацыя і культурная ідэнтычнасць", Андрэя Мельніка "Беларуская ідэя як гермафрадытызм нацыі...", Юрыя Пацюпы "Выточны элемент культуры: Лінгвістычныя ідэі Максіма Багдановіча", Ірыны Шаўляковай "Мастацтва эпохі Пост: "Гвалт над сімвалам", Пэтэра Краштэва "Post Morten (Postmodern)".**

**Змешчаныя ў зборніку матэрыялы айчынных аўтараў цікавыя з двух бакоў. З аднаго яны пераважна прадстаўляюць працяг даўно запачаткаваных тэм: пабачыўшы прозвішча і назву артыкула, абазнаны чытач ужо можа прадказаць, пра што будзе ісці гаворка. З другога — прысутнічаюць новыя "надстройкі" на старыя тэмы, іх развіццё. Гэта робіць тэксты цікавымі як для пастаянных кліентаў беларускага рафінаванага дыскурса, так і новазвернутых сяброў айчыннай культуралогіі і філасофіі.**

**Алесь ТУРОВІЧ**

КРЫТЫКА

# Сустракаем Бесапатама?

У адным са сваіх лістоў да аўтара артыкула Юры Станкевіч неяк прызнаўся, што піша аповесць пра "моцна прасунутых", якая, здаецца, прэтэндуе стаць ледзь не самай удалай у ягонай творчасці. Ведаючы схільнасць празаіка да сучаснай тэматыкі, у распрацоўцы якой у беларускай літаратуры ён, напэўна, на дадзены момант трымае пальму першынства, можна было не сумнявацца, што "Бесапатам" (а менавіта такую нечаканую, але надзіва запамінальную назву мае твор) у адметным ракурсе адлюструе чарговую надзённую праблему нашага грамадства. Выхад чарговага нумара часопіса "Крыніца" (N 6 (53), 1999) пацвердзіў той факт, што Ю. Станкевіч не толькі не збочыў з абранага шляху, але і ўздымаецца ўсё вышэй і вышэй у сваіх мастацкіх дасягненнях.

Тым, хто чытаў хаця б адзін з ранейшых твораў празаіка, у "Бесапатаме" адразу кідаецца ў вочы процьма знаёмых прыкметаў, уласцівых станкевічаўскаму стылю. Прыхаванае і яўнае цытаванне, схематызм у абмалёўцы персанажаў, незразумелыя дэталі, да тлумачэння якіх аўтар не прыкладае ніякіх намаганняў, уключэнне ў асноўны тэкст рознастылёвых украпінаў, часам недарэчная іронія — усё гэта, на першы погляд, магло б сведчыць пра графаманства, калі б постмадэрнісцкае мысленне пісьменніка не спалучыла ўсе названыя элементы ў так званую "знакавасць", якая выразна прасочваецца на розных узроўнях твора.

Першыя ж радкі аповесці ўключаюць чытача ў сілавое поле тэксту, які працягвае ўздзейнічаць нават па-за сваімі фармальнымі межамі: "Дом быў дзевяціпавярховы, блочны, пабудаваны ў сямідзесятых гадах; цяпер, за даўнасцю, дзвярэй і вокнаў у пад'ездах не існавала, сцены былі ў брудных піся гах, а ўнізе, вакол яго, зашморганая трава стракацела смеццем". Убоства гарадскога пейзажу ёсць вынікам нядбайных адносін з боку людзей і наадварот, знявечаны асяродак абумоўлівае мізэрнасць чалавечых душ і розуму. Паштовая скрынка, якую ледзь не штодня мусіць рамантаваць і чысціць ад смецця сантэхнік Ілля, трапнай мастацкай дэталлю і горкай рэаліяй характарызуе абыякава неахайнае і нават у некаторай ступені агрэсіўнае стаўленне сучаснага урбанізаванага індывіда да месца свайго пражывання. Чалавек быццам кампенсуе недахоп камфорту і жыццёвай энергіі праз ламанне і нанясенне шкоды прадметам, што ідэнтыфікуюцца з цывілізацыяй; часам такая дэструкцыя ўвогуле падобна на помсту халоднаму гораду, які не здольны забяспечваць утульнасць. Нездарма асноўны час дзеяння "Бесапатама" — гэта прыцемак імжлівай позняй восені, што скразным матывам праходзіць праз усю аповесць, насычаючы яе фон прыгнечанасцю і песімізмам, а таксама кампазіцыйна сцэментоўваючы розныя сюжэтныя лініі: "ужо накрапваў дождж", "бліжэй да ночы", "было цёмна, вільготна і халаднавата", "яна адразу пачала пакутаваць ад холаду, нібы на вуліцы была ўжо зіма" і г.д. Функцыю структурнага ўпарадкавання і лагічнага абгрунтавання развіцця падзей нясе і вобраз аэрапорта, будаўніцтва якога так ці інакш закранае ўсіх герояў аповесці. Так, сантэхніку Іллі грукат грузавікоў, што "ў тры змены дастаўлялі бетонны раствор у месца будаўніцтва будучага аэрапорта", перашкаджаў праводзіць свае начныя эксперыменты; былы бізнесовец Фёдар Сак быў вымушаны працаваць непасрэдна на гэтай будоўлі, высякаючы лес пад аўтамабільную дарогу; журналістцы Еве Мураш у канцы аповесці давялося даведацца, навошта будуюць гэты аэрапорт, нягледзячы на ягоную немэтазгоднасць.

Вяртаючыся да варожага супрацьстаяння паміж горадам і асобай, трэба адзначыць, што кожны чалавек абірае свой шлях помсты: ад прымітыўнага разбурэння асобных рэчаў да вычварных здзекаў з уласнай сутнасці. Менавіта апошні тып індывідуумаў найбольш цікавіць аўтара, паколькі героі яго аповесці — людзі не звычайныя, а, хутчэй, надзвычайныя.

Да прыкладу, сантэхнік Ілля. Ягоны прафесійны занятак з'яўляецца прыкрыццём сапраўднага жыцця — жыцця па начах, калі ён "імкнецца эмпірычным шляхам дасягаць найвышэйшага стану свядомасці, так званага Высокага Узроўню". Відаць, не варта адназначна разглядаць "вандроўкі" героя праз увесь Сусвет як простую гульню свядомасці, абумоўленую ўздзеяннем наркатычных сродкаў. Прызнаючы верагоднасць існавання незалежных ад чалавечага розуму субстанцый, а тым больш відавочную няздольнасць усё таго ж розуму вытлумачыць шматлікія з'явы, магчыма разам з тым паспрабаваць вызначыць прычыну ўцёкаў індывіда ў іншую рэальнасць.

Свядома шляхам выхаду "туды" Ілля спадзяецца здабыць веды, якіх бракуе ў гэтым свеце. Але (і гэтае "але", на наш погляд, вельмі важнае) "вандроўкі" ў іншасвет гарантуюць і пазбаўленне ад такіх зямных пачуццяў, як "страх і сумненне". Апошнія два словы ў тэксце гучаць яскравым дысанансам у параўнанні з эмацыйна нейтральным апісаннем уваходу героя ў транс. Вылучаючыся стылёва, дадзеныя лексемы ідэнтыфікуюць сапраўдную сутнасць эксперыментаў Іллі, бо дазваляюць пранікнуць у глыбіні падсвядомасці (накшталт абмовак, па З. Фрэйду). Герой, відавочна, пачувае сябе няўтульна ў гэтым свеце, хаця вонкава гэта аніяк не праяўляецца: Ілля добрасумленна працуе, кантактуе з людзьмі, сочыць за падзеямі ў свеце (калі толькі выраз "уважліва слухаў радыё" можа пра гэта сведчыць). Але ў той жа час адчуваецца ягоная псеўдаўвага да свайго зямнога існавання, адасобленасць ад астатніх людзей, бо ўсе ягоныя дзеянні "тут" прыспешваюцца ўцёкамі "туды", дзе чакае ўласны мікракосм са сваімі законамі светаўладкавання, якія, дарэчы, Ілля сам жа і адкрыў.

Зусім натуральна, здавалася б, растлумачыць паводзіны сантэхніка псіхічным захворваннем, звычайным "глюкам", тым больш, што аўтар сам правакуе зрабіць такую выснову: калісьці Ілля быў пацыентам "дуркі". Але вобраз гераіні аповесці журналісткі Евы Мураш, якая таксама не пазбегла псіхіятрычнай лякарні, прымушае адкінуць звычайныя катэгорыі і апеляваць да іншых вызначэнняў нармальнасці.

Маючы адпаведнае кола "прасунутых" сяброў, Ева захапляецца чытаннем Рычарда Баха, Алана Уотса ды ўжываннем "drugs", пры гэтым ігнаруючы мітусню вакол сябе, якую ствараюць іншыя індывіды. На замкнёнасць і самадастатковасць унутранага свету Евы ўказвае і яе прозвішча Мураш, калі ўлічваць неаднаразовыя выказванні Ю. Станкевіча наконт таго, што "яны [мурашы, пчолы ды іншыя кузуркі] проста не ўспрымаюць нас, не бачаць..." (аповесць "Бесапатам") ці "...мурашнік — гэта міні-дзяржава насякомых — хіба ведае пра людзей?" (аповесць "Псеўда"). Дзяўчына, такім чынам, адасобілася ад свету "таварышаў пралетараў", што ёсць ужо несумненнае адхіленне ад агульнапрынятай нормы. Хаця насамрэч невядома, хто мае глыбейшае дачыненне да сапраўднай сутнасці рэчаў: ці абмежаваныя бытавымі клопатамі "нармальныя" грамадзяне, ці стомленыя шэрасцю аднастайных дзён асобы, якія прагнуць дасягнуць (няхай і праз ужыванне наркотыкаў) узроўню, сапраўды вартага для існавання Чалавека.

Падзеі "Бесапатама" пераконваюць у слушнасці апошняй жыццёвай пазіцыі. Часам здаецца, што гэта і ёсць ідэя ўсяго твора, паколькі багаты арсенал мастацкіх сродкаў аповесці скіраваны на тое, каб давесці, "навошта з практычнага "нішто" разбягаюцца ва ўсе бакі мільярды гадоў з хуткасцю 70 км у секунду 155 мільярдаў Галактык" (з асабістага ліста Ю. Станкевіча да аўтара артыкула). Небяспечнасць гэткіх пошукаў з'яўляецца дадатковым доказам таго, што менавіта выключныя асобы, якія не падпадаюць пад вызначэнне нормы, часта набліжаюцца да таго, што можа сапраўды радыкальна змяніць іерархію каштоўнасцей і вывесці існаванне на іншы, якасна новы ўзровень.

Каму ж пагражае спасціжэнне індывідуумам ісціны настолькі, што яго ізалююць у спецыяльныя ўстановы ці ўвогуле ліквідуюць? Банальна было б шукаць ворагаў ментальнага прагрэсу чалавецтва сярод яго ж прадстаўнікоў. Лёс Іллі, Евы Мураш ды іншых герояў сведчыць, што ў свеце дзейнічае нейкі вышэйшы хіжы розум ("Дык ты д'ябал?" — "Ну, гэта вызначэнне адвольнае, хаця людзі іншы раз лічаць і так"), які праз дзяржаўныя інстытуцыі кантралюе ўсе сферы жыцця і жорстка карае ўсялякія спробы парушэння строга вызначаных межаў. Так, не змог вярнуцца са сваёй чарговай "вандроўкі" і фізічна загінуў для людзей Ілля: "Ты будзеш сартаваць даныя, бо ў нас не хапае выканаўцаў, ты набудзеш вечнасць і неабмежаваную колькасць ведаў, чаго так прагнуў". — "А назад я вярнуся?" — "Вядома, не". Трагічна скончылася і пуцявіна Фёдара Сака, які за сваю шчырасць і даверлівасць заплаціў уласнай крывёй. У апошнія імгненні свайго жыцця Ева Мураш убачыла тое, аб чым яе папярэджваў сантэхнік, які паспеў крыху прасунуцца ў спасціжэнні тых сілаў, што кіруюць светам: "...у скронях быццам запалаў агонь, ёй стала жудасна, сапраўдны жах працяў яе, дзяўчына зірнула... на неба, і раптам шырока раскрытымі вачыма ўбачыла, як па гэтым небе імкліва і бязгучна імчыць, зніжаючыся ў бок запаснога аэрапорта, нязграбнае, гіганцкае цела авіяматкі, падобнае на вялізнага гіпапатама, і гуку ўсё яшчэ не было..."

Бесапатам прызямліўся ў сваім аэрапорце, разам з чым і высветлілася, нарэшце, мэта будаўніцтва нерэнтабельнага аб'екта. Прычыны з'яўлення чорнай навалы на нашай прасторы даўно вядомы, а іх абмеркаванне ўжо не выклікае былога імпэту і нават лічыцца неактуальным. Ю. Станкевіч жа застаецца верным сабе, калі чарговы раз у сваім чарговым творы канкрэтызуе месца дзеяння праз жахлівыя характарыстыкі і злавесныя прароцтвы: "Не ўспамінайце нанач таго, хто, можа, выбраў сабе менавіта гэтую зямлю, якая для таго і засыпана васьмюдзесяццю мільёнамі кюры". Гэта ўжо не папярэджанне нашчадкам, гэта прысуд нам, сучаснікам, якім наканавана выконваць чужую волю, часам нават насуперак уласнаму жаданню.

**Юлія САЛЬНІКАВА**

КНІГАПІС

# "Кентаўры века"

Так назвала сваю кнігу вершаў і песень паэтэса Марына Гарэлава, а пабачыў зборнік свет, дзякуючы дзяржаўнаму прадпрыемству "Мінсктыппраект". Творы М. Гарэлавай — роздум над хуткаплыннасцю складанага часу, а таму асобныя з іх маюць ярка выражаную філасофскую напоўненасць. Не абыходзіць паэтэса і тых рэалій паўсядзённасці, якія дазваляюць лірычнай гераіні выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю. І, вядома, знайшлося месца вершам (і песням таксама), у якіх гучыць тэма кахання. Цяжка сказаць, якія творы М. Гарэлавай удаюцца лепш. Бадай, дакладней засведчыць, што атрымаліся тыя з іх, у якіх адчуваецца здольнасць аўтара ісці сваім шляхам, не паўтараць іншых. Дарэчы, з першага ж твора кнігі паэтэса спрабуе акрэсліць накірункі сваіх жыццёвых і творчых памкненняў — "Мой путь", лірычная гераіня прызнаецца, што пакуль не можа застацца задаволенай тым, што ёсць: "Мой путь — репейник и бурьян". Праўда, тут жа з упэўненасцю заяўляе: "Но не сверну, но не сверну". І як бы працяг гэтага ў вершы "Что впереди": "Что впереди подстерегает, // Что в скором будущем нас ждёт?". Аўтар "Кентавров..." успрымае сябе часткай таго, што адбываецца вакол і далей, у свеце. І як у іншых, яе позірк скіраваны ў будучае:

*День завтрашний*
*для нас — загадка,*
*И прячет*
*ночь свое лицо,*
*Но брошена*
*уже перчатка,*
*И кто-то*
*раскрутил лассо.*

А каб лепш падрыхтавацца да будучага, трэба не толькі зразумець значнасць і непаўторнасць сённяшняга, а і спасцігнуць сэнс мінулага, бо ў ім таксама можна знайсці адказ на многае, што хвалюе нас, трывожыць: "Огонь сквозь сумеркі веков // Нам может указать дорогу. // Он учит мудрости слепцов // И делает нас ближе к Богу". Вяртаецца М. Гарэлава і да канкрэтных падзей мінуўшчыны, аб чым сведчыць верш "Победа", які мае падзагаловак "О войне 1812 года". Паэтэса па-свойму перадае стан тых, хто радаваўся перамозе.




Прыцягвае ўвагу і верш "Листопад". Восень, самотлівасць. І на душы, і ў прыродзе: "Под ногами сброшенные судьбы // Вмяты в землю твердым каблуком".

Лірычнай гераіні М. Гарэлавай зразумелы гэты стан, калі асабліва востра адчуваеш сваю нядоўгасць на гэтай зямлі. Ад усведамлення непазбежнасці самага страшнага хочацца "выліць" самоту. Як у гэтым невялікім вершы — "Набросок с натуры":

*Судьба —*
*окурок в пепельнице*
*пыльной,*
*И в спину*
*веет холодом*
*могильным.*
*Опилки жизни.*
*На доске доска.*
*И клонит голову*
*привычная тоска.*

Сярод песень, змешчаных у зборніку, як тыя, якія пакуль чакаюць свайго кампазітара, так і творы, пакладзеныя на музыку.

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ВІНШУЕМ!

# Леаніду ДАЙНЕКУ — 60

***Леанід Дайнека — постаць у сучаснай беларускай літаратуры надзіва яркая і каларытная. Творца з талентам Богам дадзеным, ён вельмі хораша праявіў сябе і як паэт, і як празаік. Чытачам, неабыякавым да паэзіі, запомніліся яго кнігі “Галасы”, “Бераг чакання”, “Начныя тэлеграмы”, “Мая саракавая вясна”, “Вечнае імгненне”, “Сцяжынкі над агнём”... А проза Л. Дайнекі — тая літаратура, якая закранае глыбінныя пласты народнага жыцця. Найперш гэта выявілася ў гістарычных раманах “Меч князя Вячкі”, “След Ваўкалака”, “Жалезныя жалуды”, у якіх ажывае нацыянальная даўніна. Шырокі розгалас мелі раманы “Людзі і маланкі”, “Запомнім сябе маладымі”, “Футбол на замініраваным полі”, са старонак якіх таксама чуецца водгулле гісторыі, але падзей не такіх далёкіх, што патрабуюць таксама ўдумлівага і глыбокага асэнсавання. А ўзяць раман “Чалавек з брыльянтавым сэрцам”?! Наўрад ці яшчэ хто-небудзь з беларускіх пісьменнікаў можа так смела зазірнуць у будучае, як гэта зрабіў Л. Дайнека. Перад намі ўзор навуковай фантастыкі, але фантастыкі, якая мацуецца на нацыянальнай глебе.***

***Цяпер Л. Дайнека, як быццам, на некаторы час адышоў ад актыўнай творчай працы. Хоць у дачыненні да творцаў паняцце “адышоў” адноснае. Пацвярджэнне таму і новыя вершы, з якімі Леанід Мартынавіч згадзіўся пазнаёміць менавіта лімаўскага чытача. Ды і не можа пісьменнік не жыць новымі задумкамі, якія абавязкова з цягам часу ажыццяўляцца.***

***А для гэтага трэба моцнае здароўе, бадзёрасць, аптымізм... Чаго мы і жадаем юбіляру!***

# На перавале

“Пастаўце помнік верасню...”, — густы бас і адчайна-вогненная чупрына паэта прымусілі прыціхнуць на задніх радах маладзенькіх шаптальшчыц. Крыху завываючы, дакладней, гудучы, нібы чмель, вершы чытаў Леанід Дайнека, рэдактар Віцебскай студыі тэлебачання, удзельнік семінара маладых літаратараў Прыдзвіння.

Менавіта тады, у Браславе, я і пазнаёміўся з Леанідам Мартынавічам. Розніца ва ўзросце, цяпер не такая, як здаецца, вялікая (усяго якіх-небудзь восем гадоў), тады адчувалася істотна: за плячыма Дайнекі была ўжо біяграфія, у якой самым дзіўным чынам перапляліся і будоўлі Калінінграда, і Ніжні Тагіл, дзе Леанід працаваў металургам, і БДУ, і публікацыя на рускай мове, і беларуская кніга вершаў “Галасы”.

І хоць тады, у час першага знаёмства, Леанід адразу зняў гэтую розніцу ва ўзросце і вопыце, і па сённяшні дзень лічу яго старэйшым ва ўсіх сэнсах гэтага слова.

Нейкая выбуховая ўнутраная сіла заўсёды прымушае Дайнеку рабіць крутыя віражы ў лёсе, у творчасці. Рассыпаны набор кніжкі на рускай мове і пераход на родную; пасля, здавалася б, роўнай і шчаслівай дарогі ў паэзію — кідок у прозу, ды яшчэ ў якую — гістарычную!

Памятаю, як адзін з Лёневых “зычліўцаў” любіў іранізаваць у кулуарах пісьменніцкага бамонду, што Дайнека піша свае гістарычныя творы па падручніках чацвёртага класа.

Але “Меч князя Вячкі” і “След ваўкалака” сталі для цэлых пакаленняў бестселерамі. Памятаю, як мой Максім, якому ў 1987 годзе, калі выйшаў Дайнекаў “Вячка”, было толькі дзевяць гадоў, літаральна не расставаўся з кніжкай, якую расхапілі ў кнігарнях Наваполацка імгненна.

Узгадваецца яшчэ, колькі людзей набілася ў невялікую залу Наваполацкай цэнтральнай бібліятэкі на сустрэчу з аўтарам гэтых выдатных кніг. Леаніда Мартынавіча літаральна засыпалі пытаннямі. А потым ён, крыху расчулены, сарамліва ўсміхаючыся ў сваю рыжую бараду, падпісваў кніжкі доўгай калейцы аматараў.

Сыход у сваю справу, далёкую ад літаратурных тусовак, для Дайнекі быў той жа самай уласцівасцю яго характару прымаць нечаканыя рашэнні і дабівацца на кожным новым павароце перамог. І ў сваім сённяшнім дні ён, я думаю, таксама пераможца, лідэр.

Але мяне больш цікавіць Дайнека-пісьменнік, аўтар амаль двух дзесяткаў кніжак, ніводная з якіх не была слабой ці вучнёўскай. Тонкі лірычны паэт, эпічны апавядальнік, майстар вострага сюжэта і глыбіннага філасофскага роздуму... Думаецца, у поўнай меры мы яшчэ не ацанілі зробленага ім у айчыннай літаратуры.

Мне часта хацелася параіцца з Леанідам Мартынавічам, пачытаць яму сваё, пагаварыць пра яго творчасць. Часам гэта ўдавалася, але “вялікі маўчун” не надта любіць расцякацца “мыслью по древе”. І мне часта здавалася і здаецца, што ў час нашай размовы ён раптам уцякаў некуды ў свае думкі, у толькі яму вядомы свет вобразаў і асацыяцый.

Датэлефанавацца да Дайнекі цяпер зусім не проста: чалавек заняты і дзелавы. Але пару разоў удавалася. Калі датэлефануюся сёння і пачую знаёмы бас, скажу:

— Леанід Мартынавіч, даўно ўжо хочацца пачытаць і твае вершы, і тваю прозу, і пабачыць цябе на нашых імпрэзах.

І гэта будзе праўда. І не толькі мая!

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

## Юбілей

*Леаніду ДАЙНЕКУ*

***Такое вось яно, быццё:***
***За юбілеем юбілей.***
***Імкне наперад нас жыццё,***
***Завуць гады далей, далей...***

***Не паспяваеш іх лічыць.***
***Пануюць клопат, стрэс і тлум.***
***Парой такі агорне сум...***
***Дзе ж вы, ад радасці ключы?***

***Дзе вы, мінулыя гады?***
***Дзе ты, святая маладосць?***
***Нас праглынулі гарады.***
***Ну, што тут зробіш... Так, як ёсць.***

***Але прыходзіць юбілей,***
***І кружыць хмелем галаву,***
***І на душы ўжо святлей,***
***І кажаш радасна: “Жыву!”***

**Яўген КАРШУКОЎ**



З Янам СКРЫГАНАМ і Станіславам ШУШКЕВІЧАМ. 1985 г.



Леанід ДАЙНЕКА

## Песня апошніх касінераў

***Мы адганялі стому і страх.***
***Мы хацелі, як лепш.***
***Што ж, няхай на вашых палях***
***Зноў цвіце курaслеп.***

***Над чорным лесам ляцяць жураўлі —***
***Два... Чатыры... Пяць...***
***Мы вас клікалі. Вы не прыйшлі.***
***Вам хацелася спаць.***

***Спіце... Не ўскрыкне певень-пяюн.***
***Цёплая ноч за акном.***
***Спіце... Заўтра вясёлы цівун***
***Зашчоўкае бізуном.***

●

***Прачынайся, душа.***
***Ты жыла ў падзямеллі***
***Непрыкметней былінкі, драбней мураша.***
***Лёс разгойдваў цябе на жалезных арэлях,***
***Цябе грызлі турботы,***
***ды не згрызлі, не з’елі.***
***Прачынайся, душа.***

***Прачынайся, душа. Годзе быць атэісткай.***
***Не спалохаюць больш воўчы клык,***
***д’яблаў рог.***
***Я пайду па жыцці,***
***як па кладачцы хісткай,***
***І наперадзе будуць Надзея і Бог.***

***О святыя мае! Мы сустрэцца павінны.***
***Прачынайся, душа, нібы сонца ў акне.***
***І са змроку бяздоннай труны-дамавіны***
***Маці з бацькам пачуюць, убачаць мяне.***

●

*Памяці Анатоля ВЯЛЮГІНА*

***Там, дзе пахкае шматтраўе,***
***Дзе жывуць чмялі, кузюры,***
***Ты на дачы ля Заслаўя***
***Слухаў шум лясное буры.***

***Беларускай ліры вершнік,***
***Адмірал, ты зведаў беды,***
***Галубоў любіў і вершы,***
***Быў і сам, як голуб, белы.***

***Не хлусіў, не хібіў ты,***
***Перад бонзамі не кленчыў.***
***З лесу, з даўкай цемнаты***
***Мы ішлі на твой агеньчык.***

***Пачарнела неба столь.***
***Больш не ўстаць да локця локаць.***
***Сын Сцяпанаў Анатоль,***
***На якіх жывеш аблоках?***

●

*Уладзіміру КРЫВАНОСУ*

***Паедзем дамоў на Пятра,***
***У Змітраўцы будзе кірмаш.***
***Вясёлая ззяе зара.***
***Цягнік не спазняецца наш.***

***О, гэты жаданы Пятрок!***
***Дзьмі ў чарку і рэж каўбасу.***
***Апаў ужо, кажуць, лісток,***
***А лета шчыруе ваўсю.***

***Ад шчасця звініць галава.***
***Шыбуем мы лесам старым.***
***А недзе на ўсходзе — Масква,***
***На захадзе — Лондан і Рым.***

***Рвануў бы, здаецца, ў галоп,***
***Ляцеў бы над светлай зямлёй.***
***У цэнтры Азій, Еўроп***
***Ёсць Змітраўка наша з табой.***

***Не трэба любові вучыць,***
***Бо ведаюць Ольса і Друць —***
***Тут цёплая мова гучыць,***
***Тут добрыя людзі жывуць.***

***Вачамі бяссонных акон***
***Тут вечнасць глядзіць***
***(не міргне!),***
***Тут кажуць: “Дзень добры, Лявон”.***
***Іду я, і радасна мне,***

***Што ў пляшцы — гарэлкі глыток,***
***Што сонца вісіць над вярбой,***
***Што заўтра наступіць Пятрок,***
***Што мы беларусы з табой.***

## Інтэрв’ю на вясковай вуліцы

***— Вы пытаеце, дзеткі мае,***
***Як я з мужам жыву?***
***Гарэлку п’е, бутэлькі б’е***
***Аб маю галаву.***

***Ганяе за хатай, за пуняй,***
***Грызе, як шалёны звер.***
***А я ж была прыгажуняй,***
***Красоткай, як кажуць цяпер.***

***Была, як усе, камсамолкай,***
***Хадзіла ў калгасны хор.***
***А ён мяне коліць іголкай,***
***П’яны смярдзючы тхор.***

***За валасы цягае,***
***Гугнявіць аб нечым благім.***
***...Сіняй вясной, каля гаю,***
***Мы цалаваліся з ім.***

***Бачу праз боль крывавы,***
***Сню ў незабыўных снах***
***Чуб кучаравы, бялявы,***
***Зорачкі ў ясных вачах.***

***“Дзеткі ў нас будуць, унукі”, —***
***Ён мне пяшчотна шаптаў,***
***А потым ускідваў на рукі,***
***І, як малую, люляў.***

***Ужо я не плачу, не плачу,***
***Бо скора лажыцца ў труну.***
***Не гэтага звера бачу,***
***А бачу ТУЮ вясну.***

***За што ж ён нагамі топча?***
***Хто выгрыз яму душу?!***
***“Такі харошы быў хлопчык”, —***
***Некалі Богу скажу.***

●

***Туман майго дзяцінства быў бялейшы.***
***Ён плыў над лугам, нібы з Марса карабель.***
***Агонь майго дзяцінства быў ярчэйшы.***
***Ён свеціць мне праз тысячу зямель.***

***Паміж хлусні, праклёнаў і авацый,***
***Праз ветру гул, што шыбу б’е ў акне,***
***Я чую з неба вечны голас маці —***
***Яна і сёння верыць у мяне***

●

***Туга і жах — глядзець на снег***
***І ведаць жылкай кожнай:***
***“Калі быў Першы чалавек,***
***Дык будзе і Апошні”.***
***Што ўспомніць ён у грозны міг***
***Паміж прастораў нежывых?***
***Што скажа мёртвым гарадам***
***Антыадам?***



З Юркам ГОЛУБАМ, Яўгеніяй ЯНІШЧЫЦ, Генрыхам ДАЛІДОВІЧАМ і Міколам ФЕДЗЮКОВІЧАМ. 1983 г.

Фота Ул. КРУКА

## "Белая Русь"

Яшчэ адна цудоўная кніга пабачыла свет у выдавецтве "Юнацтва" і, што самае прыемнае, гістарычнай тэматыкі. А якраз сёння і патрэбны выданні, якія б праўдзіва адлюстроўвалі шлях, пройдзены нашым народам за доўгія часы, знаёмілі з яго паданнямі, легендамі, а тым самым раскрывалі і ягоную душу. Але менавіта падобных выданняў не стае. На тое некалькі прычын, сярод якіх найбольш выразна акрэсліваюцца дзве. Першая звязана з негатыўным стаўленнем да нацыянальнай даўніны, на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Другая — з рэаліямі сённяшняга дня: з-за матэрыяльных цяжкасцяў колькасць кніг, што выходзяць, рэзка скарацілася. "Юнацтва" ж імкнецца пераадольваць гэты бар'ер. І вось кніга "Белая Русь", што мае падзагаловак "Гісторыя Беларусі ў легендах і паданнях", укладальнікам якой з'яўляецца М. Зелянкова. З першых жа старонак чытач, а гэта, вядома, у першую чаргу школьнікі, адчуе зацікаўленае стаўленне да сябе і зразумее, як гэта важна ведаць, хто мы і




адкуль мы. Пра гэта і гаворыцца ў "Прамове", пададзенай у выглядзе звароту: "Гэй, хлопцы, браты мае, сыны Зямлі Беларускай, каторая раскінулася ад Гродна да месца Смаленска і ад Прыпяці аж на другі бок ракі Дзвіны перакінулася. Кіньце вакол вокам, сабярыце харашэнька думкі і скажыце, ці павінна так быць, як цяпер ёсць? Ці справядліва гэта — усяго, што сваё, чурацца: і мовы сваёй, і звычаю свайго, і апраткі сваёй? А ведаеце тое, што мова наша калісь слаўнай была і быў час, калі наша мова працвітала пры дварэ каралёў польскіх. Ведайце, што спамеж вас больш, як спамеж другіх народаў славянскіх, слаўных людзей і выходзіла даўней і цяпер выходзіць і розумам і ваенным заслугамі". "Прамова" напісана з упэўненасцю, што "наш народ не загіне, а прыйдзе такая часіна, калі прачнецца наш народ і скажа суседзям так: "Служылі мы вам — заплацеце вы нам! Нам грошай не трэба, бо свайго хопіць хлеба. А скажыце нам: "Беларусы вы! Вось толькі!" Самі ж матэрыялы кнігі (а яны аб'яднаны ў раздзелы "Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына...", у якім гаворыцца пра гістарычныя падзеі і гістарычных асоб, "Люблю свой край, старонку гэту..." — змешчаны паданні і легенды пра паходжанне некаторых гарадоў і мястэчак, "Мой родны кут, як ты мне мілы..." — згадкі пра ўзнікненне асобных вёсак на Беларусі, "Буслава дзялянка" — тут можна даведацца, адкуль пайшла назва таго ці іншага ўрочышча, "Дзявочая горка" — размова пра курганы, горы, гарадзішчы, "Прывітальны камень" — у каменняў свая гісторыя, "Нясе вялікая рака сівой даўніны хвалі..." — знаёмства з "радаводам" крыніц, рэк, азёраў) — аповед зацікаўлены, вобразны. Канечне ж, чытаючы легенду ці паданне, нельга ўсё ўспрымаць, як кажуць, усур'ёз. Тым не менш нельга не захапляцца, якім вялікім талентам валодае народ, як умее ён па-свойму вытлумачваць найменні, з'явы, падзеі, як ён, пачынаючы з даўніх часоў, задумваўся над сваім паходжаннем, над уласнымі вытокамі. Багатая фантазія і нараджала арыгінальныя гісторыі з сюжэтам, што не страчвае сваёй прыцягальнай сілы. А кожная такая гісторыя ў кнізе — падстава для роздуму, і кожная — падарожжа ў свет нязведанага, вабнага. Як, для прыкладу, легенда "Адкуль пайшлі беларусы". Гаворка пра тое, як "чалавек завёўся", і пра Белаполя, які пасяліўся на тэрыторыі цяперашняй Беларусі: "У гэтага Белаполя ад розных жонак яго развяліся розныя пляменні пад прозвішчам Беларусы. Яны і да гэтага часу там ходзяць, зямельку скародзяць ды жыта сеюць". Паданні, легенды ўзяты ў пераважнай большасці з фальклорных зборнікаў, за выключэннем асобных твораў, што пададзены ў апрацоўцы М. Зелянковай і А. Ненадаўца. А Я. Хвалей падае вершаваны варыянт паходжання наймення Стоўбцы.

Несумненна, што кніга гэтая не застанецца незаўважанай. Не ў апошнюю чаргу і таму, што выдадзена на належным узроўні. Па сутнасці атрымалася падарункавае выданне — на добрай паперы, багата ілюстраванае мастаком П. Татарнікавым.

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ПАЭЗІЯ

Сяргей ГРАХОЎСКІ



### Мае хрэсьбіны

*Мяне хрысціў адсюль далёка,*
*Між двух азёр, між двух палян,*
*І пазіраў ласкавым вокам*
*Айцец Самковіч Юліян.*

*Не дома, не ў бацькоўскай хаце*
*Я ўпершыню пабачыў свет,*
*Шчаслівую усмешку маці*
*І свой бліпчасты амулет,*

*Маленечкі латунны крыжык*
*І тонкі-тонкі ланцужок.*
*Пасля я быў аматар кніжак,*
*І аўтар некалькіх кніжок.*

*Яны пайшлі па белым свеце,*
*Пад свіст і бляскі навальніц.*
*Гартае іх сцюдзёны вецер,*
*Пылок здзімаючы з паліц.*

*Цяпер яны стаяць радамі*
*У пару запознепай тугі.*
*Я ж доўгімі насіў гадамі*
*Не ланцужок, а ланцугі.*

*Напэўна, Бог нелітасцівы*
*Такі наканаваў мне лёс,*
*Хоць быў, здавалася, шчаслівы,*
*Бо не любіў паказваць слёз,*

*Ніхто не чуў жальбы і плачу,*
*Не суцяшаў маю душу,*
*А я свой лёс не перайначыў,*
*Бо крыж і ланцужок нашу.*

### На сконе веку

*Пражыў і я амаль стагоддзе,*
*І на парозе Новы век.*
*Кажу сабе самому: "Годзе!*
*Пара спыніцца, добры чалавек.*
*На сконе веку не заплям сумлення,*
*Адкінь перад наступным страх,*
*Пастаўленны з маленства на калені,*
*Стаяў ты пры царах і пры царках,*
*Што ніпгчылі адзін другога,*
*Вяршылі без суда няправы суд,*
*Стваралі з ката праведнага бога,*
*Што славіў, то караў уласны люд.*
*Я ўсё прайшоў, усё прапоўз і вызнаў,*
*Выпроставўся і зноўку падаў ніц,*
*Быў сведкам "каранацыяў" і трызнаў,*
*І пахвальбы ўзахлёб і небыліц.*
*Я ўсё спазнаў за свой нялёгкі век,*
*Трымалі ў свеце толькі спадзяванні,*
*Што праўда адалее зман і здзек,*
*Пагодны дзень і новы век настане.*
*Нарэшце ў свеце скончыцца садом,*
*Дзе лашчылі спярша, а потым секлі...*
*Мы перад Боскім з'явімся судом,*
*Забыўшы, што былі ў "раі" і ў "пекле".*

### Арол

*Арол — экватарыяльнае сузор'е з яскравай зоркай Альтаір*

*Скачыце, плачце, галасіце,*
*Цярпіце дзікі рок-энд-рол,*
*Але палёгкі не прасіце*
*У сузор'я з назваю Арол.*
*Яно то лютым, то рахманым*
*Гарыць над зоркай Альтаір,*
*Камусьці позна або рана*
*Бяду прыносіць або мір.*
*Яно прарочыць век кароткі:*
*І, як бясконцы зорапад,*
*Мае знікаюць аднагодкі*
*І не вяртаюцца назад.*
*Зрываецца за зоркай зорка,*
*Часамі Альтаір дрыжыць.*
*Як не бывае часам горка,*
*Пакуль жывецца, трэба жыць*
*У добрым ладзе і бяпладдзі*
*Рызыкаваць, ісці на злом,*
*Трымацца у пякельным чадзе,*
*Ляцець з падрэзаным крылом.*

### Пасля ростані

*Я часам вас не разбуджу*
*Сваім званком нечпадзяваным,*
*Што і сабе, і вам на здзіў*
*Прыйшоў незваным, нечаканым?*
*Я ўспомніў русую касу,*
*Пылок на шчоках пазалоты,*
*Вагаўся, што ізноў нясу*
*Пакуту даўняй адзіноты.*
*Пусціце. Я не закрану*
*Спакою вашага ні разу,*
*Усё былое абміну,*
*Забуду крыўду і абразу,*
*І столькі страчаных гадзін,*
*Калі расстацца не маглі мы...*
*Прайшлі гады. Я зноў адзін*
*Прыпомніў вашыя кілімы,*
*І смех, і шэпат давідна,*
*І шчасце ў змроку непагоды.*
*Зноў я адзін, і вы адна,*
*Магчыма, нават назаўсёды.*
*Дазвольце вашую руку*
*Да сэрца і да губ прыкласці,*
*Больш я ніколі не ўцяку*
*Ад зачараванага шчасця.*
*Калі я рана разбуджу,*
*Даруйце, як і даравалі,*
*А каб у змроку не зблудзіць,*
*Прыйшоў, каб вы уратавалі.*

### Начная мелодыя

*Пахне познім лістам*
*Апусцелы сад,*
*І шуміць над чыстым*
*Полем лістапад,*
*Яблыня сівее,*
*Шэранню цвіце,*
*Раніцай завея*
*Сцежкі замяце:*
*Вырастуць сумёты*
*Белыя да слёз,*
*Бо забыў пяшчоты*
*Мой няўмольны лёс.*
*На высокай поце*
*У шыбу звоніць ліст.*
*Я на адзіноце,*
*Як евангеліст,*
*Памалюся Богу,*
*Каб забыць бяду,*
*Хутка ўсю дарогу*
*Да канца прайду.*
*Пастаю на прошчы*
*І ў туман сыйду,*
*Другу пазайздрошчу,*
*Што пазбыў бяду.*
*Скалыхнуў трывогу*
*Апусцелы сад,*
*Што ніяк дарогу*
*Не знайсці назад.*

### Забытая дарога

*Забыўся і ніяк не ўспомню*
*Куды дарога гэтая вядзе,*
*І ледзьве бачу, як згасаюць промні*
*У стылай затуманенай вадзе.*

*Павольна ледзь пераступаю стому,*
*Спрабую ўсё успомніць на хаду:*
*Куды іду, ці з дому, ці дадому,*
*Якога не губляў і не знайду.*

*Прыйшла пара не здабываць, а траціць,*
*Што зберагаў, без жалю раздаю,*
*Пакінуў назаўжды ў збуцвелай хаце*
*Закрэсленую маладосць сваю.*

*Куды іду, ніяк не ўспомню:*
*Сляза тумапіць саслабелы зрок:*
*Ледзь бачу, што ўзыходзіць Поўня*
*І да яе раблю за крокам крок.*

*Куды ісці далей, — не дапытацца*
*І не пабачыць свой уласны цень,*
*І думаю, ці лепей — развітацца,*
*Ці сустракаць наступны ясны дзень.*

### Грэшны сон

*Прысніўся нечакана грэшны сон,*
*Што мы адно другому пакляліся*
*Смяяцца і журыцца ва ўнісон,*
*І да світання ў змроку засталіся.*

*Калі ж у шыбу пырснула святло,*
*Мінулі будні і мінулі святы,*
*А ці былі грахі, ці не было,*
*Ні ты, ні я ні ў чым не вінаваты.*

*Я ўспамінаю раннюю вясну*
*І нашы першыя грамніцы...*
*На сходзе дзён сваіх раней засну,*
*Каб грэшны сон паспеў прысніцца.*

### Закон сумлення

*Ад нараджэння і да скону*
*Усе падуладныя закону,*
*А іх не меней за мільёны,*
*І ўсе суровыя законы.*
*Іх забывае той, хто піша,*
*А помніць той, хто ледзьве дыша.*
*Закон заўсёды ў пазалоце,*
*Трымае кожнага ў аброці.*
*Ён так прыдуманы старанна,*
*Што кожны будзе пакараны,*
*І трапіць праведнік у зону,*
*Калі захочуць, па закону.*
*Хто прыдумляў яго, рагоча*
*І так жыве, як сам захоча.*
*Закон жыве за ўсіх даўжэй,*
*І нават за цара дужэй.*
*Таму малюся, стаўшы на калені,*
*Я за адзін Закон Сумлення.*

### Ноччу

*Не скончыцца трагедыяю драма:*
*Не прыкідвайся хітрай лісой,*
*Безвалоса-бязносая дама*
*З адкляпанаю вострай касой,*

*І не стой у мяне за плячыма,*
*Я з табой размінаўся не раз,*
*Болей слухаць ужо немагчыма*
*Твой ласкава-бязлітасны сказ.*

*Я пагрозы тваёй не баюся,*
*Пад касу не схілю галаву,*
*Лепш з анёламі загаварыся*
*І да новай вясны дажыву.*

### Малітва

*Літасцівы Божа,*
*Хто нам дапаможа,*
*Хто нас уратуе, як не Ты,*
*Наш Айцец святы?*
*Хіба ж Ты не бачыш,*
*Хіба ж сам не плачаш,*
*Што ў крыві і ў брудзе*
*Праведныя людзі*
*Гінуць у агні,*
*Ты іх барані.*
*Хто ж нам дапаможа,*
*Літасцівы Божа,*
*У пякельнай бойцы*
*Пакараць забойцаў?*
*Мірным мір вярні,*
*Каб шчасліва ў свеце*
*І бацькі, і дзеці*
*Век жылі без выбухаў і мін.*
*Памажы нам, Божачка.*
*Амінь!*



Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

ПРОЗА

***У беларускай літаратуры імя вялікага князя Гедзіміна (Мікола Ермаловіч настойвае, што яго трэба называць акурат гэтак, і я ўзяла гэты варыянт) амаль не ўзгадваецца. І не дзіўна — нават самыя сучасныя падручнікі па гісторыі Беларусі (узяць хаця б "Гісторыю Беларусі", Мн., "Універсітэцкае", 99, пад рэдакцыяй прафесараў Я. Новіка і Г. Марцуля) пра перыяд Гедзіміна пішуць надта ж асцярожна, не адмаўляючы тэорыю таго ж М. Ермаловіча аб славянскім паходжанні князя, але і не падтрымліваючы яе. І сама дзяржава Гедзіміна атрымліваецца нейкаю неакрэсленай — то яна літоўска-беларуская, то, пазней, ужо беларуска-літоўская.***

***Мне ж здаецца — важнае для нас ужо тое, што мы, нарэшце, хаця б не адмаўляем сваю прыналежнасць да краіны, якая прасціралася ад Чорнага да Балтыйскага мора і мела надта вялікі ўплыў у Еўропе. І тады, калі мы гэта, нарэшце, усвядомілі, мы заўважылі і магутны славянскі пласт гэтай краіны. Тут яшчэ нас усіх чакаюць вялікія адкрыцці. Што да мяне, то найбольш прывабнай у гэтым перыядзе нашай гісторыі ўявілася мне постаць звяздара Лядзейкі — і не таго сівога валхва-астранома, якім паўстае ён на карцінах пазнейшых мастакоў. У часы Гедзіміна ён не можа быць такім, бо, як нам вядома па летапісах, князь знайшоў яго, малога хлопчыка, у арліным гняздзе. Таму я бачу гэтага вешчуна яшчэ маладым, і мне цікава ўяўляць, якімі ж былі тады адносіны ўлады і таленту, як стасавалася пушкінскае "валхвы не баяцца магутных уладык" і рэальнае жыццё мноства язычаскіх свяцілішчаў, якім патрэбна была падтрымка ўлады і разам з тым яна была пагібельнай для свабоды духу.***

***Можна запытацца: ізноў галоўны герой — вяшчун, жрэц? Але ў тыя часы мастацтва было нераздзельнае, сінкрэтычнае, і Слова таксама ўспрымалася як свяшчэннадзейства. Бо яно давалася нябёсамі. Развітваючыся ў рамане з Лядзейкам, я развітвалася і з тым агромністым, незвычайным, дзівосным пластом нашай культуры, які быў звязаны з язычаствам. Будуць іншыя творы — з'явяцца і новыя постаці...***

**АЎТАРКА**

Вольга ІПАТАВА



# ВЯШЧУН ГЕДЗІМІНА

СТАРОНКІ З РАМАНА

Гаворачы з Гедзімінам, я амаль заплюшчыў вочы. І раптам адчуў нейкі штуршок і, няўцямна глянуўшы наперад, разам выпрастаўся, як страла, пакладзеная на цеціву.

Перад тронам стаялі трое. Старэйшага, пасярэдзіне, я пазнаў, хаця і не ў першае імгненне. Рацібор, сын навагрудскага баярына Сакі, ён праславіўся восем гадоў назад пры абароне Навагрудка ў 1314 годзе. А яшчэ тым, што ўратаваў тады кашталяна Давыда, зяця Гедзіміна, прыняўшы стралу, якая ляцела ў кашталяна, у свае грудзі. Захліўшы Давыда, ён не памёр, усім на здзіўленне. Тады, пасля перамогі над крыжакамі пад Навагрудкам, і забраў яго Давыд да сябе ў Гародню і прызначыў начальнікам над ратнікамі.

А вось хлапца і дзяўчыну, якія стаялі па баках, я бачыў упершыню. Відаць, ягоныя дзеці, мяркуючы па тым, з якой любасцю глядзеў на іх Рацібор. Так і ёсць. Сястра і брат (я не пачуў імені хлопца — наструнены, увесь з яркім румянкам хвалявання на шчоках, свежы і зыркі, як першы глыток маладога піва, ён быў самы звычайны, свойскі, тамтэйшы). А дзяўчына...

— Мая дачка Гайна, — гаварыў Рацібор, і дзяўчына пакланілася — трохі збянтэжана, бездапаможна-пакорліва, нібы прасіла: "Не крыўдуйце на мяне за тое, што я займаю ваш час! Я разумею, што вы стомленыя, але ж я прыйшла сюды не сваёй воляй..."

Цікава, што гул — той гул, які непазбежна стаіць на прыёмах такога роду, калі ў княстве адбываецца нешта значнае і процьма народу збіраецца разам, — гэты гул раптам замоўк.

Усе глядзяць на дзяўчыну. Гляджу і я. Спачатку — з трывогай. Што ў ёй такога, каб яна, простая гараджанка, прыцягнула маю ўвагу? Тое, што яна сапраўды асляпляльна-прыгожая, — гэта яшчэ не прычына. Прыгожых дзяўчат не так мала навокал. Асляпляльных — меней, але, прынамсі, у гэтай зале іх трое. Не, з ёю — чацвёра. Але ж Дабранега і Прадслава, а таксама Бірута, хаця пра кожную з іх напісаны песні і нават паэмы, не здольныя мяне ўразіць. Прыгажосць — гэта вада ў ручаі. Яна сплывае рана ці позна, застацца рэчышча, сухое і зморшчанае. Дай ласкі, Пярун, каб не злоснае, бурлівае. Спакойна, Лядзейка, давай разбяром у гэтай дзяўчыне ўсё паасобку, і тады адразу знікнуць чары.

Валасы? Яны залацістыя, доўгія, перавітыя чырвонымі каснікамі. Постаць? Зграбненькая, у меру хударлявая, але ж не худая — ручкі з-пад доўгіх рукавоў белыя і поўныя, клубы таксама ёсць. Грудзі? Невялікія, але таксама ёсць — значыць, будзе чым карміць дзіця. Вочы? Вочы і праўда незвычайныя — вялікія, ды нейкага незразумелага колеру, нязвыклага. Фіялкавыя, ці што? Свежанькія вусны, якія вінавата варушацца, нешта прамаўляючы. Не хачу слухаць яе — а раптам нясе лухту? Як часта даводзілася шалець, пачуўшы з нявінна-прыгожых вуснаў чарговае жаночае глупства!

Яна кажа нешта зусім простае, і не важна, што гаворыць. Важна — як. Гэтая яе цнатлівасць — і разам з тым нешта невымоўнае, мудрае, нібыта ёй тысяча гадоў, і яна толькі гуляе ў нявіннасць, а сама ведае тое, да чаго простыя смяротныя не даўмеюцца за ўсё жыццё. І чаму нешта ўсё наплывае на мяне — не то ўспамін, не то мара, не то... Ах, так — сон. Сапраўды, гэты сон я бачыў тройчы, як толькі стала вядома, што мы едзем у Навагрудак святкаваць заручыны маладошанькай Гедзімінавай.

Сон гэты я бачыў учора — якраз тады, калі мяне разбудзілі вітальныя крыкі ля замка.

Старая, вельмі старая жанчына спыняецца ля лесу. Ідзе сцяжынкай, азіраецца па баках. Прыходзіць да нейкіх зарослых камянёў — чорныя, паліраваныя, яны зараслі ажынай і алешшам, сунічнікам. Яна лашчыць камяні, нешта шэпча ім, а пасля кіруецца далей — там, дзе паміж купін плешынамі выглядае патрэсканая зямля. Навокал бярозы і асіннік. Асіны высокія, хісткія, яны трапечуць пажаўцелым жніВеньскім лісцем, нібы адганяюць жанчыну. А яна ідзе, і крок яе такі стомлены, нібыта ўвесь цяжар свету на ейных плячах. Я раптам разумею, што жанчына прыйшла сюды памірацць і што некалі тут было возера. Я нават чую, як нехта ўва мне прамаўляе назву — "Менцязь", што на старажытнай, памерлай тут мове азначае — светлы валадар.

Але чаму гэтая жанчына са сну прамроілася мне зараз? Здагадка прыходзіць раптоўна — у жанчыны з майго сну вочы такія ж, як у дзяўчыны, што стаіць насупраць трону і слухае, як княгіня Еўна прамаўляе ласкавыя словы да ейнага бацькі — вялікія, колеру ранішніх братак — фіялак, што рассыпаны на схіле ўзгоркаў.

"Гэта ж мая прабабка Жывена! — адразу пазнае жанчыну Гайна, калі я пазней раскажу ёй пра мой сон. — Якраз за тыдзень да вашага прыезду яна развіталася з усімі намі і сказала, што хоча памерці адна. Яе час наступіў, яна яго ведае. Мы не хацелі яе адпускаць адну, але хто б мог яе стрымаць?!"

Я даведаюся пра тое, што гэта яна, Жывена, ратавала ўнука Рацібора, калі ў яго грудзі трапіла страла. Яна ведала даўняе, патаемнае знаццё, якое хацела перадаць унуку ці, пазней, праўнучцы.

— Але, — дадала Гайна, — я, відаць, занадта дурная, бо нічога не магла запомніць. Нічога! Прабабка адступілася ад мяне, яна зразумела, што я іншая, чым яна.

Гайна раскажа мне гэта тады, калі я лепей за іншых зразумею, якая яна. Навука — не для яе. Яна бесклапотная і лёгкая, як... як багіня вясны і кахання Ляля, або, як называюць яе на ўсходніх межах княства, Лада. Яна і без навукі ведае ўсё — і кожнага адчувае беспамылкова, хаця і не хоча нічога ведаць пра свет, у якім жыве.

Можа, ад таго і зацікалі прыдворныя? Праўда, доўжылася гэта колькі імгненняў, а потым пабягнулі ўсе позіркі ўперад, аж да гарбуза ў каптуры, і я зноў учапіўся за львіную лапу, а леў зноў сярдзіта абадраў мне пазногаць, і гасцей запрасілі ў іншую залу, дзе гнуліся доўгія дубовыя сталы пад сярэбраным посудам, а яшчэ болей — пад смажанымі тушамі дзікоў і аленяў, пад узгоркамі зайчаціны і мядзведзіны, копамі кіслае капусты і салёных гуркоў, а яшчэ рознага птаства і рыбы.

Я не застаўся там. Узяў хлеба і трохі гароднiны і пайшоў сабе спаць у свой пакой пад самым дахам паўднёвае вежы, мімаходзь убачыўшы, што да Гайны кінуліся ажно трое малайцоў-прыдворных — з тых, што дураць жанчынам галаву песнямі і лютнямі, а самі прыкідваюць, як ямчэй заціснуць яе ў цёмную нішу на пераходзе, якіх так многа ў тых замках. Я быў спакойны за Гайну: каля яе бацька і брат — гэты хлопчык не праміне ніводнага слова ў гонар ягонай сястры, але пры гэтым будзе азірацца, ці няма блізка каго-небудзь з больш радавітых.

Калі я ўзыходзіў на рыпучыя прыступкі вежы, мяне спыніў камандзір варты Сунгайла.

— Няўжо княжацкаму вешчуну так нецікава на ўрачыстым застоллі?

— Я хворы, — схлусіў я. — Вецер прадзьмуў мне спіну, хаця і лета ў самым разгары.

— А я думаў, што ты ніколі не хварэеш, — расчаравана прагудзеў Сунгайла. — Няўжо багі не дапамагаюць свайму служцы?

— Яны ў той дзень былі занятыя. Напіліся і спрабавалі выцягнуць Нябесны Кол.

Ён паглядзеў на мяне асуджальна, пасля ўпаўголаса заўважыў:

— Там госці ядуць — за вушамі трашчыць. Самае смачнае нам не дастанецца. А ты, княжы вяшчун, сапраўды дзівак. Ды мы тое і чулі. Цяпер сам пабачыў. Не баішся, што багі цябе пакараюць за непавагу?

— А яны ўжо далі мне сёння выспятка.

— Як гэта?

— Ты не зразумееш, Слаўны Абаронца.

Цяпер ён паглядзеў на мяне з павагай. Зарослы валасамі твар яго пасвятлеў:

— Ты, вяшчун, сапраўды разбіраешся ў імёнах. Мой дзед мне казаў, што значаць маё імя. Сёння людзі забыліся на многае, і на старыя значэнні імёнаў. А дзед мой памёр. Ён казаў мне яшчэ...

Але я не слухаў яго, паплёўся па прыступках наверх. Карцела застацца аднаму, паглядзець на неба. У Кернаве і Троках замкі будавалі на раўніне, там неба далёка, і стукацца да багоў даводзіцца доўга і цяжка.

Тут, у Навагрудку, спалася лёгка і сны мае былі лёгкімі, яны абсядалі ваканіцы, як галубы. Ды і тое — замак, узнесены на такую вышыню, што даліна ўнізе ледзь праглядалася ў сінім марыве летняга дня, лунаў над навакольлем і плыў, нібы карабель у густой нябеснай сіняве вечара.

Я толькі з'еў сваю вячэру і, сеўшы ля расчыненага вакна, расшпільваў кашулю, як у дзверы, не спытаўшыся, пралез нехта ў парчовым жупане і вялізным белым карункавым каўняры. У паўцемры я не адразу пазнаў сына галоўнага чашніка, а ён усхвалявана схапіў мяне за крысо:

— Шаноўны Лядзейка, не сярдуй, я па дапамогу!

Я спакойна вызваліў кашулю з яго ліпкіх пальцаў:

— Яна не па табе, хлопча.

Ён, вырачыўшы вочы, ледзь не шмякнуўся на падлогу:

— Ты... ведаеш, пра што я кажу?

Яшчэ б не ведаць! Ён кінуўся да дачкі Рацібора, як ганчак да спалоханага зайчаняці, але яна, мабыць, з усяе сілы махнула сваімі крылцамі і адляцела ад яго пальцаў і тоўстых чырвоных вуснаў, гатовых прагна ўпіцца ў здабычу. А часу мала. Мы ж з'язджаем адсюль праз два дні.

Тут да яго дайшоў сэнс маіх слоў. Ганарыста натапырыўся, задраў галаву:

— А чаму... чаму гэта яна не па мне? Мой бацька — галоўны чашнік, а яна — усяго баярыня, нават не надта багатая!

Яго бацька падносіць Гедзіміну віно, і таму ён лічыць сябе пупам зямлі! Я закашляўся, каб схаваць прыступ рогату. Падавай сынку чашніка ўсяго толькі багіню прыгажосці і вясны, ён яе будзе адкусваць па кавалку ў сваіх харомах і, чаго добрага, хутка пачне ўлягаць за іншай, якая яму пасуе болей — якойнебудзь цялушкай з тоўстым кароткім станікам і круглымі вачыма.

— Якраз таму і кажу, што яна не надта і багатая, а ты ж — сын галоўнага чашніка.

Ён відавочна супакоіўся, загарэўся зноў:

— Бацька дазволіць мне ўзяць яе. Усёткі Рацібор хаця і ў Гародні, аднак каля Давыда, зяця вялікага князя.

Ён сказаў гэта голасам герольда.

— Усё роўна яна не пара табе.

— Чаму?

— Давыд — не сын. Яму зямлі не дастанецца, апроч Гародні. Вось каб Рацібор галоўным ратнікам пры самім князі...

Ён зноў задумаўся.

— Можа, нацкаваць бацьку, каб ён выпрасіў Рацібора ў Давыда?

— Сапраўды. Тады яна табе падыдзе, як ключ да замка: ейны бацька галоўны ратнік: твой — галоўны чашнік. Але ж во толькі ты багацейшы...

— А прыгажосць? — заспяшаўся ён. — Гэта таксама багацце, так што і праўда, мы з ёй...

Я ўзяў яго за плечы і ціха павёў да дзвярэй.

— Ты што, ты што? — вырываўся ён. — Лядзейка, чым я цябе пакрыўдзіў? Чаго ты? Пастой!

Я зачыніў за ім дзверы. Ён яшчэ трохі пашкробся ў дзверы, нібы раззлаваная мыш, пасля пабег назад, у залу — лавіць сваё шчасцейка.

Я зноў усеўся ля вакна. Багі кінулі жменю залатых зярнят на цёмна-сіні покрыў Неба, кажан прашалясцеў проста ля маёй рукі, кугікнула сава.

Я чамусьці ўспомніў, што мне трыццаць сем, што я кульгаю, а твар мой падобны да твару Жыжаля, бога падземнага агню — смуглявы і абветраны.

Прыбор з павелічальным шклом, праз які я гляджу на зоркі, ляжаў на стале, захутаны ў палатно. Гедзімін яшчэ перад паездкай загадаў спытацца ў зорак, ці ўдалай будзе паездка. Зоркі абяцалі тое. І я магу яшчэ два ці ўсе чатыры дні мець свабоду і не надакучаць багам дурацкімі пытаннямі, накшталт таго, ці зажыве прышч на плячы княгіні Еўны і каго народзіць ад княжыча Яўнута служанка гетмана.

Але, мабыць, я сапраўды сёння абразіў багоў — у дзверы зноў зашкрэбліся, але ніхто не зайшоў. Я сам мусіў выйсці.

Дабранега стаяла там — сарамлівай ласачкай, ласкавай і слязлівай. Усе ейныя жаданні можна было чытаць як па зорках: быць самай спакуслівай, такой, каб узгараліся мужчыны юрам і шалелі, хочучы скокнуць на яе, як алені ў час гону. І яна мела гэтых скокаў столькі, колькі хацела. Прадслава чаравала іншым — апушчанымі вачыма, цнатлівым выглядам і пяшчотным позіркам, але я цвёрда ведаў, што чаравала яна толькі тых, ад каго залежаў лёс яе любага Траняты, прыдворнага герольда. Дабранега ведала тое і не хвалявалася. Тут жа яна моцна ўстрывожылася — у замку з'явілася новая саперніца!

Я абняў яе за плечы:

— Не бойся, ты застанешся самай прыгожай пры двары, і вялікі гетман не перастане цябе кахаць.

— Праўда, Лядзейка?

Яна зноў захліпала — але цяпер ад радасці.

— Ты мне гэта цвёрда абяцаеш?

*(Працяг на стар. 12)*





## "Гербарый доктара Кляйна"

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адбылася выстава беларускага мастака Васіля Пачыцкага пад назвай "Гербарый доктара Кляйна" ("кляйн" — панямецку "маленькі"). Аўтар гаворыць: "Гэты праект з'яўляецца альтэрнатыўнай гуманітарна-мастацкай акцыяй, якая знаходзіцца за рамкамі сучаснага мастацтва ў яго традыцыйным разуменні. Мэта яго — падвесці свайго роду вынік узаемадзеяння чалавека з навакольным светам. А вынік гэты — сумны". Калі глянуць у гісторыю, інтарэс да калекцыяніравання і апісання раслін у выглядзе гербарыя бярэ пачатак з эпохі Адраджэння, калі чалавек сцвярджае сваю ўладу над прыродай нежывымі птушкамі, жывёламі з дэфектамі, сухімі кветкамі ў гербарыях, заспіртаванымі істотамі.

Выстаўленыя экспанаты праекта В. Пачыцкага падобны на сумесь жывых арганізмаў з механізмамі, якія нагадваюць страшэнных чалавекаў-робатаў з навуковай фантастыкі: на адну палову — з частак цела, а на другую — з металічных прадметаў замест вока, тулава, нагі... Усе яны прыкаваны да чаго-небудзь ланцугом, дротам, як злы сабака да будкі.

Гэтыя карціны адлюстроўваюць сумны вынік стаўлення чалавека да прыроды. Напэўна, аўтар спецыяльна імкнуўся выклікаць у людзей сваёй калекцыяй, непрыманне і сорам з-за неразумнага карыстання прыродай, перайначвання яе законаў.

**Святлана ЖУРАЎСКАЯ**

## З "опернай" Капыльшчыны

Пра тое, што на Капыльшчыне нарадзілася шмат таленавітых пісьменнікаў, — добра вядома ўсім. Але гэты прыгожы куток Беларусі ўрадлівы і на оперныя галасы. Ураджэнец вёсі Цімкавічы Фёдар Андруковіч (лірычны тэнар) шмат гадоў спяваў на сцэне Ленінградскага Малога опернага тэатра. Бас Генадзь Пятровіч не адно дзесяцігоддзе працаваў у калектыве Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі. А ў Кіеве пачаў сваю пеўчую дзейнасць ураджэнец Капыля Уладзімір Раеўскі (лірыка-драматычны тэнар).

Музычную адукацыю ён атрымаў у мясцовай школе мастацтваў па класе баяна ў М. Раеўскага, свайго бацькі, прадоўжыў у Маладзечанскім музычным вучылішчы па класе спеваў, а завяршыў у Кіеўскай кансерваторыі.

Першай сцэнай У. Раеўскага сталася оперная студыя Кіеўскай кансерваторыі, а потым — Нацыянальная опера Украіны, салістам якой Уладзімір з'яўляецца з 1998 года. Ён з поспехам выконвае партыі Радамеса і Манрыка ("Аіда" і "Трубадур" Д. Вердзі), Эдгара ("Лючыя дзі Ламермур" Г. Даніцэці), Хазэ ("Кармэн" Ж. Бізэ), Сяргея ("Кацярына Ізмайлава" Д. Шастаковіча). Паспяхова малады тэнар выступаў з тэатрам у Германіі, Швейцарыі, а па індывідуальных запрашэннях — у Варшаве і Баку. Спявак супрацоўнічае з Маскоўскім муніцыпальным тэатрам "Новая опера" пад кіраўніцтвам Я. Колабава. Неаднаразова гастраляваў і на Радзіме, у Беларусі. На сцэне Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра оперы Беларусі У. Раеўскі спяваў у спектаклях "Царская нявеста", "Аіда", у галаканцэрце "Віват опера!"

Уладзімір Раеўскі марыў працаваць на Радзіме, і нядаўна яго запрасілі ў трупу Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра оперы Беларусі. Пажадаем яму поспехаў!

*г. Капыль* **Павел СЯМЁНАЎ**

## Сустрэча праз паўстагоддзя

Сустрэча ўдзельнікаў беларускага нацыянальнага руху саракавых-пяцідзесятых гадоў прайшла 16 студзеня ў Гродне. Яе арганізавалі мясцовая філія Сацыял-дэмакратычнай Грамады і рэспубліканская спартова-патрыятычная арганізацыя "Край" пры падтрымцы абласнога аддзялення Фонду імя Льва Сапегі.

Ля дваццаці ветэранаў нацыянальнага руху з розных рэгіёнаў Беларусі хай праз паўстагоддзя але атрымалі магчымасць запэўніцца, што іх змаганне дало і плён і маладых паслядоўнікаў. Многія пасля шматгадовага маўчання ўпершыню распавялі аўдыторыі пра падзеі іх маладосці, падзяліліся сваімі развагаміямі пра сучасную беларускую сітуацыю, прапанавалі сваю дапамогу маладым беларускім патрыётам.

Арганізатары наладзілі для ветэранаў урачысты канцэрт, у якім выступілі фальклорны гурт "Дударыкі" і бард Андрэй Мельнікаў.

Дзяржава і дагэтуль ніяк не кампенсавала змагарам за Беларусь іх шматгадовага знаходжання за кратамі. Але сустрэча, што прайшла ў Гродне, надала ўпэўненасці: ветэраны не застануцца сам-насам са сваімі праблемамі. Удзячныя пераемнікі не збіраюцца пакідаць старых без дапамогі. Будзем жыць!

**Філон КМІТА**

МУЗЫКА

# А жыццё "вымушае" працаваць у песні...

***Уладзімір Карызна з таго пакалення кампазітараў, якое трывала ўвайшло ў кантэкст беларускай музычнай культуры 20-га стагоддзя пры канцы 80-х. У яго творчым набытку — сімфанічная паэма, кантата "Таемнасць цішыні" на вершы П. Панчанкі, М. Танка, У. Карызны (старэйшага), вакальны цыкл на вершы В. Фокінай, фартэпіянныя п'есы, харавы цыкл на вершы М. Багдановіча, больш за 100 песень. Кампазітар упэўнена адчувае сябе і ў акадэмічных жанрах, і ў папулярнай музыцы. Ягоныя хоры на вершы Багдановіча сёння ў рэпертуары многіх прафесійных і самадзейных калектываў Беларусі, а песні ўжо неаднойчы станавіліся лаўрэатамі рэспубліканскіх конкурсаў.***



**Ён вырас у сям'і, цесна звязанай з музыкай. З дзяцінства слухаў песні, сімфоніі, оперы. Яго бацька — вядомы паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, вельмі любіць музыку і калісьці нават вучыўся кампазіцыі. Гэта не магло не ўплываць на фарміраванне светапогляду і мастацкіх густаў сына. Але хто ж думаў, што сын выбера прафесію кампазітара?**

— Стаць кампазітарам вырашыў я сам. Мой выбар прафесіі быў для бацькоў абсалютна нечаканы, бо, скончыўшы музычную школу, я паступіў у музычнае вучылішча імя Глінкі на харавое аддзяленне. Пасля вучылішча вырашыў ісці ў кансерваторыю на аддзяленне кампазіцыі і скончыў кансерваторыю па класе прафесара Яўгена Аляксандравіча Глебава.

**— Калі з'явіліся вашы першыя музычныя опусы?**

— Пачаў складаць музыку яшчэ ў школе. А ў вучылішчы... Мне вельмі пашанцавала, я трапіў у клас Людмілы Барысаўны Яфімавай, якая на той час кіравала хорам музычнага вучылішча імя Глінкі. Мы праспявалі шмат "жамчужын" харавой класікі, я меў магчымасць усё гэта не проста слухаць і спяваць, але праз уласны досвед спасцігаць сакрэты харавога пісьма. І — рэдкі выпадак: на выпускным экзамене перад камісіяй, якую ўзначальваў наш паважаны прафесар Віктар Уладзіміравіч Роўда, я, як выпускнік харавога аддзялення, дырыжыраваў уласнымі творамі. Гэта былі хоры на вершы М. Багдановіча. Сёння ў Беларусі, мне здаецца, няма харавых калектываў, якія б не выконвалі гэтыя хоры. Кожны год мне тэлефануюць студэнты, выпускнікі Акадэміі музыкі, удакладняюць дэталі маёй творчай біяграфіі: ім гэта патрэбна для анатацыі твора, якім будуць дырыжыраваць. Значыць, тыя хоры карыстаюцца поспехам, і гэта вельмі прыемна.

**— Сапраўды, гэтыя творы сёння слушна лічацца лепшымі ў харавой літаратуры Беларусі канца 20-га стагоддзя. А вось вашай дыпломнай работай у кансерваторыі была сімфанічная паэма. Ці памятаеце свае першыя ўражанні ад уласнай музыкі ў выкананні вялікага аркестра?**

— Уражанні незабыўныя! Жывы аркестр — гэта жывы аркестр. У той час, калі запісвалася на радыё сімфанічная паэма, я быў у незвычайным захапленні ад аркестравых фарбаў. З 3-га курса кансерваторыі я меў магчымасць чуць уласныя творы ў аркестры. Для кампазітара гэта вельмі важна — пачуць сваю музыку ў аркестры для таго, каб упэўнена ісці далей. На той час за дырыжорскім пультам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра стаяў Юрый Цырук, цудоўны музыкант. Сустрэча з ім мела вялікае ўздзеянне на мяне як на кампазітара і музыканта. Гэта быў выбітны чалавек!

З нейкімі настальгічнымі ноткамі ўспамінаю таксама, што адну са сваіх першых песень я пачуў у аркестры пад кіраўніцтвам Барыса Райскага. Мне пашанцавала. Мы запісвалі ў студыі радыё песню "Зямля мая" на словы П. Панчанкі, якая стала лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу. Спяваў яе Мікалай Скорыкаў. Больш у мяне не было магчымасці працаваць з музыкантам такога класа, як незабыўны Барыс Іпалітавіч Райскі і з аркестрам пад яго кіраўніцтвам...

МАЙСТЭРНЯ

# "Мы жывём учарашнім днём..."

***Будынак, дзе я размаўляла з кінарэжысёрам Аленай ТРАФІМЕНКАЙ, нечакана нагадаў мне Замак Кафкі: кінастудыя "Беларусьфільм" — "патанала ў снезе, не даючы пра сябе знаку ніводным праблескам святла..."***

***У 1993 годзе, яшчэ студэнткай В. Турава, А. Трафіменка зняла кароткаметражны фільм "Прысуд" паводле Ф. Кафкі. Аднак знакамітай Алена стала пасля поўнаметражнай карціны "Падзенне ўверх". Такога "гучнага" дэбюту тут не было даўно...***



### ГУЧНЫ ДЭБЮТ

*Нешчаслівага кахання ў чыноўнікаў не бывае... Жанчыны не могуць не кахаць чыноўнікаў, калі тыя нечакана звяртаюць на іх увагу.*

**Ф. Кафка "Замак"**

**— У часопісе "На экранах" у рэйтынгу "100 самых-самых у кінематографе Беларусі" вы трапілі ў намінацыю "Самы гучны дэбют". За "гучным дэбютам" стаіць і ваш артыкул у газеце "Имя", у якім вы абараняеце "Падзенне ўверх", і вашы даволі эмацыянальныя выступленні ў Саюзе кінематаграфістаў. Не крыўдна?**

— Гучным дэбют быў у першую чаргу для чыноўнікаў: мяне публічна абвінавацілі ў тым, што я перарасходавала сродкі, выдаткаваныя на здымкі фільма. Меркавалася, што дэбютант прамаўчыць, праглыне няпраўду, але я не праглынула. Ужо афіцыйна прызнана, што ніякага перарасходавання ў мяне не было, я нават атрымала свае пастановачныя — 25 даляраў. Бяда толькі ў тым, што па законах "гома савецікус" тут судзіцца не толькі фільм, але і асоба рэжысёра.

Шчыра кажучы, лепш мець гучны дэбют, чым аніякі. Мая дэбютная карціна — гэта кіно, за якое мне не сорамна. Калі расійскі акцёр Б. Плотнікаў прыехаў агучваць у маім фільме Ветрык, ён наогул здзівіўся, як я змагла "запусціцца" на "Беларусьфільме" з такой карцінай. Прызнаюся, што мне было цесна ў межах дзіцячага кіно. Маёй дэбютнай карцінай павінна была быць пастаноўка малазнаёмага раздзела "Бесаў" "У Ціхана", у якой проста аголена пытанне веры. Гэта было тое, што я хацела сказаць людзям.

**— Некаторыя рэжысёры шчыра прызнаюцца, што здымаюць кіно для сябе і пра сябе. А як вы лічыце?**

— Чаму рэжысёр часам не задаволены сваёй карцінай, бясконца пераздымае яе, манціруе, наноў працуе з акцёрамі? А таму, што ўнутры яго сядзіць цэнзар, і ў гэтым кантэксце, ён, вядома, робіць фільмы для сябе.

Калі кажуць, што мастацтва для народа, я не веру. Кожны не можа зразумець мастацтва, таксама як не можа зразумець і словы Ісуса Хрыста, бо ён казаў прытчамі. Памятаеце прытчу пра зерне, якое падала на глебу альбо на камень. Тое ж самае і мастацтва. Нам убілі ў галовы, што мы ўсе аднолькавыя, што мы ўсе роўныя, а гэта глупства. Людзі не бываюць аднолькавыя *па таленце, па інтэлекце*. Тым *больш* не кожнаму дадзена і не павінна быць дадзена спазнаць ісціну. М. Бахцін казаў, што пакуль жывы гэты свет, нікому не дадзена спазнаць ісціну, тым больш тым, хто быў раней за нас.

Гэта няшчырая фраза: "Мастак павінен рабіць кіно для народа". Я нават у В. Турава, свайго майстра, які ўвесь час казаў, рабіце кіно для народа, з народам гутарыце, запыталася: "А для якога народа рабіць?" Ці можна сказаць, што Леанарда да Вінчы маляваў для народа? Іншая справа, што нашы рэжысёры не разумеюць, не любяць, саромеюцца народа. Часам на экране — толькі алкаголікі ды дурні. А ў нас жа людзі руплівыя, вясёлыя, як пчолкі працуюць. Няўжо наш чалавек не можа тварыць, мысліць?

**— Дарэчы, зусім нядаўна вы ўдзельнічалі ў навукова-практычнай канферэнцыі "Беларускае ігравое кіно на парозе XXI стагоддзя" з дакладам "Свабода творчай індывідуальнасці і праблема самавыяўлення".**

— Так, я спрабавала давесці, што наш кінематограф стане нацыянальным і міжнародным толькі праз стварэнне кінематографа Асобаў. Архіважная задача грамадства — культываваць свабоду творчай індывідуальнасці. Менавіта індывідуальнасць са сваёй звышзадачай "зрабіць інакш" можа стварыць сапраўдны твор мастацтва. Поўны цяперашні занепад, крызіс форм, страта саміх сябе звязаны, на мой погляд, з падаўленнем свабоды творчай індывідуальнасці. У нас з варожасцю ставіліся і ставяцца да самавыяўлення: нешта шчырае, патаемнае ў фільме адразу раздражнее, абражае.

У кінематографічным асяродку ўжо даўно не спрачаюцца аб кіно, аб новых формах і стылях, аб прыродзе мастацтва наогул, ніхто не пытаецца адзін у аднаго: "каму і чаму служыць кіно?" ці "навошта ствараецца кіно?". А навошта беларускаму кінематографу форма, стыль, мантаж, калі наша кінастудыя імкнецца стаць кінафабрыкай танных псеўдаамерыканскіх фільмікаў. Напрыклад, на "Беларусьфільме" ніколі не было культуры гуку. Аднак самае рэальнае ў кіно — *гэта гук*. Гук стварае атмасферу ў кінематографе, вымушае паверыць у тое, што мы бачым на экране. Ці можна лічыць малпу, якая навучылася склейваць стужку, мантажорам ці рэжысёрам? *Нельга*, таму што мізансцэна — гэта позірк, а мантаж — стук сэрца. Пра гэта тут не думаюць, не разважаюць.

Яшчэ ў 80-ыя славуты Жан-Люк Гадар сказаў, што нацыянальны кінематограф знік ва ўсіх краінах. Яго не можа быць цяпер: нягледзячы на тое, што людзі размаўляюць

Бяда нашага часу, што не так часта сёння кампазітар можа чуць свае творы ў жывым аркестры, таму даводзіцца замяняць яго сінтэзатарам, але гэта ўжо зусім іншае гучанне.

**— Цяпер вы ў творчасці сканцэнтраваліся на песенным жанры. Чым гэта выклікана? Як вы бачыце перспектывы развіцця гэтага жанру ў сваёй творчасці?**

— Чаму я засяродзіўся на песенным жанры? Гэта пытанне жыцця нашага сённяшняга — мітуслівага, праблемнага. Трэба зарабляць грошы для сям'і, дзяцей. А для таго, каб пісаць сур'ёзныя творы, патрэбны час, трэба адысці ад усяго знешняга, ад будзённых праблем і пытанняў, сканцэнтравацца на ідэі, вобразе, форме. У мяне ёсць задумы: хацелася б і кантату напісаць з сімфанічным аркестрам і хорам, і сімфонію (ёсць пэўныя накіды). Але жыццё пакуль "вымушае" працаваць у песні. І ў гэтым жанры я стараюся максімальна выкарыстоўваць той патэнцыял, які сёння не магу рэалізаваць у сімфанічнай музыцы.

Песня сёння, на маю думку, — складаная з'ява. З аднаго боку, яшчэ жывая класічная савецкая песня і яе традыцыі, з другога — шырокае распаўсюджваецца на кампакт-дысках і відэакасетах сучасная масавая культура. Мне здаецца, у бліжэйшы час павінен узнікнуць нейкі асобны жанр, які возьме ўсё лепшае ад савецкай масавай песні і ўсё лепшае з таго, што ідзе да нас з-за мяжы.

**— Ці спрабуеце вы ў сваіх песнях стварыць хаця б праабраз гэтай новай музыкі?**

— Так. Напрыклад, у песні "Ой ты, доля Русь Белая". Гэта песня-балада, маленькая сімфонія. У ёй я паспрабаваў адысці ад традыцыі, але і не забываць таго тыповага, што ёсць у жанры песні.

Сёння кажуць, што беларуская эстрадная музыка — гэта музыка другога плана. Я так не лічу. У нас ёсць узоры, якія паводле мелодыкі і паводле аранжыроўкі зусім не саступаюць расійскай эстрадзе. Думаю, не буду арыгінальным, калі зноў паўтару ўжо вядомую ісціну: у расійскім шоу-бізнесе "працуюць" вялікія грошы, чаго нельга сказаць пра нас. А пытанне, колькі грошай атрымлівае кампазітар за сваю творчасць сёння, не з'яўляецца для нас актуальным. Раней казалі, што культура фінансуецца паводле рэштакавага прынцыпу. Зараз жа, мне здаецца, няма ўвогуле ніякіх прынцыпаў. Ведаю толькі, што кампазітары, якія пішуць песні Майклу Джэксану (вядома ж — не беларускія), жывуць нядрэнна.

**— Кажуць, жанр песні "зацягвае" і потым бывае даволі цяжка вярнуцца да акадэмічнай музыкі.**

— Некаторыя кампазітары-песеннікі, якія таксама пачыналі з сімфоній, кажуць: "Пісаў сімфоніі не горш за іншых, а зараз пішу песні. Усё роўна лепш, чым Чайкоўскі і Шастаковіч, я не напішу". Я з гэтым не згодны. Кожны кампазітар таленавіты ў той ці іншай ступені, і тое, што "скажа" сваёй музыкай ён, больш ніхто не здолее сказаць. Я не згодны з тым, што калі працаваць толькі ў песні, то да сур'ёзных жанраў потым не вернешся. Ёсць шмат прыкладаў таго, што кампазітары пісалі песні, а потым вельмі годна паказвалі сябе ў буйных жанрах. Мне здаецца, тут трэба трымаць пэўную планку, пэўны ўзровень самаацэнкі.

Зараз мне ўсё цяжэй і цяжэй пісаць песні, бо занадта стаў патрабавальны да сябе, цяжка робіцца з сабой змагацца. Я не пакідаю думкі, як я ўжо казаў, вярнуцца да сімфоніі і кантаты.

**— Ці часта вы ў сваёй творчасці звяртаецеся да паэзіі вашага бацькі?**

— Большасць маіх песень напісана на вершы бацькі. Вельмі рэдка я знаходжу вершы, якія б паводле прафесійных, душэўных якасцяў адпавядалі майму ўяўленню пра песенны тэкст. А бацька прапануе вершы, якія цалкам мяне задавальняюць і не выклікаюць ніякіх пытанняў.

У песенных вершах я заўсёды шукаю нейкую, здавалася б, і непрыкметную дэталь: вобраз, эмоцыю, але нестандартныя вобраз і эмоцыю, тады і мелодыя ўзнікае адразу і ўсё робіцца на адным дыханні. Так было з песняй "Зорная панна" на верш маладой паэтэсы І. Стэцко. Гэта песня стала лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу на лепшую песню пра Мінск. Але гэтая перамога — не толькі мая заслуга, але заслуга і паэтэсы, і спявачкі Наталлі Раманскай (яна выканала ўжо не адну маю песню і, спадзяюся, выканае яшчэ многія), і ансамбля "Славяне", які надаў гэтай песні своеасаблівы каларыт.

**— Хто першы слухач вашых песень?**

— Першым слухачом робіцца мая сям'я: жонка, дачка і сын. Мае дзеці ведаюць усе мае песні, могуць спяваць іх гадзінамі.

**— Ім падабаецца ўсё, што піша іх бацька?**

— Я сказаў бы так: амаль усё.

**— А заўвагі яны робяць вам?**

— Здараецца і так.

**— Ці ёсць, на вашу думку, прынцыповае адрозненне ў вызначэннях: "кампазітар" і "аўтар музыкі"?**

— Я лічу, што трэба абавязкова размяжоўваць гэтыя паняцці. Напісаў чалавек прыемную мелодыю і кажуць ужо: кампазітар. А для яго напісаць прыгожую мелодыю — гэта хобі. Гэта зусім не значыць, што калі кажуць "аўтар музыкі", то гэты аўтар павінен адчуваць сябе не зусім упэўнена. Я яшчэ раз кажу, што для мяне гэта розныя паняцці. Кампазітар — гэта характарыстыка прафесійная. Гэта значыць, што чалавек атрымаў грунтоўную адукацыю і можа прафесійна зрабіць усё, пачынаючы ад самага складанага жанру-сімфоніі і да песні. Больш за тое, і ў песні кампазітар павінен умець напісаць яркую мелодыю, а потым пэўным чынам яе "апрануць: зрабіць клавір, аранжыроўку. Я, напрыклад, займаюся яшчэ і гукарэжысёрскай працай: раблю апрацоўку гуку і фанаграму для спевака. Сёння ў сваіх вучнях я бачу вялікае жаданне спяваць песні не з трох нотаў. Яны цэняць разгорнутую прыгожую мелодыю, шчырую эмоцыю, высокапрафесійную аранжыроўку. А гэта мяне, як аўтара, абавязвае з вялікай адказнасцю ставіцца да сваёй працы.

**— Я дзякую вам за гутарку і жадаю плёну ў творчасці і новых музычных здзяйсненняў!**

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ**

*Фота У.ШЛАПАКА*

# Свая школа іканапісу

Аддзел старажытнага беларускага мастацтва ў Нацыянальным мастацкім музеі адзначыў сваё 20-годдзе яшчэ адной цікавай выставай, арганізаванай пры ўдзеле Беларускага фонду культуры, сумеснага беларуска-польскага прадпрыемства "Рэнаватум" і рэстаўрацыйных майстэрань. Папярэднія выставы, нагадаю, былі прысвечаны старажытным гарадам (дзе былі сабраны экспанаты з усёй рэспублікі), рэнесансу ў Беларусі, барока ў Беларусі, рэгіянальным помнікам мастацтва.

У нас было створана нямала ікон (ад грэчаскага слова *эйкон* — вобраз), якія сталі любімымі ў народзе. Сярод іх асаблівае месца займаюць абразы Божай Маці. Менавіта ім і прысвечана выстава, дзе прадстаўлены 31 помнік іканапісу, з іх 10 — упершыню.

Дзева Марыя — ідэал чысціні, маці-пакутніца, Нябесная Апякунка з ратаўнічым пакровам — на абразах 16—18 стагоддзяў паўстае то вытанчана-элегантнай, то па-сялянску простай. Мясцовыя ізографы арганічна спалучалі традыцыі візантыйскага і старажытнарускага мастацтва з заходнееўрапейскімі павевамі. У многіх выпадках мы выразна бачым элементы народнага дэкаратыўнага мастацтва — арнамент, кветкі, скразныя рэльефы акладу. У нас не было сваіх Рублёвых і Дыянісіяў, але работы ананімных майстроў па-сапраўднаму гожыя, пазначаныя творчай свабодай. Канон, ён як цэнзура — стрымлівае і абмяжоўвае. Ды каб усе мастакі строга прытрымліваліся канона, то ў хрысціянскім свеце не існавала б **чатырохсот** тыпаў багародзічных ікон. Ці такі ўжо недаравальны грэх — у руку малога Ісуса ўкласці кветку, а вочы *Заступніцы адцяніць веямі?..*

Сімбіёзам "там" і "тут" назвала мясцова-шанаваныя абразы доктар мастацтвазнаўства, прафесар Надзея Высоцкая. Яна правяла шэраг спецыяльных экскурсій для работнікаў культуры, падчас якіх вучыла адрозніваць Адзігітрыю ад Аранты, па асобных прыкметах устанаўліваць храналогію напісання, заўважаць раманскія ўплывы. Напрыклад, вядомая ў нас Мінская цудатворная ікона Божай Маці зазнала ўплыў італьянскага жывапісу. Сюжэт каранавання (так званыя "каранаткі") быў цалкам невядомы ў Візантыі і на Русі. Досыць стрыманая колеравая гама — таксама адметнасць абразоў, прадстаўленых на выставе.

Такім чынам, на стыку праваслаўнага Усходу і лацінскага Захаду, на зямлі, дзе цэрквы пераходзілі з рук у рукі, а князі — з веры ў веру, склалася свая іканаграфічная школа. І новая выстава — яскравы таму доказ.

**Г. К.**

на розных мовах, яны ўсё роўна імкнуцца да еднасці. Наша самабытнасць, магчыма, у мажлівасці прыняць іншую культуру, стварыць нешта новае, не адрываючыся ад сваіх каранёў.

## ПРА ЛІТАРАТУРУ

*Яго нястрымна цягнула да новых знаёмстваў, аднак кожная новая сустрэча павялічвала стомленасць...*

**Ф. Кафка "Замак"**

**— З усіх твораў Ф. Кафкі мне б хацелася калі-небудзь убачыць на экране "Пераўтварэнне".**

— Ведаеце, я хацела зняць "Пераўтварэнне". Аднак Кафка з тых пісьменнікаў, якіх нельга ставіць у кіно. Кінамова не дазваляе ўзнавіць атмасферу яго твораў. З гэтым трэба скарыцца. Я, напрыклад, скарылася, што ніколі не змагу паставіць "Майстра і Маргарыту" Булгакава. Творы Кафкі, Булгакава, я лічу, можна толькі чытаць.

**— Цікава, а творы якога пісьменніка больш за ўсіх падыходзяць для кіно?**

— Думаю, Пелевіна. Нават дзіўна, што яго не здымаюць.

**— Свае дыпломныя кароткаметражныя стужкі многія нашы маладыя рэжысёры ставілі ці паводле Хармса, ці Купрына, ці Шукшына. А чаму не паводле Быкава, Адамовіча ці іншых беларускіх пісьменнікаў?**

— Памятаю, як я абрадавалася, калі даведалася, што ў Беларусі ёсць фантасты. Вы ўявіць сабе не можаце, як я накінулася на зборнік іх твораў. Я заўсёды любіла фантастыку, вельмі многа яе прачытала. Чытаючы ж нашых фантастаў, я засумавала. Усё гэта паўторнае, а паўторнае ніколі не бывае лепшым за першапачатковае, яно заўсёды горш. Брэдберы лепш прачытаць у арыгінале, чым у "беларускім" варыянце. Мяне ўразіла, што нашы пісьменнікі-фантасты вельмі сціпла аналізуюць стан грамадства, баяцца прадбачыць, выказаць свой прагноз на будучае. А калі ўзяць творы нашых знаных пісьменнікаў, якіх вы згадалі, то, даруйце, гэта — учарашні дзень. А ўчарашні дзень не трэба асэнсоўваць, калі ёсць дзень сённяшні. Трэба наогул глядзець у будучыню. Мы ж жывём учарашнім днём і аглядваемся на ўчора, і сувымяраем усё з учора. Так не павінна быць.

**— Не пагаджуся з вамі. Быкаў і Адамовіч — гэта не ўчарашні дзень. Многія іх творы яшчэ і не былі па-сапраўднаму асэнсаваны, тым больш — экранізаваны. Алена, яшчэ не пастаўлена "Чарнобыльская малітва" С. Алексіевіч!?**

— Чарнобыль — гэта знак Беларусі. Часам я думаю, а якія ж вобразы трэба выкарыстаць, каб гэтая тэма закранула, каб людзі пакаяліся? Напрыклад, у 90-х В. Нікіфараў зрабіў дзве карціны, у аснове якіх — невуцтва нашага народа, якое немагчыма дараваць. Японцы ніколі нас не зразумеюць, калі будуць глядзець, як нашы людзі плачуць па атручаных радыяцыяй прадметах мэблі, фотаздымках, абразах. Не зразумеюць, таму што яны ведаюць, што такое атамны выбух, якія ён мае вынікі. Ад радыяцыі паміраюць дзеці, нараджаюцца ўроды, араць зямлю немагчыма. Як чалавек можа плакаць па фотаздымках, калі ён памірае ад іх, як дзядуля ці бабуля могуць прывесці ў атручаную хату ўнукаў ды яшчэ пачаставаць іх яблычкамі з агарода? Ці можна назваць гэтыя дэталі ўдалымі ў асэнсаванні трагедыі?

## НОВЫ ПРАЕКТ

*Можаш колькі заўгодна падбадзёрваць чалавека з завязанымі вачыма — няхай глядзіць праз хустку, усё роўна ён нічога не ўбачыць, і толькі калі здымуць хустку, ён убачыць усё. Дапамога — вось што патрэбна, а зусім не падбадзёрванне.*

**Ф. Кафка. "Замак"**

**— Алена, што плануеце здымаць пасля "гучнага дэбюту"?**

— Часам чыноўнікі кажуць, што, маўляў, не пішуць сцэнарыі, няма праектаў. Гэта няпраўда, праектаў многа і ўсе яны розныя. Так бы мовіць, многа ідэй лятае ў эфіры. І цудоўна, калі мастак з'яўляецца піянерам, першым нешта адкрывае і стварае. На жаль, многія нашы праекты проста не ўзыходзяць на "кепскай глебе". Год таму я прапанавала паставіць у нас кінамюзікл "Небяспечныя сувязі" па сцэнарыі А. Калюновай з цудоўнай музыкай У. Кандрусевіча. Вы заўважылі, як у Маскве сталі цяпер гаварыць пра мюзіклы, зрабілі "Метро". А ў нас, даруйце, як у тундры: мы ж маглі паставіць свой мюзікл год таму.

Але я зраблю, што задумала. Хутка ў тэатры эстрады на базе "Белвідэацэнтра" пачынаю рабіць відэамюзікл паводле аднаактовай камедыі Б. Віяна "Галава медузы, ці галава кругам". Гэта будзе першы, пробны праект перад вялікім праектам "Небяспечныя сувязі".

**— З якім настроем глядзіць кінапакаленне 90-х у новае стагоддзе?**

— Мне проста крыўдна, што, маючы сваю праграму, касмічную праграму, я не магу яе выканаць. Вы можаце запытацца ў мяне, а чаму ж вы тады не з'язджаеце адсюль? Я тут нарадзілася, гэта мая зямля, і я спадзяюся, што калі-небудзь усё ж зламлю гэты закаснелы асяродак.

Ведаеце, нас заўсёды імкнуцца ўсярэдніць: зразаюць галовы тым, хто вышэй сярэдняга і спачуваюць тым, хто ніжэй сярэдняга, не разумеючы, што арыентавацца трэба не на сярэдняе, а на вышэйшае. Мастацтва будзе развівацца толькі тады, калі сярэдняе будзе імкнуцца да вышэйшага. Напрыклад, за фільм "Тры жанчыны і мужчына" нам галовы трэба попелам пасыпаць, хаваць ад сораму вочы. А мы прызнаём, што фільм Дудзіна — лепшая карціна апошніх гадоў. Дзіўна: чорнае называюць белым, не саромячыся адзін аднаго ўзнагароджваюць...

Добра, фільмы зрабілі, а каму іх прадаць? Штосьці я не бачу, каб наша кінастудыя стала багацейшаю, што "запусціўся" нехта з дэбютам. А я лічу, што дзяржава павінна даваць грошы толькі на дэбюты. Усе астатнія — ногі ў рукі і пайшлі шукаць грошы, бо навошта вам тады імя, слава, вопыт. Я заўважыла, што калі нашы мэтры, крытыкі кажуць пра нас, маладых, дык яны залічаюць, што нашы фільмы — гэта дэбюты. Спачатку я думала, што гэта выпадкова, а цяпер я зразумела, што яны не ўспрымаюць нашы работы, як дэбюты. Яны ўспрымаюць нас як калег-канкурэнтаў, якія здольныя здымаць так, як яны ўжо не могуць. Іх вобразы састарэлі. Калі рэжысёр не прагне пошуку, эксперымента, ён перастае быць цікавым. Калі творцу ўжо ўсё вядома і нічога не трэба — гэта сумны мастак. Што ён можа сказаць у сваіх фільмах?

**— Алена, вы закранулі праблему змены пакаленняў...**

— Нельга пакінуць пачаткоўцаў у кіно без майстроў, настаўнікаў, якія б маглі падказаць, дапамагчы. Часам я не разумею, навошта "зацiскаць" маладых, якія хочуць працаваць, ствараючы пры гэтым кепскія карціны. Не можаш больш рабіць кіно — станавіся побач з тымі, хто толькі пачынае, дапамагай...

Я не разумею навошта зараз Пташук набраў курс, калі сярод выпускнікоў двух папярэдніх курсаў рэжысёраў сёння амаль усе беспрацоўныя. Вы спачатку дайце нам магчымасць працаваць.

**Гутарыла**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

*Фота А. ПРУПАСА*

# Вы думаеце, што я хворы?..

*Дзяцей з разумовымі і фізічнымі захвор*ваннямі многа ў нашай краіне, але мы іх не заўважаем. Наша грамадства не адаптавана ні прыладамі ў транспарце, дамах і школах, ні нашымі адносінамі да дзяцей з асаблівасцямі фізічнага і інтэлектуальнага развіцця. І калі супрацоўнікі нямецкага федэральнага таварыства па падтрымцы жыцця людзей з разумовымі абмежаваннямі, напрыклад, прызнаюцца, што іх краіна крочыла да сённяшняга больш чым ашчаднага стаўлення да такіх дзяцей трыццаць год, то наколькі ж гэты шлях расцягнецца ў Беларусі?

Гэтай высакароднай працай займаецца на Беларусі Беларуская асацыяцыя дапамогі дзецям інвалідам і маладым людзям. Пры падтрымцы БелАДДІ, Цэнтра "Адчыненыя дзверы" і Брацтва праваслаўнай моладзі імя К. Астрожскага пры царкве Пятра і Паўла, з дазволу кіраўніцтва Беларускай акадэміі мастацтваў у адной з яе аўдыторый адбылася выстава аднаго дня. Яе аўтары — дзеці з рознымі захворваннямі, рознай ступені цяжкасці, з фізічнымі недахопамі, а таксама асобны стэнд быў прысвечаны творчасці 1 дзіцячага інтэрната ПНІ "Навінкі". По ўсім свеце даўно прызнана, што маляванне, мастацкая дзейнасць мае для такіх дзетак вялікі эфект. Гэта шанс для іх сфармуляваць свой унутраны свет. Гэта іх свабодная прастора, іх камунікацыя з сусветам, а галоўнае магчымасць адаптавацца ў ролі мастака.

БелАДДІ, Беларускі Экзархат нават выпусцілі ў гэтым годзе кнігу, пераклад з нямецкай мовы, "Мастацтва і творчасць людзей з асаблівасцямі ў разумовым развіцці". Цікава, што яна не толькі даводзіць сацыяльную і лячэбную неабходнасць творчасці для такіх дзетак. Але і ў асноўным дае парады як сацыяльна адаптаваць іх у садках і школах, стварыць спецыяльныя ўмовы для малявання, размеркавання працоўнага часу і нават фінансаваць такую творчую дзейнасць. Для Германіі — гэта натуральная падтрымка муніцыпалітэтаў. На Беларусі ж гэта дзейнасць толькі шукае спонсарства, малюнкі дзяцей не захоўваюцца. І наша грамадства яшчэ не ацаніла, наколькі абагаціцца, напрыклад, псіхалогія, псіхіятрыя, якія знойдуць доступ да ўнутранага свету дзяцей з асаблівасцямі ў разумовым развіцці. Дый, увогуле, наколькі цікавая такая творчасць, натуральная і архаічная ў сваёй аснове, яркая, алагічная па мысленні.

Выставу ў Беларускай акадэміі мастацтваў задумалі і правялі па асабістай ініцыятыве два студэнты Алесь Шаціла (3 курс скульптуры БелАМ) і Святлана Гарбаценка (4 курс народнай культуры БГПУ). І ўжо атрымалі некалькі нечаканых прапаноў набыць некаторыя дзіцячыя работы.

**Н. Ш.**



## ЧАСАПІС

### "Полымя", N 11

"Псалмы Давідавы" — новая падборка твораў Р. Барадуліна. Змешчаны таксама вершы В. Яраца, А. Зэкава. Проза прадстаўлена аповесцю М. Воранава "Песня чорнага дразда", дыялогамі, аповедамі А. Масарэнкі і навелай А. Кавалеўскага "Калека" (уступнае слова і публікацыя В. Нікіфаровіча). М. Аўрамчык ("Духоўны прарок і зямны чалавек") успамінае пра Я. Коласа. Творчасць М. Лынькова ў сувязі са 100-годдзем з дня яго нараджэння асэнсоўвае Д. Бугаёў ("Сэрца ў яго сапраўды было шчодрае"). І. Казакова ("Скарбонка міфалагічнай архаікі") разглядае перавыданне кнігі А. Сержпутоўскага "Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў", А. Бадак ("Люстэрка часу") — зборнік вершаў беларускіх паэтаў "Агледзіны". Пад рубрыкай "З рэдакцыйнай пошты" прапануецца ліст Г. Шэршаня "Трымай галаву ў холадзе" — пра асвятленне ў друку культуры зберажэння здароўя.

### "Маладосць", N 12

Чытач пазнаёміцца з вершамі І. Чачоткі, А. Шадрына, С. Патаранскага, А. Лісіцкага, М. Дуксы, Я. Каршукова, І. Чыгрына. Змешчаны апавяданні "Дзень, калі не хапае дажджу", "Бярозка" Г. Аўласенкі, фрагменты новай кніжкі В. Адамчыка "Чорны адбітак на белай сцяне", дзённік года У. Ліпскага "Снег на галаве". І. Коўцель і У. Паўлаў ("За нашу і вашу волю") расказваюць пра знаходжанне ўраджэнцаў Заходняй Беларусі ў радах іспанскіх інтэрбрыгад. Да 60-годдзя філалагічнага факультэта БДУ прымеркавана публікацыя артыкулаў К. Камейшы "Філфак паэтычны..." і У. Лазоўскага "Беларускае мовазнаўства на філфаку". Друкуецца заканчэнне "Нататкаў пра бадзянні ў 1924—1929 гады" М. Улашчыка, творчы партрэт С. Законнікава "Не згасіць свечку...", напісаны Аленай Яскевіч; рэцэнзія А. Марціновіча на кнігу вершаў С. Сяргея "Буслы на ржышчы" ("Дождж у далонях"), пародыі А. Зэкава. К. Вікенцьеў ("Выявы чароўнага") знаёміць з мастаком Л. Грыцковым.

### "Крыніца", N 56

Аркадзь Куляшоў... Пра постаць і творчасць гэтага паэта аўтары часопіса вядуць не акадэмічна спакойную гаворку, а завочную дыскусію. Спрэчкі вядуцца і вакол "Сцяга брыгады", і вакол "Балады аб чатырох заложніках", і вакол "Камуністаў", і вакол асобы творцы. Сваімі думкамі, назіраннямі і ўражаннямі з чытачамі дзеляцца Алесь Пісьмянкоў, Дзмітрый Бугаёў, Леанід Галубовіч, Галіна Каржанеўская, Галіна Булыка, Усевалад Гарачка, Пятро Прыходзька і Алесь Марціновіч. Як гэта прынята ў рубрыцы "Я", друкуецца жыццяпіс А. Куляшова і вялікая падборка ягоных вершаў.

У гэтым жа нумары змешчаны падборкі твораў адразу трох паэтэс: Галіны Булыкі, Людкі Сільновай і Зінаіды Дудзюк. У рубрыцы "Я маю твор" з вершамі выступаюць Андрэй Мазько, Таццяна Барысюк, Анатоль Трафімчык.

Алесь Асташонак апублікаваў "Нататкі сумесніка". У іх аўтар дзеліцца ўспамінамі пра эпізоды свайго жыцця, пра сустрэчы з цікавымі людзьмі, а таксама развагамі пра ўчарашні і сённяшні дзень літаратуры і дасягненні асобных аўтараў. Сяргей Рублеўскі з Віцебска друкуе эсэ "Апалагетыка адзіноты", "Іоў!" і апавяданне "У кутку зімародкаў".

Багацее беларуская бібліятэка перакладаў з лацінскай мовы. Уладзімір Шатон, які ў свой час зрабіў філалагічны пераклад "Песні пра зубра", на гэты раз ён зноў вяртаецца ў пачатак XVI ст. і друкуе вялікі фрагмент славутай "Пахвалы дурасці" Эразма Ратэрдамскага. Да публікацыі перакладчык напісаў пасляслоўе.

Ф. ТРОНКА

### "Беларускі гістарычны часопіс", N 4

Апошні ў 1999 годзе нумар штоквартальніка адкрываецца артыкулам галоўнага рэдактара "БГЧ" В. Кушнера "Гісторыя павінна аб'ядноўваць усіх, хто жыве на Беларусі". Да 70-годдзя з дня заснавання Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі змешчаны артыкул М. Касцюка "Шлях складаны, але плённы". Пад рубрыкай "З гісторыі партый і рухаў" друкуецца заканчэнне артыкула М. Сташкевіча "Перадумовы і працэс стварэння палітычных партый на Беларусі (канец XIX ст. — люты 1917 г.)". Сярод іншых матэрыялаў — "Інтэрпрэтацыя паняцця "ўскраіны" з пункту гледжання развіцця цывілізацый" А. Хадубскага, "Заняцце Масквы: трыумф і пачатак гібелі вялікай арміі" І. Груцо, "Мужчынская і жаночая адукацыя ў раннім хрысціянстве" В. Лянцэвіч, "Полацкі кадэцкі корпус і яго выхаванцы" В. Шайкова, А. Лукашэвіча, "Ахова здароўя на Беларусі (1917—1926 гг.)" М. Абраменкі, "Вынікі і наступствы паўстання 1830—1831 гг." В. Гарбачовай.

## "ЛіМ"-ФОТА



*Студэнцкі цырульнік.*

*Васіль ЗУЁНАК з аднакурснікам МікалаемСАКАЛОВЫМ, у будучым — рэдактарам газеты "Знамя юности", намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Беларуская думка", 1956 г.*

*Фота Эдуарда ДАМАРАЦКАГА, таксама аднакурсніка.*

# Падарожжа ў Цельшына

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

пра "невялічкую вёску ў адну вуліцу", якая выглядала непрыкметна і непрытульна, тапілася ў густой і чорнай, як дзёгаць, гразі. Цяпер вуліц у вёсцы шмат, і ўсе яны падсыпаны гравіем, а дзе-нідзе нават заасфальтаваны. Непралазнай калатушы, мабыць, не бывае і ў веснавое разводдзе, бо навакольныя бясконцыя балоты асушаны і прыносяць хоць нейкую карысць. Каналізавана ці, дакладней, знявечана аж да самага вусця і рака Цна. Цікава, што рабіў бы сёння дзед Мікіта, зацяты цельшынскі рыбак? Няма вялікай вады — няма ні рыбы, ні ўюноў, якіх тут мяхамі валачылі з балотных азерцаў і канаў.

То было даўно, у пачатку стагоддзя, але і на яго заканчэнні ў Люсіне ўсё яшчэ трапляюцца прыкметы непахіснага і стойкага характару палешукоў. Зноў жа, чытаем у Коласа: "Амаль што не каля кожнай хаты ляжалі кучы бярвенняў..." Такія ж кучы бярвенняў, праўда, абрэзаных на пілараме, высокія штабялі свежых дошак дзе-нідзе на падворках ляжаць і зараз. Вёска пакрысе будуецца, і колькасць жыхароў амаль не зменшылася, нягледзячы на эканамічны заняпад мясцовага калгаса. Самастойна вылузацца з прорвы гаспадарка не мае сілы — нават у механізатараў аплата працы зусім марная, і, каб зарабіць трохі грошай, людзі, асабліва моладзь, ездзяць ці то ў Ганцавічы, ці то ў Лунінец, дапяльваюць і ў Баранавічы: раніцай туды, вечарам — дахаты. Як і сто гадоў таму назад, як і пасля вайны, так і сягоння вёску Люсіна ад бядноты ратуе чыгунка.

З крутога завароту вуліцы, калі старасвецкія прысады застаюцца позаду, ужо, як на далоні, відны пераезд, пачакальня і — цераз насып — прасёлак, што вядзе ў Завітанкі. Лаўлю сябе на думцы: гэта ж я іду па той самай вуліцы, дзе з кіпай павестак, нядоімак, белых і сініх канвертаў кожны дзень шастаў цельшынскі стараста Раман Круглы. Ну, добра — няхай менавіта яго Якуб Колас спісаў, як кажуць, з "натуры". Аднак не выключана, што знойдуцца патомкі і іншых арыгінальных персанажаў аповесці "У палескай глушы". Нездарма ў творы ўжыты адвечныя прозвішчы палешукоў: Жалезны, Яська Цялушка, Рылка, Занька, якія і зараз пераважаюць у Люсіне. Не мела ўласнага прозвішча адна хіба добрая і чулая знахарка бабка Мар'я. Ды вось яно — боскае наканаванне. З крайняй хаты насупраць выбегла сухарлявая, чарнявага воласу кабеціна. Чым не школьная старожка? Толькі сагнёная згрызотамі жыцця ды сваім немаладым узростам. У руцэ яна трымае лазовы кошык, але пераходзіць вуліцу з пустым не хоча — стаіць і нізка кланяецца чужому чалавеку.

— Мусіць, дзетачкі, вам трэба ехаць? То спяшайцеся. Чуеце — рэйкі гудуць. То шчаслівай вам дарогі, дзетачкі!

Трывожным дзвынканнем азваўся чыгуначны пераезд: прыгарадны дызель-поезд на падыходзе. Тым часам сонца яшчэ больш апусцілася над Пакамераўскім лесам. На прасёлку з поля вяртаюцца першыя капальніцы, паказаліся вазы з бульбай, шлейфам пылу ахутаўся калгасны грузавік. Вёска пачынае ажываць. Але на паўстанку імя Якуба Коласа, як і ўдзень, пуста і бязлюдна, куды ж ехаць нанач? Яно, як мне, і лепш. Ні гармідару, ні таўкатні пры пасадцы. За вагонным акном уздоўж чыгункі спорна пабеглі тэлеграфныя слупы з туга нацягнутымі дратамі і такімі ж, што і на пачатку стагоддзя, белымі "гугачкамі". Усё часцей і часцей мільгаюць прыдарожныя бярозы, шырокія прагалы, сялянскія гасподы з рыжымі стагамі сена на падворках — дызель-поезд набірае разгон.

Бывай, Цельшына! І да новай сустрэчы!

# ВЯШЧУН ГЕДЗІМІНА

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Я зноў пагладзіў яе па плячы:

— Не хвалюйся. Будзе так, як ты хочаш.

Яна сабралася ісці, але спахапілася:

— Я ж нічога табе не адкрывала, а ты ўсё ведаеш! О вялікі! Скажы мне яшчэ, што яна... што яе спякуць на агні, закапаюць у зямлю жыўцом, аддадуць Вадзяніку!..

Я адхіліў яе ад сябе. Як апрыкралі мне людзі! І злосць — чорная, няўтольная...

— Ідзі. Я стаміўся.

— Ты... ты незадаволены мной, Ляздзейка? Так, я гэта бачу. Гэта таму, што ты не ведаеш кахання, бо ты...

Я зачыніў дзверы, незнарок прышчаміўшы як фалендышовую сукню. Яна рванулася прэч так, што затрашчала тканіна.

Самотны настрой апаноўваў мяне ўсё болей. Я зразумеў, што адседзецца тут не ўдасца — зноў некаму, сама таго не падазраючы, перайшла дарогу дзяўчынка з фіялкавымі вачыма, з палахлівым і адначасова мудрым позіркам, альбо прывабіла, альбо прымусіла адчуць нешта загадкавае, таямнічае, што абвявае нашы жыцці штодзённа, шточасна, толькі мы не заўважаем таго альбо, заўважаючы, адмахваемся, як ад незразумелага і таму — непатрэбнага.

Я, служка таямнічага, змушаны чуйна слухаць навакольнае і лавіць знакі бостваў паўсюдна і заўсёды. Хаця — чаму змушаны? Мяне змусілі — яны неўміручыя багі, што жывуць у кожным камені, у кожнай расліне і тым болей чалавеку. Гэта яны кінулі мяне, немаўля, у лесе, і я, плачучы, ішоў без дарогі, пакуль не натрапіў на мяккі мох і не заснуў там. Яны ж прывялі князя Гедзіміна ў той лес і ў той час, і ўзляцеў арол над дрэвам, дзе я спаў, і страла князя дастала яго ў небе. Арол упаў на мяне, але я не прачнуўся, нават тады, калі слугі, уражаныя дзіўным відовішчам — мёртвы арол на грудзях трохгадовага хлопчыка, — паклікалі князя, і той загадаў узяць мяне ў палац і сам выхоўваў мяне.

Думаю, што мяне проста выкралі недзе бадзягі, альбо бацькі мае памерлі ад воспы, а я забрыў у той лес. Але слугі разнеслі паўсюль, што я жыў у арліным гняздзе, што я — вяшчун. Можа, якраз іхняя апантаная вера і сталася прычынай таго, што я рана стаў разумець уладу Таямнічага? Пры двары Гедзіміна быў немец, што варажыў па планетах, і я, часта прыходзячы да яго, неўпрыкмет вучыўся спакойна абыходзіцца з зоркамі і нават разумець іх вечны і несціханы бег праз Сусвет.

Я супраціўляўся званню княжацкага вешчуна. Я пераставаў быць свабодным. Я пераставаў любіць багоў, якія давалі мне магчымасць калі-нікалі адкрыць таямніцы жыцця. Бо раней я прымаў ад іх светлыя моманты азарэння як падарункі, а цяпер я быў у іх на службе, і мусіў прасіць іх, а яны капрызілі, капыліліся, часам шпурлялі ў мяне маланкі, каб я адчапіўся і не турбаваў іх. Таму аднойчы я зламаў нагу, якая кепска зраслася, а другі раз пажар у грыдніцы апаліў мне твар і пакінуў на ім сляды.

З усіх нашых старых язычніцкіх багоў я найбольш любіў Лялю. Яна мільгала ў бярэзніку, прымаючы песні і карагоды, якія ў яе гонар ладзілі вясной дзяўчаты і хлопцы — легканогая, палахліва-пявучая, забываючыся на каханкаў, як толькі адыходзіла ад іх.

Зюзя прыносіў халады, і я курчыўся зімою ў каменным мяшку, нацягваючы на сябе воўчую шкуру, ад якой пахла зацкаваным зверам, што доўга ўцякаў ад паляўнічых. Я адкідаў яе, але тады карчанела мая спіна, павернутая да вакна. У стылыя зімовыя ночы зорак не было, я вылічваў іх ход, крэмзаючы вострым сцілом па васковай табліцы, і часам, раззлаваўшыся, шпурляў кавалкі воску ў агонь.

Можна было б любіць Цёцю — мажная і магутная, яна часам валялася ў снапах, бессаромна раскінуўшы ногі, у спякоце ліпеня, і ў раскудлачаных яе валасах матляліся павуцінкі. Але мяне бянтэжыла яе заўсёдная гатоўнасць дзяліцца ўсім, нават сабой, і ў бяздоннай глыбіні гэтай неўтаймоўнай жаноцкасці можна было згінуць без аніякага следу...

Жыцень жа вечна хітрыў — з мужыкамі, што прагна падлічвалі копы жыта, гурбы рэпы і бручкі, гарнцы гароху і бобу, з жанкамі, што сцялілі льняныя сувоі, каб туманы выбелілі іх, з дзеткамі, што цягнулі кашы з грыбамі. Ён, аглядаючы свае ўладанні, часам непрыкметна падпіхваў сувой, і той каціўся па схіле, прападаючы ў рэчцы, альбо напускаў на грады плойму хрушчоў, і яны прагрызалі дзіркі ў сакавітых залацістых пладах, альбо пырскаў дажджом на высушаныя вязанкі шчырых грыбоў, што віселі пад стрэхамі.

Ляля не хітрыла — яна радавалася жыццю і свяцілася ад шчасця, калі дзяўчаты плялі для яе вянкі і кідалі іх у возера, альбо вадзілі карагоды і спявалі ёй песні, альбо калі кахаліся на мурожным лузе пад гукі свірэлі.

І, зноў падумаўшы пра дачку Рацібора, я вырашыў вярнуцца ў тлум і гвалт святочнай вячэры і паназіраць за ёй.

ПЕРАКЛАДЫ

# Гавэнды Ігната Ходзькі

*Мова літаратурнага твора не можа быць крытэрыем вызначэння нацыянальнае прыналежнасці пісьменніка. Бо зварот большасці літаратараў Беларусі XIX стагоддзя да польскае мовы нельга лічыць прынцыповым. Тагачасны літаратар быў пазбаўлены выбару: толькі польская мова магла стаць ягонаю літаратурнаю: гэтая мова з'яўлялася моваю школы, справаводства і (разам з латынню) моваю касцёла. Беларуская моўная стыхія, уплываючы на мову носьбітаў польскае (альбо лепш — ліцвінскага варыянта польскае) мовы, заставалася моваю ніжэйшых слаёў насельніцтва. Узвесці гэтую мову ў ранг літаратурнай мог толькі прарок, вяшчун, геній (як Т. Шаўчэнка ва ўкраінцаў).*

*Увесь корпус тэкстаў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя сведчыць пра тое, што польская мова не з'яўляецца роднаю для іх аўтараў. Нельга казаць таксама, што яны — пісьменнікі, паэты, шляхта ўвогуле — былі выхаваны на польскай культуры. Польскай культуры беларуская шляхта амаль не ведала. (Калі не лічыць такою некалькі застольных песняў, прынесеных з карэннай Польшчы яшчэ да падзелаў Рэчы Паспалітае). Вось як, напрыклад, А. Рыпінскі характарызуе мову тагачаснае шляхты: "А хочаце ведаць, на якой мове размаўляе пан шляхціц? Гэтага ён і сам не ведае! Чытаць не ўмее, друкаванага не церпіць, падпісваецца не па-шляхецку, бо толькі крыжыкам альбо, што ўжо па-вучонаму, якімсьці кручком, якога і сам не пазнае; размаўляе на дыялекце, прынятым у ваколіцы: казацкім, жыдоўскім, татарскім, маскоўскім, рускім, яму ўсё роўна! — і заўсёды да яго дамешвае пару польскіх словаў, якія яму ў спадчыну ад прадзедаў яшчэ засталіся. Яны — лепшы довад шляхецтва, як і збуцвелы дыплом пад страхою". Вядома, пасрэднікам тутэйшага насельніцтва і польскае культуры выступілі кнігі — масавая літаратура (арыгінальная і перакладная), дзе ўсё ж галоўную ролю адыгрывала творчасць не "каранажаў", а ліцвінаў, навуковая, а таксама канфесійная, альбо кірмашова-"odpustowa" (лубачная). Аднак польскія нацыянальныя архетыпы не сталіся арганічнаю часткаю свядомасці нашых продкаў. Ды і "польская" мова беларускае шляхты няшмат мела дачыненняў з польскімі нацыянальнымі архетыпамі, бо наскрозь была прасякнута беларускім духам. Якраз гэта давала падставы сучаснікам сцвярджаць, што мова тагачаснае літаратуры на Беларусі "зусім простая, не польская, а беларуская — у кожным слове быццам чуеш беларуса" (І. Галавінскі).*

*Якія ж яшчэ патрэбны крытэрыі, каб польскамоўную літаратуру Беларусі лічыць беларускаю? Якія ж яшчэ патрэбны крытэрыі, каб беларускае літаратуразнаўства даследавала не фрагменты, а ўвесь літаратурны працэс на Беларусі ў XIX стагоддзі? Калі ўжо мы ўсю разумовую культуру нашых продкаў будзем лічыць беларускаю, не дзелячы яе на сваю — сялянскую, і польскую — шляхецкую?*

***Ігната Ходзьку** (1794—1861) выхавала шляхецкая гавэнда — вусныя гутаркі, апавяданні, якія так любілі калісь на Беларусі. Гавэнда, якая сталася школай жыцця, "акадэміяй" (К. В. Вуйціцкі) для сярэдняга класа тагачаснага грамадства. "Гавэндарам" быў Мацей Відмант, дзед з боку маці, у маёнтку якога Заблочына на Вілейшчыне і прыйшоў будучы літаратар на свет; "гавэндарам" быў і Міхал Ходзька, дзед з боку бацькі, што жыў у маёнтку Дзявентня, дзе пройдзе большая частка жыцця І. Ходзькі.*

*Своеасаблівым працягам хатняе "акадэміі" сталася вучоба ў базыльянскай школе, у Барунах. Характэрна, што менавіта досвед, атрыманы ў барунскай школе, будзе вельмі часта выяўляцца ў пазнейшай літаратурнай творчасці пісьменніка. А вось вучоба ў Віленскім універсітэце (1810—1814), уплыў Яна Снядэцкага, ідэолага віленскіх класіцыстаў, спрыялі захапленню асветніцкімі ідэямі. Масонскія ложы Мінска і Вільні, прэзідэнтам якіх быў родны дзядзька і апякун пасля смерці бацькоў Ян Ходзька, славуты ў той час літаратар, а таксама таварыства шубраўцаў, у якім І. Ходзька меў мянушку Віршайтаса (бог сталітоўскае міфалогіі), зноў жа схілялі яго да пазіцыі аўтарытэтных яшчэ тады класіцыстаў. І. Ходзька піша оды, анакрэонтыкі, сатыры, артыкулы ў "Wiadomosci Brukowe", вядзе палеміку з рамантыкамі (паэтычны ліст да А. Э. Адынца, свайго сябра). Асветніцкім духам прасякнуты і першы значны твор літаратара — аповесць "Падданы" (1829), якою захапляўся А. Міцкевіч ды раіў развіваць свой талент у гэтым кірунку. Менавіта ліцвінскі патрыятызм "Пана Тадэвуша" падахвоціў іншых ліцвінаў заняцца працаю дзеля сакралізацыі свае Бацькаўшчыны. А вось структуру "Ліцвінскіх малюнкаў" "падказаў" І. Ходзька Генрык Равускі, які сабраў пад адным тытулам ("Успаміны Сапліцы") шэраг шляхецкіх гавэндаў. І. Ходзькі ўключыў у свой твор, які ён выдаў у шасці серыях (1840—1850, 1862), 26 гавэндаў. Жаданне закранцуь у сваіх творах больш далёкія часы (у "Ліцвінскіх малюнках" — гэта канец XVIII — пачатак XIX ст.), вывесці на сцэну далёкае мінулае падказала ідэю "Ліцвінскіх паданняў", што выйшлі ў Вільні чатырма серыямі (пяць гавэндаў) у 1852—1860 гг.*

*Дваццацігадовая літаратурная праца І. Ходзькі была належна ацэнена яго сучаснікамі. Ён карыстаўся заслужанаю славаю. А найбольш захаплялі чытача "**Успаміны квестара**" (квестарам манахі-бернардынцы называлі брата, які збіраў ахвяраванні на кляштар). Дзесяць разоў у XIX стагоддзі (з іх тройчы пры жыцці аўтара) гэты твор перавыдаваўся ў Вільні. Ягоная аповесць — стылізацыя пад няхітры дзённік-успаміны ўяўнага квестара, былога маршалка двара палацкага ваяводы Міхала Лаўрыновіча, што, ратуючыся ад гневу гаспадара, знаходзіць прытулак за кляштарнымі сценамі.*

*Прапаную аматарам мінуўшчыны нашага краю, аматарам літаратуры XIX стагоддзя фрагмент з аповесці І. Ходзькі "Успаміны квестара". Пераклад з польскае мовы па выданні "Pisma Ignacego Chodzki. T. I. Obrazy Litewskie. Wilna, 1880".*

***Мікола ХАЎСТОВІЧ***

Ігнат ХОДЗЬКА

# Успаміны квестара

### УРЫВАК З АПОВЕСЦІ

## IX

### Уцёкі

... Пан ваявода так раз'юшыўся, — і Бог ведае, што б са мною сталася! Магчыма, у шаленстве ён забыўся б нават, што я шляхціц, роўны яму, калі б Воля Найвышэйшага не паслала мне хуткую дапамогу. Прыехаў пан падваявода полацкі Корсак, сябра і прыхільнік ваяводы, ды перапыніў ягоныя намеры. Яны яшчэ віталіся, як я вылецеў з палаца праз буфетную, заскочыўшы толькі ў свой пакой ды схапіўшы з калка Эльжутку[1], а з куфэрка гаманец з талерамі і адзіным венгерскім дукатам з выяваю Божае Маці. А зверху ляжаў вось гэты мой дыярыуш, які я пакідаць не хацеў і не мог: калі б ён трапіў у рукі ваяводы (хоць там шчырая праўда), ніколі б мне пан не дараваў. Пакінуўшы астатнія свае манаткі на волю Божую, паімчаў я ва ўсю моц у стайню. Там, ускочыўшы на ясяддлана каня (адзін заўсёды стаяў гатовы ў дарогу) і паведаміўшы конюхам, што па пільнай і важнай панскай справе мушу скакаць у мястэчка (а мястэчка наша — за грэбляю), рушыў галопам за браму. Там павярнуў направа, на Глыбоцкі шлях. І хоць ужо змяркалася, а хутка і цёмная ноч насунулася, але ў мяне іскры сыпаліся з вачэй, а страх пагоні дадаваў смеласці. Конь, гнаны канчуком, ляцеў па гасцінцы колькі меў сілаў, але да канца, небарака, недацягнуў. Яшчэ было з паўмілі дарогі, як ён упаў без духу, а я, як куль з гары, зляцеў на зямлю, ледзь не зламаўшы карак. Дык пацягнуўся пешкі ў кляштар айцоў-кармелітаў. Днела, калі дабраўся да іхняга касцёла. Законнікі спявалі ютрань[2], і ксёндз-ігумен быў з імі.

Калі яны закончылі пацеры, ксёндз-ігумен, на маё шчасце, першы выйшаў з хору. Я дагнаў яго на калідоры і прытрымаў за габіт[3].

— Што ты тут робіш так рана, пане Міхале?

Ён добра мяне ведаў, ды і былі мы, хоць і далёкія, але кроўныя. Я растлумачыў яму неспадзяванасць майго прыезду, прасячы парады і сховы ад першага імпэту ваяводы.

— Гэта іншая справа, — сказаў ён, цярпліва выслухаўшы мяне, і даў рукою знак, каб ішоў за ім.

Калідоры былі яшчэ пустыя. Не заўважаныя нікім, мы дайшлі да ягонае келлі. Праз каморку ён завёў мяне ў асобны пакоік і сказаў:

— Навары ты піва, пане Міхале; наклікаў наш кляштар на гнеў ваяводы, які, калі даведаецца, што я цябе схаваў, патрапіць не раз дапячы нам. Але і выгнаць цябе не дазваляе мне любоў хрысціянская. Дык мусіш сядзець цэлы дзень замкнуты, а як ноч прыйдзе — выпраўлю цябе далей. Ёсць тут на паліцах неабходны падмацунак: шынка, смажаніна, напоі ды закускі. Спадзяюся, што з голаду не памрэш.

Сказаўшы гэта, ён выйшаў, замкнуў дзверы і ключы выняў з замка.

Застаўшыся сам-насам, я падумаў, што і праўда: "Калі трывога, дык да Бога!" Штосьці мне не то жаласна, не то сумна зрабілася. Дык укленчыў, павярнуўшыся да касцёла, а заўважыўшы праз закратаванае вакно крыж на вежы, маліцца пачаў.

Падняўся і пачуў сябе ўжо больш бадзёра і весялей.

— Воля ж Пана Бога! — падумаў, пакруціў вус (ах, хто б падумаў, што апошні раз пакручваў вус?) і пачаў прыглядацца да запасаў ксяндза-ігумена.

Ласка божая! У Кане Галілейскай лепш не было! Разнастайная гарэлка, віны, і мёду поўныя пляшкі! А якія закускі! Пернікі, лісіцы, смачная вяндлінка! Нічога не бракавала. Падмацаваўшыся добра, я прыгадаў сентэнцыю: "Віно весяліць сэрца чалавечае!", дык апаражніў пляшку віна і, выцягнуўшыся на лаве, хоць з кулаком пад галавою, заснуў, як на падушцы.

Ледзь пад вечар змог ігумен разбудзіць мяне: хваляванні ды пляшка нібы кінулі мяне ў летаргічны сон.

— Уставай, пане Міхале! — загукаў ён. — Час падумаць пра дарогу. Шукаюць вашамосця; а зганы ваяводскі рысак на гасцінцы паказаў, што ты дабраўся ўночы да мястэчка і што ты тут, за брамаю. Але не адчайвайся. Я паклапачуся пра бяспеку тваёго падарожжа. Аднак куды ты мяркуеш накіравацца?

— Сам не ведаю! — адказваю. — Здаецца мне, што найбольш бяспечна будзе ў найбліжэйшым ваяводскім горадзе: там мяне як шляхціца ваявода ані схапіць, ані пакрыўдзіць не зможа.

— Відавочна, у Мінск, — сказаў ігумен.

— Відавочна.



— Гэта добра. І чым ты там зоймешся?

— Што Бог дасць. Хопіць хлеба чалавеку, які не палохаецца працы. Маёнткі і паны, дзякуй Богу, яшчэ ёсць у нас.

— А як глядзіш на каптур? Стань законнікам!

— Дзеля чаго?

— Дзеля збавення душы, дзеля пакуты за грахі і дзеля спакойнага кута ў старасці.

— Ха! Калі б быў пэўны, што стану глыбоцкім ігуменам. Бо тут вы, здаецца, колькі соцень хат маеце.

— Не святыя гаршкі лепяць. Але навошта гэтыя думкі пра багацце? Малады ты яшчэ чалавек, але ж у гэтым веку найбольшыя спакусы, а ў свеце цяжка засцерагчыся... Я стаў законнікам у трыццаць гадоў, цяпер мне, дзякуй Богу, пяцьдзесят... ну... і працую дзеля хвалы Божае і дзеля збавення душы... От, падумай добра, а як пачуеш у сабе паклікане... Але пакуль пра вашамосця!

Мы выпілі па кілішку, пасля па другім.

— Ну, цяпер збірайся, — прамовіў ігумен, выціраючы вусны, — і вось як (ён адчыніў скрыню, што стаяла ў куце). Бяры адсюль стары манаскі габіт. Вялікі ён можа быць на цябе. Але гэта лёгка выправіць. Ёсць там і пасцель. Падушка дапоўніць тваю *цыркумферэнцыю*[4], пабернардынску закругліць тваю фігуру. Пасля прыдасца яна табе пад галаву, пакуль я твае манаткі здабуду ў ваяводы і табе прышлю. Нічога ты яму не вінаваты, дык рабаваць цябе не можа. Пагалі вусы! Я ў кішэні прынёс брытву.

— Як гэта? Мне пагаліць вусы?

— Канешне! Аніводзін законнік не ходзіць з вусамі!

— Але ж я яшчэ не маю паклікання! Яшчэ не вырашыў!

— Не пра гэта гаворка, мой браце! Пераўвасабленне тваё патрэбна толькі на час падарожжа, абы ты бяспечна даехаў да Мінска. Як заўважыць цябе хто ў габіце з вусамі... А яны ж адрастуць пасля, няхай іх там каты возьмуць! Я іншага спосабу не маю, а ў кляштары трымаць цябе не магу.

Не было чаго адказаць. Ён выйшаў, а я ўзяўся за брытву.

Цяжка распавесці, з якім шкадаваннем давялося мне развітацца з вусамі. Бо то ж былі вусы, што першае месца трымалі ў двары пана ваяводы, а нават і нядаўна на сойміку! Рудаміноўскаму толькі саступіць мусілі! А як жа я іх даглядаў! Як укладваў і завіваў! Як імі ўсе пачуцці выказаць умеў! Але што зробіш! Такая мая доля! Выпіў нагбом шклянку віна і... пагаліў вусы. Аж перапалохаўся, калі пабачыў сябе ў люстэрку. Галютанькі, як баба! Нос мой вырас удвая! Губа доўгая, як у старога немца! Словам, венецкае страшыдла! Слёзы ў мяне з'явіліся на вачах, калі па звычцы хацеў пакруціць свой вус...

Рэшта збораў не заняла шмат часу. Габітам мог абкруціцца двойчы, але калі падклаў падушку і зацснуўся поясам, нагадваў бочку, а не стварэнне Божае; нарэшце ксяндзоўскую шапку начапіў на галаву. Яшчэ раз зірнуў у люстэрка і ўпэўніўся, што не толькі іншыя, але і сам я з цяжкасцю пазнаў бы сябе. Сеўшы на зэдлік, я пачаў разважаць пра свой лёс, пра розніцу паміж кунтушам і габітам, між залатым слуцкім поясам і чорным скураным манаскім, між шабляю і ружанцам; глянуў на маю Эльжутку, што стаяла ў куце, прыгадаў пакінутую ў куфэрку сваю шляхецкую маёмасць, ды тут я пачуў званок, і ўвайшоў ксёндз-ігумен.

— Ну, ойча Міхал! — сказаў ён, з свечкаю аглядаючы мяне ад ног да галавы. — Што ж гэта? Слёзы за вачах? Стыдзіся! Вернешся зноў у свой улюбёны свет, калі ты так сумуеш па ім! У Мінску зробіш тое, што захочаш! Не плач, як дзіця! Вось табе папера, якую пакажаш, калі хто спыніць цябе ў дарозе. Запомні, што завуць цябе ксёндз Банавентуры Бабакоўскі, казнадзей[5], пасылаюць цябе з нашага глыбоцкага кляштара ў мінскі кляштар; гэта напісана ў паперы. А вось ліст мой да тамтэйшага нашага ігумена; яго зашыеш у ладанцы і аддасі яму *таемна*. І, нарэшце, вось табе на дарогу, — сказаў ён, сунуўшы мне ў руку колькі бітых талераў.

— Шчыра дзякую, Прывялебны! Але я маю свой маленькі запасік.

— Ад прыбытку галава не баліць! Бяры смела. Усё ж я твой нейкі там дзядзька, а кляштару гэтым не зашкоджу.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Ушанавалі юбіляраў

**Як "ЛіМ" паведаміў ужо, 75-годдзе адзначыў паэт-франтавік Васіль Карпечанка, 60 гадоў споўнілася крытыку і літаратуразнаўцу Яраславу Клімуцю. На творчай вечарыне ў Магілёўскай абласной бібліятэцы юбіляраў павіншаваў начальнік упраўлення культуры аблвыканкама М. Дарашкоў, які ўручыў В. Карпечанку ганаровую грамату аблвыканкама, а Я. Клімуцю — ганаровую грамату ўпраўлення культуры аблвыканкама. Сакратар абласной пісьменніцкай арганізацыі У. Дуктаў уручыў юбілярам ганаровыя граматы Саюза беларускіх пісьменнікаў. З віншаваннямі выступілі намеснік старшыні Магілёўскага райвыканкама В. Яленскі, намеснік кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёна г. Магілёва В. Кандрацьеў, рэдактар магілёўскай раённай газеты "Прыдняпроўская ніва" С. Дзядушка, старшыня прафкама аграгандлёвай фірмы "Днепр" Магілёўскага раёна С. Белаконь, дырэктар Рэчкаўскай сярэдняй школы Магілёўскага раёна А. Клачкоў і яго намеснік па выхаваўчай рабоце А. Губанаў, дырэктар абласной бібліятэкі А. Васіленка. З кампазіцыямі па вершах В. Карпечанкі выступілі заслужаны работнік культуры В. Ермаловіч і вучні СШ N 21 г. Магілёва. З хваляваннем слухалі прысутныя песні на словы В. Карпечанкі, якія праспявалі юныя артысты. Вядучая вечарыны Л. Мацкела здолела стварыць атмасферу шчырасці і нязмушанасці.**

**Уладзімір САСНОЎКІН**

## Помнік Каліноўскаму

**У літоўскім гарадку Салечнікі (Шальчынікай), што знаходзіцца на памежжы з Воранаўскім раёнам Гродзеншчыны, урачыста адкрыты помнік Кастусю Каліноўскаму. Барэльеф правадыра беларускіх паўстанцаў адлюстраваны на вялікім камяні, які ўстаноўлены па ініцыятыве Салечніцкага беларускага культурнага цэнтра. Аўтар помніка — вядомы мінскі скульптар Валеры Янушкевіч.**

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

## Пісаў для дзяцей

**Не стала Леаніда Шырына ў 1994 годзе, а нарадзіўся 1 студзеня 1930-га ў вёсцы Працавічы Слуцкага раёна. Большую частку свайго жыцця прысвяціў выхаванню падрастаючага пакалення. У 1982—1989 гадах быў дырэктарам Гоцкага вучэбна-вытворчага камбіната Салігорскага раёна. Першы верш апублікаваў у 1956 годзе ў любанскай раённай газеце "Кліч Радзімы", а ў абласным і рэспубліканскім друку выступаў з 1974-га. Выдаў кнігі вершаў для дзяцей "Мы дзеці шахцёраў", "Песні ручая", "Ясь, жалейка і вясна..."**

## Сваю справу ведае выдатна



**Таццяна Шугалеева — выпускніца Магілёўскага вучылішча культуры імя Крупскай, не адзін год прапрацавала мастацкім кіраўніком у вёсцы, і што такое народныя танцы і фальклор, ведае выдатна. З нядаўняга часу яна працуе метадыстам у Добрушскім раённым Доме культуры.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА,* БЕЛТА

ЮБІЛЕІ

# Працуем на будучыню

### ВЫДАВЕЦТВУ "ПОЛЫМЯ" — 50

Упэўнены: кніжкі з маркай выдавецтва "Полымя" ёсць у кожным беларускім доме, у кожнай сям'і. Яны — добрыя дарадчыкі, памочнікі, выхавацелі і настаўнікі. Адным словам — сябры.

Але наша выдавецтва 50 гадоў назад не мела сваёй цяперашняй назвы. Заснаванае ў студзені 1950 года ў выніку зліцця двух выдавецтваў ЦК ЛКСМБ і газеты "Савецкі селянін", яно называлася "Газетна-часопіснае выдавецтва Міністэрства культуры БССР". У яго склад уваходзіла каля 20 газет і часопісаў.

У 1963 годзе да яго далучылася выдавецтва газеты "Мінская праўда" і рэдакцыя вытворчай літаратуры з Дзяржаўнага выдавецтва БССР (цяпер "Беларусь"). Абноўленая арганізацыя і атрымала назву "Полымя". Выдавецтва пачало выпускаць прамысловыя каталогі, інфармацыйныя і рэкламныя выданні рознага роду нарматыўныя дакументы, памяткі і метадычныя рэкамендацыі па медыцыне, тэлефонныя і іншыя даведнікі для прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, насценныя календары. Без таварасуправаджальнай дакументацыі, якая выходзіла толькі ў нашым выдавецтве, не здавалася ў эксплуатацыю ніводная новая вытворчая прадукцыя.

Важны этап для "Полымя" пачаўся ў 1976 годзе, калі ў верасні яно атрымала новы статус — кніжна-часопіснае. З гэтага моманту мы прыступілі да выпуску кніг. Адначасова выдавецтва было пераведзена на гаспадарчы разлік. Нельга не ўспомніць Мікалая Дзмітрыевіча Геся, вопытнага выдаўца і вялікага прафесіянала, які прыйшоў у той час у "Полымя" на пасаду галоўнага рэдактара. Пад яго ўплывам і кіраўніцтвам сталі акрэсліваца тэматычныя напрамкі. Вялікую папулярнасць набылі кніжкі для вольнага часу: па рукадзеллі, аўта- і мотасправе, для аматараў фатаграфіі, для дамашніх майстроў, па кулінарыі, калекцыяніраванні.

Заслугай загадчыцы адной са сфарміраваных у той жа час кніжных рэдакцый Тамары Георгіеўны Мінчуковай стала стварэнне спартыўнай серыі для дзяцей і арыентацыя на аздараўленчую тэматыку. У 1978, 1979 гадах выйшаў цэлы шэраг такіх выданняў: "Играйте в мини-футбол", "Играйте в мини-гандбол", "Играйте в мини-баскетбол", "Играйте в мини-волейбол", "Туристские походы выходного дня" (Э. Макарэвіч), а ў 1980—1983-ім — "Движение, дыхание, психофизическая тренировка" (К. Дзінейка), "Природа и спорт" (Э. Самусенка), "Школа закаливания на дому", "Учись быть здоровым" (К. Прыходчанка), "Путь в страну здоровья" (Ю. Мерзлякоў) і інш. Шмат выходзіла кніг па шахматах і шашках. Наогул, з 1989 г. у "Полымі" быў сканцэнтраваны выпуск усёй падобнай літаратуры, уключаючы і навучальную. На міжнародных кніжных выставах-кірмашах яна заўсёды карысталася поспехам, замежныя выдавецтвы заключылі не адзін кантракт на выданне ў сябе кніг палымянскіх аўтараў.

Трэцім тэматычным накірункам, закладзеным у тыя гады, стала краязнаўства. Пачалі выходзіць кнігі, якія маглі зацікавіць кожнага і папулярнаю мовай, даверліва расказаць пра нашу гісторыю, беларускую культуру, народныя традыцыі, пра славутых землякоў, беларускія мясціны і прыроду. Былі заснаваны серыі "Гарады Беларусі", "Горад і наваколле", "Гарады-пабрацімы", "Нашы славутыя землякі". У серыі "Літаратурныя помнікі Беларусі" ўзнаўляліся творы беларускіх краязнаўцаў, этнографаў XIX стагоддзя. Паралельна працягвалі выходзіць рэкламна-інфармацыйныя і іншыя выданні на заказных умовах. Многія з іх мелі высокі ўзровень выдавецкай культуры і атрымлівалі прызавыя месцы на розных конкурсах мастацтва кнігі (альбомы "Архитектура малых форм и элементы обустройства автомобильных дорог Белоруссии", 1981; "Этажи созидания", 1985), У 1979—1983 гг. з маркай "Полымя" штогод выходзіла ў агульным падліку да 1700 назваў друкаванай прадукцыі агульным тыражом 52 млн. экз.

Усе згаданыя накірункі сталі традыцыйнымі для выдавецтва, акрэслілі яго тэматычны профіль. Сям'я, выхаванне дзяцей, здаровы лад жыцця, кола невытворчых інтарэсаў людзей, пазнавальная літаратура — вось тэматычны спектр, што і цяпер рэалізуецца ў выданнях. Значнымі літаратурнымі з'явамі стала выданне наступных кніг: "Память о легендах" (К. Тарасаў), "Белорусский "экватор", "Архитектурные памятники Белоруссии" (В. Чантурыя), "Замки Белоруссии" (М. Ткачоў), "Минск. Страницы жизни дореволюционного города" (З. Шыбека, С. Шыбека), "Гарадская геральдыка Беларусі" (А. Цітоў), календара "Францыск Скарына", выпушчаны да 500-годдзя беларускага пер-

# Успаміны квестара

*(Праціг. Пачатак на стар. 13)*

Я і ўзяў.

— А цяпер пайшлі...

Дык я за Эльжутку з кута... а ён мяне за руку.

— А гэта што такое! Мяркуеш прычапіць яе на габіт?

— Не, але даруй, ягамосць дабрадзей, шаблю маю не пакіну. Схаваю яе ў возе, дзе мая свецкая вопратка. Ноч цёмная, і фурман нават не ўбачыць.

— Ой! гэтая шабелька будзе адводзіць цябе ад пабожных думак, а я зычыў бы... Зрэшты, *чалавек мяркуе, Бог распараджаецца*, ды яшчэ Бог бласлаўляе! Я не гублю надзеі... Едзь з Богам, а я заўтра адпраўлю імшу за твае намеры.

X

### У Нясвіжы

Мілы божа! Ці мог я спадзявацца альбо падумаць колькі тыдняў назад на двары ваяводы, што ў хуткім часе буду сядзець тут, у келлі, у габіце бернардынскім? Бо яшчэ не вельмі прызвычаіўся да гэтага наймення. Праўду мовіў, выпраўляючы мяне з Глыбокага тамтэйшы ксёндз-ігумен і мой дзядзька: чалавек мяркуе, Бог распараджаецца. І сапраўды была тут ва ўсім воля Божая, перст Божы! Запісаўшы ў Мінску пра свае ўцёкі, занатую тут яшчэ ў маім любімым дыярыушы і маё пераўвасабленне ў фармальнага законніка. Адраклася ад мяне шабля мая, не выраслі паголеныя вусы, адна мне толькі засталася цацка — гэтая мая кніжачка. І хто ведае, можа, і ёй хутка будзе канец? Бо што пісаць, калі не будзе пра што? Якія ж здарэнні ў кляштарнай келлі?

Падарожжа маё прайшло без усякіх здарэнняў. Заехаў проста да кармелітаў. Кляштар іх бедны і драўляны. Толькі трое законнікаў жыве ў ім. Убачыўшы мяне, ігумен крыкнуў:

— Звар'яцелі! Прысылаюць мне ва ўбогую рэзідэнцыю такую вінную дзежку! Вашэць гатовы і мяне самога з'есці!

Я падаў яму паперыну, а ён і чытаць яе не хацеў, дык аддаў яму ліст. Заўважыўшы на капэрце знак *"soli*[6]*"*, ён гляніў на мяне і павёў за сабою.

— Вось табе і на! — сказаў ён, прачытаўшы ў келлі ліст. — Што ж мне рабіць з васпанам? Ксёндз-ігумен піша мне і тое, і сёе...

— Не хвалюйся, Прывялебны, — перапыніў я, — прашу толькі месца на пару дзён, а пра сябе я сам паклапачуся.

Ён зайшоў у кладоўку і вынес адтуль пляшку з гарэлкаю ды кавалак марынаванага шчупака.

— Падмацуйся, васпан, з дарогі, а я тым часам падумаю.

Я сядзеў ужо з паўгадзіны, а ён бесперастанку хадзіў шырокім крокам па келлі, нічога не кажучы. Перачытваў толькі шматразова ліст і круціў галавою. Не ведаю, як бы ўсё гэта закончылася, калі б, нібы наўмысна, а, відаць, па наканаванні, не прыйшоў ксёндз-кусташ[7] тамтэйшага бернардынскага кляштара.

— *Salve*[8]! Прывялебны! *Salve*! Што гэта? Маеш новага госця? — І, акідваючы мяне вокам з ног да галавы, дадаў: — На выгляд, як дзяжа, от цо ест. Але тым лепей. Я прыйшоў прасіць Вашу Вялебнасць на заўтрашні фэст да нас разам з усім канвентам, а пасля службы Божае на смажаніну з бараніны, от цо ест. А госць памножыць нашу *цэлебрацыю*[9]. І калі мудрая мазгаўня, — дадаў ён, звяртаючыся да мяне, — то прашу на амбон, от цо ест!

— Ахвотна згаджаюся з пабожнаю прапановаю ксяндза-кусташа, дабрадзея. Што ж да гэтага пана, дык прачытай, Прывялебны, гэты ліст, можа, лепей за мяне зразумееш сэнс ягоны і абодвум нам парадзіш.

— Што ж тут незразумелага, — прамовіў ксёндз-кусташ. — Ксёндз-ігумен глыбоцкі просіць цябе, ойча, каб падаўцу гэтага ліста, пану Міхалу Лаўрынавічу, былому маршалку двара пана ваяводы, даў сховішча ды іншыя выгоды на колькі дзён, і запэўнівае цябе капланскім словам, што ўцёкі і пераапрананне ягамосця не з яго, барані Божа, віны адбываецца, а толькі як спосаб вывернуцца з рук нягслушна ўгневанага на яго ваяводы. От цо ест! Дык чаго тут сушыць сабе галаву?

— Але *post scriptum* з другога боку! Перавярні.

— Ага! *Verte*. Не заўважыў, — і чытае — "Дбаючы не так пра зямное шчасце майго сваяка, як пра ягонае вечнае збавенне, я прапанаваў яму стан наш духоўны. За кароткі час не мог зразумець, у якую глебу трапіла зерне. *Адзіны шлях збавення — у служэе Божай, астатнія — марнасць*! Разумееш? Чыні мудра... і няхай дзеецца воля Божая".

— Ёсць рэч і няма рэчы! От цо ест! — сказаў ксёндз-кусташ, кладучы ліст на стол, — і што скажа ягамосць на гэта?

— Я нічога не адказаў на гэта ксяндзу-ігумену ў Глыбокім і тут не маю чаго сказаць. У кожным стане, здаецца мне, можна заслужыць збаўленне.

— Праўда! Шчырая праўда — добра сказаў. От цо ест. Але і тое праўда, што з пэўнага шляху да збаўлення, калі ён надарыцца, сыходзіць не варта. І калі намерышся яго абраць, дык станавіся нашым братам бернардынам! Больш пэўнае ў нас збаўленне душы, чым у ксяндзоў-кармелітаў. От цо ест!

— А чаму гэта? — запытаў закрануты за жывое ігумен.

— А таму, што мы, жывучы з міласціны, у штодзённай практыцы звяртаемся да галоўнай хрысціянскай цноты — пакоры, якая, як ведаеце, нябёсы працінае. От цо ест! — і, не чакаючы адказу, казаў далей: — Я дам найлепшую параду. У тваім, ксёндз-ігумен, кляшторыку пану экс-маршалку будзе і цеснавата, і галаднавата. От цо ест! Дык, мой дабрадзею, пакуль цябе Бог накіроўвае на правільны шлях, дапамажы мне падрыхтаваць заўтрашні абед, а пасля прыняць нашага правінцыяла, на прыезд якога спадзяюся. От цо ест! А цябе, татуленька, чакаю заўтра а дзевятай у закрыстыі. Бывай!

З тае прычыны, што ксёндз-ігумен мяне зусім не затрымліваў, наадварот, здаваўся задаволеным і развітаўся больш сардэчна, чым прыняў, дык я, апрануўшыся па-даўняму, з Эльжуткаю пры баку, а падушкаю пад пахаю, пайшоў за ксяндзом-кусташам.

Загасціўся я ў кляштары. Кусташ прызначыў мне келлю ахайную і вясёлую, якая мне адразу ж спадабалася. Забяспечыў харчам і выгодамі, і ўрэшце алавяны збан з выдатным півам паставіў на стале.

Заняўся я заўтрашнім абедам, маючы на паслугах старога брата. Атрымалася ўсё нашмат лепей і смачней, чым было дагэтуль. Пасля гэтага першага выпрабавання ксёндз-кусташ прапанаваў мне догляд над заможнаю кляштарнаю спіжарняю і піўніцаю; я не адмовіўся, бо мы з ім нібыта ўжо пабраталіся і палюбілі адзін аднаго. З дня на дзень усё больш і больш падабалася мне гэтае спакойнае і пабожнае жыццё сярод братоў, а жаданне вярнуцца ў свет усё больш і больш знікала.

Такою была, відаць, воля Пана Бога! Калі раніцаю ішоў на імшу і пабожна яе слухаў, альбо прыслужваў ксяндзу-кусташу, які найчасцей першую імшу правіў сам, дык так соладка, міла і спакойна рабілася на сэрцы, як ніколі не бывала ў свеце. Пасля імшы ксёндз-кусташ запрашаў мяне да сябе на каву.

— Паслужыўшы Богу, — казаў ён, — можам смела, пане Міхале, падумаць і пра цялесны падмацунак. От цо ест!

Пасля кожны браўся за свае справы, а я — на раду са старым братам адносна абеду, які з часу майго прыезду ў кляштар заўсёды быў смачнейшы, чым раней, за што мне айцы і браты шчыра дзякавалі.

Пасля абеду — адпачынак амаль у кожнай келлі, пасля адпачынку альбо ўзаемныя адведзіны і размовы мудрыя, а часам і показкі вясёлыя, але сціплыя, альбо праходка ў садзе, а там кеглі і піва

шадрукара, "Путешествие по Полесью и белорусскому краю" (П. Шпілеўскі).

У 90-ыя гады выдавецтва рашуча павярнулася да выдання кніг на беларускай мове. Можна без перабольшання адзначыць, што краязнаўчая тэматыка стала амаль цалкам беларускамоўнай. Гэта тычыцца як новых выданняў, *так і перавыданняў кніг, што* раней выходзілі на рускай мове і мелі поспех ("Памяць пра легенды, "Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада"). У апошняе дзесяцігоддзе выйшла шмат выданняў, што атрымалі даволі гучны грамадскі водгалас. Гэта зборнікі краязнаўчых нарысаў вядомага пісьменніка Я. Пархуты "Зямля бацькоў нашых", "Крыніца ёсць у родным краі", "Жальба жытняга коласа"; кніга з серыі "Нашы славутыя землякі" пра беларуса — першага расійскага консула ў Японіі Іосіфа Гашкевіча "Адысей з Беларусі" В. Гузанава; дзве кніжкі гістарычных нарысаў В. Чаропкі "Імя ў летапісе" і "Уладары Вялікага княства"; энцыклапе*дыя беларускай дамашняй гаспадаркі*, напісаная ананімным аўтарам XIX ст., "Літоўская гаспадыня"; "Санеты" А. Міцкевіча на польскай і беларускай мовах, кнігі В. Іпатавай "Паміж Масквой і Варшавай" на беларускай і нямецкай мовах, "Страчаная спадчына" — кніга-ўспамін аб загінуўшых у розныя часы і па розных прычынах цудоўных помніках беларускага дойлідства; першая з серыі "Майстры каменнага летапісу" кніга В. Чарнатава "Георгий Заборский"; двухтомнік гістарычных эсэ і нарысаў А. Марціновіча "Хто мы, адкуль мы..." і яго ж асобная кніжка такога ж плана "У часе прасветленыя твары"; кніга іерэя П. Баянкова і Л. Качанкі "Начаткі праваслаўя".

Да 1996 *года ў складзе* выдавецтва знаходзілася некалькі рэспубліканскіх газет ("Настаўніцкая газета", "ЛіМ", "Физкультурник Беларуси", "Голас Радзімы"), каля 20 часопісаў і бюлетэняў, інфармацыйна-метадычных зборнікаў. У ліпені таго ж года перыядычныя выданні аддзяліліся ад выдавецтва, і яно з гэтага часу стала кніжным.

У 1996 годзе палымянцам было даручана выпускаць кнігі для дзяцей — інвалідаў па зроку (шрыфтам Брайля). Першыя кніжкі *выйшлі ўжо да пачатку* 97/98 *навучальнага* года, і з таго часу штогод выдавецтва забяспечвае дзяцей некалькімі падручнікамі і кніжкамі для чытання з серыі "Школьная бібліятэка".

У азнаменаванне 2000-х угодкаў хрысціянтва выйдзе добра ілюстраваная кніга Алены Яскевіч "Падзвіжнікі і іх святыні", якая знаёміць з айчыннымі цудадзейнымі іконамі Божай Маці, расказвае пра святых — ураджэнцаў беларускай зямлі; хутка ўбачаць свет "Еўфрасіння Полацкая" У. Арлова і "Францыск Скарына, або Як да нас прыйшла кніга" А. Клышкі; выйдуць выданні для вышывальшчыц "Волшебный стежок" і "Машинная вышивка. Мережки". Тым, хто хоча разнастаіць меню сваёй сям'і і цікавіцца *новымі стравамі, адрасуем некалькі кніг па* кулінарыі. Можа, найбольш цікавая з іх — кніжка рэцэптаў старабеларускай і старапольскай кухняў, якая называецца "За столом королей и горожан". "Полымя" пачало асвойваць некалькі іншых тэматычных напрамкаў. Распрацавалі серыю "Практическая медицина", у якой у гэтым годзе плануецца выдаць 3 першыя кніжкі: І. Горбача "Комплексное лечение расстройств нервной системы", М. Папія "Психодиагностика и психотерапия при кожных заболеваниях" і Б. Шыцікава, Я. Платкова "Васкулиты". У серыі "У дапамогу абітурыентам" выйдуць "Английский язык" групы аўтараў і "Нестандартные методы решения задач по математике" В. Супруна. *Выйдуць некалькі кніг па* лекавых травах.

**Міхаіл ІВАНОВІЧ,**
**дырэктар выдавецтва "Полымя"**

---

з чыстага зерня дзеля ахалоды, альбо мядок дзеля настрою. Так і не заўважыш, як прыйдзе вечар, а тады — шашкі. карты, на бабы, а часам і на дробязь у мілай кампаніі аж да *silentium*, на якое, як толькі дадуць званок, кожны схіляецца ў сваёй келлі над трэбнікам, і толькі ксёндз-кусташ зрэдчас пройдзе па калідорах, дакладна пільнуючы манаскія правілы. І не кажу пра тое, што кожны паводле свае пасады ў законе і абавязку ў кляштары, у касцёле, у хоры і на хорах, ні на хвіліну не схібіць, аніводнага пацера не забудзе. Бо, як кажа ксёндз-кусташ: "Што Богу, тое Богу!"

Ужо колькі тыдняў правёў я ў кляштары, калі ксёндз-ігумен глыбоцкі даслаў куфэрак і ўсе мае манаткі, выпрасіўшы іх неяк у ваяводы. Гэта нагадала мне, што прыйшоў час падумаць пра свой лёс.

Я паразвешваў у келлі дзеля прасушкі жупаны, кунтушы, капоты. Два мае слуцкія паясы — адзін багаты, залаты, у карпавую луску, другі прыгожы ядвабны — расклаў на стале; тут зайшоў да мяне ксёндз-кусташ.

— А што гэта за закрыстыю ўпрыгожыў ты, *пане Міхале? — запытаў ён.*

— Гэта мае лахманы, што прыслаў ксёндз-ігумен глыбоцкі.

А ў душы я быў задаволены: кусташ мог усё ж пабачыць, што я не з-пад *плота* вылез.

— От гэта была б прыгожая мантыя на *asperges*[10]! — казаў ён, гладзячы мой літы пояс. — З жупанаў градэтуравых і атласавых — арнаты, з кунтушоў — *antepedia*[11], а з уладальніка — звяртаючыся да мяне, — бернардын. От цо ест!

— Не раз мне гэта, найшаноўны, у думках з'яўлялася, але...

— Што за "але"? — перапыніў ён. — Ахвяра свецкае марнасці і самога сябе на службу Божую не мае аніякіх "але"! Што ў гэтым кепскага? Д'ябал на свеце скача вакол цябе, як воўк каля барана, а ты ад пояса святога Антонія ўцякаеш, як злодзей ад кайданоў. От цо ест! Ці ж табе дрэнна сярод нас?

— Добра пакуль, і вельмі добра, але адно быць сярод вас госцем, а іншае...

— Быць пад *obedientia*[12]? Але ж і ў свеце той, хто служыць, траціць вольнасць, дык таксама мусіць быць пад *obedientia*. От цо ест!

— Бачыш, Прывялебны, на каплана патрэбна асобая навука. Ці ж мне зноў распачынаць вучобу?

— У тваім веку, калі б я заняўся табою, ты мог бы адразу стаць *jubilatem*[13]. Бо ж ты і латынь ведаеш. От цо ест! Але твой *animusz*[14] не для гэтага; таму заходзіць так далёка я табе не зычу. Застанься з намі, бернардынамі. Бога хвалі, мяса жары! От цо ест!

Гэтая фамільярная натацыя не вельмі мяне пераканала. Але пасля кароткага маўчання ксёндз-кусташ дадаў:

— Без жартаў, пане Міхале, паслухай мяне. Ты пачцівы і пабожны чалавек; з гэтымі вартасцямі пры бласлаўленні Божым табе можа добра пашанцаваць на свеце. Аднак у спакойным манаскім жыцці табе пэўна будзе лепей. Калі не маеш нейкіх асаблівых абавязкаў у свецкім жыцці, па якіх ты сумаваў бы ў кляштары, дык раю табе, паклікаўшы Пана Бога на дапамогу, прасіць Ягонае ласкі, каб цябе прасвятліў, а думкі твае і рашэнні паводле свае волі скіраваў.

Справім сёння за твае намеры ўрачыстую службу. Выслухай яе з пабожнасцю і пакораю, а пасля зрабі, што табе Бог дасць. От цо ест!

Калі кусташ выйшаў, я неспакойна хадзіў па келлі. У галаве шумела. І гэтак добра, і так кепска... А Бог ведае толькі што лепш, што горш. Дык з нецярплівасцю чакаў службу.

Маліўся я доўга. Калі падняўся з падлогі, ужо нікога не было ў касцёле — служба закончылася. Мніхі пакінулі хоры, а я застаўся адзін. Было ўжо цёмна, толькі лямпа мігцела перад алтаром. Раптам пачуў за спіною крокі. Побач са мною стаў ксёндз-кусташ, які сядзеў у спавядальні і чакаў мяне.

— Я ведаю, браце, — сказаў ён, — тваё рашэнне! Няхай цябе Бог падмацуе ў ім; я цябе зычліваю капланскаю рукою бласлаўляю!

Я ўкленчыў. Ён перажагнаў мяне, абняў за галаву. Мы прачыталі *"Te Deum laudamus"*, выйшлі праз закрыстыю на кляштарны калідор і пакіраваліся ў маю келлю.

Я склаў без ладу, але і без жалю маю вопратку і паясы ў куфэрак.

— Гэта, ойча, — кажу, — нясі да сябе, аддаю ўсё ў тваё распараджэнне.

— Не, браце, — адказвае ён мне, — занясём куфэрак у закрыстыю, бо ўжо гэта ні маё, ні тваё, а ахвяра твая Богу, які думкі і сэрца тваё бачыць. От цо ест!

*Сказана — зроблена*! Куфэрак апынуўся ў закрысці, а я, развітаўшыся з ксяндзом-кусташам, пайшоў адпачываць і без усялякага жалю спакойна заснуў.

---

[1] *Эльжутка — так называў герой сваю шаблю.*

[2] *Ютрань — ранішняя малітва.*

[3] *Габіт — верхняя вопратка манаха.*

[4] *cyrcumferencya — акружнасць.*

[5] *Казнадзей — прапаведнік.*

[6] *soli — сакрэтна.*

[7] *Кусташ — захавальнік музея, бібліятэкі.*

[8] *Salve! — Вітаю!*

[9] *Урачыстае набажэнства.*

[10] *asperges — вопратка, якую меў на сабе каплан падчас краплення люду свянцонаю вадою.*

[11] *antepedia — занавес перад алтаром.*

[12] *obedientia — тут: прысяга.*

[13] *jubilat — каплан, які святкуе 50-годдзе свайго высвячэння на капланства; але часцей так называюць каноніка, які 40 год спяваў у капланскім хоры.*

[14] *animusz — душа, натура, характар.*

---

# Жыў любоўю да Беларусі

## ПАМЯЦІ Яна МАТУСЕВІЧА

На жыццёвым шляху мы сустракаем многа розных людзей. І хоць кожны чалавек унікальны і па-свойму своеасаблівы, але ўсё ж не ўсе адкрываюць нам свой унутраны духоўна багаты свет і гэтым вельмі ўзбагачаюць нашае жыццё.

Я ўдзячны Богу за тое, што пазнаёміў мне з айцом Янам — чалавекам няпростага лёсу. Складанасці жыцця не зламалі гэтага чалавека, а, наадварот, паглыбілі яго лепшыя духоўныя якасці, дабрыню, светлы аптымізм, жыццярадаснасць, вернасць Госпаду Богу і адданасць справе служэння Яму, людзям і Айчыне.

Айцец Ян дзіўна спалучыў у сабе чысціню душы і высокі інтэлект, тонкае пачуццё гумару, кемлівасць, артыстызм. Таму Гасподзь Бог і паклікаў яго на цярністы шлях святарства.

Сталасць Яна Матусевіча прыпала на 70-ыя гады, калі ў Беларусі служылі лічаныя хрысціянскія святары (як праваслаўныя, так і каталіцкія), калі людзі літаральна задыхаліся ад недахопу духоўнасці. Здольнасці і энергічнасць адкрывалі перад Янам Матусевічам вялікі выбар прафесій. Голас сумлення, да якога ён прыслухаўся, накіраваў яго на святарскую паслугу, на карысць беларускаму народу. Шчырая любоў да Беларусі заўсёды жыла ў ім і рабіла яго няўрымслівым, нераўнадушным да лёсу Бацькаўшчыны. Немагчыма памагчы людзям, не дапамагаючы роднаму краю.

Патрыятызм айца Яна быў актыўным і плённым, бо сілу дадаваў Гасподзь Бог. Як святар, ён заўсёды маліўся аб дабры для люду паспалітага і будучыні. Як сапраўдны сын свайго народа, ён увабраў у сябе яго лепшыя рысы. Больш за тое, айцец Ян сваім жыццём адлюстроўваў спрадвечны выбар *беларускага шляху, найперш* — культурна-рэлігійнага.

Сваю душпастырскую дзейнасць айцец Ян распачаў як праваслаўны святар, якога на гэтую працу блаславіў Яго Высокапрэас*вяшчэнства мітрапаліт Філарэт.*

Айцец Ян быў бласлаўлёны таксама і святой памяці Прымасам Польшчы кардыналам Стэфанам Вышынскім, калі з'явілася магчымасць нарэшце стаць каталіцкім святаром, *пра што айцец Ян марыў заўсёды.* Але перад гэтым духоўным крокам айцец Ян стаў на калені перад мітрапалітам Філарэтам і папрасіў аб бласлаўленні на далейшую душпастырскую службу ў рыма-каталіцкім касцёле, на што атрымаў згоду. Беларусь ад даўна стала зямлёю прымірэння Заходняга каталіцкага і Ўсходняга праваслаўнага хрысціянства.

Продкі айца Яна былі уніятамі — грэка-каталікамі, пра што ён заўсёды памятаў. І як толькі з'явілася магчымасць аднаўлення уніяцкай царквы ў Беларусі, айцец Ян стаў адным з першых уніяцкіх святароў і быў прызначаны апостальскай сталіцай дэканам — каб апекаваўся ўсімі даверанымі яму святарамі і парафіямі.

Не няўрымслівасць штурхала айца Яна з адной канфесіі ў другую. Ён шукаў сябе і змог знайсці толькі ў вялікім пасвячэнні, цярпенні і адзіноце. Ён меў магчымасць спакойнага служэння як святар ці то ў праваслаўнай царкве, ці ў рыма-каталіцкім касцёле, але айцец Ян прагнуў прынесці сваім прызваннем найбольш хвалы і карысці Госпаду Богу і Бацькаўшчыне, цалкам рэалізаваць сябе. І знайшоў сябе ў грэка-каталіцкай царкве. Уніяцтва стала тым шляхам, які айцец Ян абраў, і выбар гэты быў канчатковы.

Безумоўна, лёс айца Яна унікальны і непаўторны, але адначасова і невыпадковы для беларуса, як бы аб'ектыўна запраграмаваны. Жыццё і дзейнасць яго патрабуюць дэталёвага вывучэння. Толькі на першы погляд можа падацца, што Ян Матусевіч шукаў лёгкай дарогі. Не спакою, не ўтульнасці і не карысці хацеў айцец Ян. Яго інтарэсы палягалі ў зусім іншай сферы — максімальна спраўдзіць сябе як асобу, як патрыёта, як хрысціянскага святара.

*Ствараючы жыццяпіс айца Яна, аддаючы* яму даніну памяці, тым самым спазнаем спецыфіку гістарычнага лёсу нашых канфесій у Беларусі і лёс самой Беларусі, асаблівасці яе сённяшняга дня. Пазнаем саміх сябе, хто мы і чаго вартыя, які ўклад і якая нашая дзейнасць для духоўнага адраджэння, гістарычнага следу, цаглінкі ва ўсеагульны чалавечы дом.

Сур'ёзная праца ў такім накірунку магла б дапамагчы зразумець вытокі і характар вядомай беларускай талерантнасці, паўней вызначыць сэнс і значэнне экуменізму як прымірэння хрысціянскіх канфесій.

Пастаянны пошук айца Яна быў не з лёгкіх, ён вымагаў вялікіх выпрабаванняў і не заўсёды меў станоўчыя ацэнкі як з боку свецкіх асоб, так і духавенства. Пракладваць сваю дарогу заўсёды цяжэй, чым ісці па пракладзенай іншымі, але ж кожны з нас павінен ісці менавіта сваёй дарогай, разумна і дастойна выконваючы дадзеную і наканаваную Богам сваю місію на зямлі. Але акурат святар, як ніхто іншы, мусіць трываць да канца ў службе Богу, народу, Айчыне. Лекар, інжынер, вучоны, мастак, пісьменнік можа выехаць за мяжу, у іншую краіну, дзе будзе лепш жыць яму і яго сям'і. Святар застаецца заўсёды там і з тымі, дзе цяжэй, і дзеліць смутак і гора са сваім народам, з людзьмі, нават пад пагрозаю смерці.

Аб ахвярнасці святароў маем прыклад айцоў Кашыры і Ляшчэвіча — ксяндзоў з парафіі Росіца. 17—18 лютага 1943 года падчас карнай экспедыцыі супраць партызан немцы прапанавалі ім выехаць з вёскі, але яны адмовіліся і засталіся са сваімі вернікамі: 17 лютага згарэў жывым разам з парафіянамі айцец Ляшчэвіч, а 18 лютага пайшоў у полымя святар Кашыра.

Як шчыры прыхільнік і знаўца беларускай культуры, айцец Ян быў частым госцем і ўдзельнікам навуковых канферэнцый, "круглых сталоў", сустрэч, несучы Божае слова да нашай духоўна кволай, абяскроўленай інтэлігенцыі.

Да сённяшняга дня Беларусь яшчэ не нарадзіла таленавітых хрысціянскіх (незалежна, каталіцкіх ці праваслаўных) паэтаў, мастакоў, пісьменнікаў, кампазітараў, мысліцеляў, філосафаў. У шматлікіх магазінах і ларках, прапануецца розная літаратура, але — якая? Пераклады, але — чаго і каго? Атэізм не толькі разбурыў і знішчыў духоўнасць у сем'ях, гэта адбіваецца і ў пакаленнях.

*Як сапраўдны беларускі інтэлігент і* інтэлектуал, айцец Ян здолеў пакласці сваю цаглінку ў Беларускі Дом. Ад пачатку 90-х гадоў ён вельмі многа дапамагаў мне ва ўсіх магчымых душпастырскіх працах. Асабліва *ўдзячны яму за душпастырскую дапамогу ў* абслузе хворых, спавяданні вернікаў. Найперш у 89—93 гадах, калі ў Мінску надзвычай адчуваўся недахоп святароў: тут на той час нас было толькі двое.

На Кальварыі *пробашчам быў святой* памяці ксёндз Ян Адамовіч, а парафіяй быў увесь Мінск і прылеглыя раёны ад Радашкавічаў да Барысава, Магілёва, Жодзіна, Бабруйска, Дзяржынска. Пасля, дзякуй Добраму Богу, прыйшоў шаноўны ксёндз Міхал Сапель, ксёндз Альберт Масальскі і іншыя... Але хачу з усёй шчырасцю і ўдзячнасцю сказаць, што айцец Ян заўсёды дапамагаў мне ў душпастырскай паслузе людзям, гэта ведае ўвесь Мінск, а таксама вернікі і далёка па-за Мінскам.

Парафіяне яго любілі і шанавалі. У ліпені 1998 года айцец Ян адзначыў сваё 50-годдзе і 24 гады святарства. У касцёле св. Сымона і св. Алены сабралася тады вялікая колькасць духавенства і вернікаў. Яшчэ больш людзей прыйшло ў касцёл у дзень яго пахавання, каб не толькі развітацца з айцом Янам. Два дні і дзве ночы людзі маліліся ля труны, ушаноўвалі чалавека і святара.

Хвароба айца Яна была нечаканай. У тыя цяжкія хвіліны я выканаў святарскі абавязак прыгатавання айца Яна ў апошнюю дарогу: споведзь, намашчэнне хворага, святая Камунія. Я ўладкоўваў айца Яна ў шпіталь, наведваў яго там. Пасля прыступу інсульту айцец Ян пражыў усяго два дні.

У маёй памяці ён назаўсёды застанецца святаром з душой крыштальнай чысціні, разумнай дабрынёй, ён вытрываў у службе Богу да канца.

Хоць сам цярпеў многа, перажываў за лёс хрысціянства ў Беларусі, але ніколі не чарніў ані людзей, ані веравызнанні. У яго сэрцы, жыцці быў своеасаблівы экуменізм, можа, таму, што так склалася яго святарскае жыццё — быць святаром у абодвух веравызнаннях і ва уніяцкім абрадзе. Дзякуючы такому лёсу ён адчуў усё на сабе і стаў *святаром шырокай душы, па-над бар'*ерамі, якія нас дзеляць. Такое адчуванне, што ўсе мы, хоць і хрысціяне, але замала ўзносім сэрцы ў неба, да Бога. А калі глядзім толькі пад ногі, нікога і нічога не бачачы, куды зойдзем?

Дзякуй Госпаду Богу за знаёмства з гэтым чалавекам, за магчымасць штосьці добрае зрабіць і паслужыць яму, а праз яго і многім людзям.

Мае самыя чыстасардэчныя спачуванні маці айца Яна, перад якою нізка схіляю галаву, бо са мною — мая маці, якая дзеліць мой святарскі лёс.

**Кс. Уладыслаў ЗАВАЛЬНЮК,**
**пробашч касцёла св. Сымона**
**і св. Алены**

# Яўген КРЫЖАНОЎСКІ:
# "Мы як вентыль на паравым катле"

**— Спадар Яўген, дык ці ёсць беларускі эстрадны гумар?**

— Ёсць. Апрача "Хрыстафора" (а мы ўжо 12 год на сцэне), у эстрадным размоўным жанры працуюць "адзіночкі" Радзівілаў, Кравец, Волчак, Бранкевіч, трохі Маладзёжны тэатр эстрады.

**— Мо нават і пра канкурэнцыю паміж вамі можна гаварыць?**

— Не, канкурэнцыі няма, мы адзін аднаму не перашкаджаем, займаемся збольшага розным. Вялікая канкурэнцыя існуе, прычым ва ўсіх сэнсах, з боку Масквы. І праз тэлебачанне ("Гарадок", "Аншлаг"), і праз частае гастраляванне. Народ валам валіць.

**— Забіраюць частку папулярнасці і хлеба?**

— Папулярнасці ў нас хапае. Між іншым, пры адсутнасці грошай яна дужа дапамагае, замяняе гэтыя "паперкі". Мы толькі незадаволеныя, што вядомасць нашая не сягае за межы Беларусі. У Смаленску якім ці ў Варонежы арганізаваць належным чынам выступленні проста немагчыма. Гэта тое самае, што да нас прыедуць артысты з Якуціі, нават афішаў процьму расклейваюць, але людзі не пойдуць глядзець, бо не ведаюць, хто такія.

**— Але ж часам вы з'яўляецеся на масавай расійскай аўдыторыі. Вунь у "Смехапанараме" петрасянаўскай некалькі разоў, бачыў, былі...**

— Гэта недастатковая "раскрутка". Тамтэйшых гумарыстаў штотыдзень "круцяць". Дарэчы, зараз мы спрабуем перадачу "Панядзелак з "Хрыстафорам" на некаторыя расійскія тэлеканалы прасунуць. Магчыма, будзем ажыццяўляць падобную "экспансію" не на ГРТ і РТР, а на нецэнтральных АСТ, ТВ-6 ды іншых. Па прыкладзе прэзідэнта — калі не прымаюць адразу, напрамую, пойдзем рэгіёнамі, так бы мовіць, мясцовымі каналамі.

**— Параўнайце, калі ласка, узроўні беларускіх і расійскіх гумарыстаў?**

— Ну, прыкладам, "Хрыстафор" пастаянна становіцца пераможцам разнастайных конкурсаў размоўнага жанру. А я сам, між іншым, з'яўляюся лаўрэатам Гран-пры Усесаюзнага конкурсу артыстаў размоўнага жанру ў 1989-ым. Прычым апошнім, а да мяне імі станавіліся толькі Аркадзь Райкін і Навікава з Хазанавым. Карацей, калі б мы былі не на вышыні, то не пратрымаліся б 12 гадоў.

**— Калі да нас перастануць цугам ездзіць тамтэйшыя гастралёры?**

— Ніколі не перастануць. Як казаў мне адзін маскоўскі артыст, Беларусь для іх — "валютная зона". Тут ім плацяць за канцэрт па 5-6 тысяч долараў, а там — 500-1000. І не толькі "размоўнікі", а ўся іхняя эстрада. Таму яны будуць і надалей на Беларусі "пасвіцца". А з інтэграцыяй іх тым больш наўрад ці выціснеш. А вось нас туды не пускаюць, заламваюць такія кошты!

**— Што да вашых айчынных тэле- і радыёпраектаў, то гэта больш нейкія кампіляцыі з ужо вядомага, часам нават не ўласна вашага. І глядзіцца яны куды горш хрыстафораўскіх арыгінальных праграм...**

— Падача сцэнічнага шоу ў тэлепраграме, што вымагае, ну, хоць бы сціпласці, зусім іншая. Разам з тым няма дастаткова ні нашага, ні наогул адмысловага беларускага матэрыялу, каб рабіць паўнавартасныя цыклавыя перадачы. Тое ж самае тычыцца і радыё. БІ-ЭЙ, дзе мы вядзём адну забаўляльную праграму, ужо прапаноўвала ўзяцца за праект кшталту "Добрай раніцы!"... Да таго нас трэба пераважна менавіта глядзець.

**— А цэнзура ўмешваецца нейкім чынам?**

— Ніякай цэнзуры мы не адчуваем.

**— І нават унутранай няма?**

— У нас ёсць даволі вострыя сцэны і з парламентам, і з прэзідэнтам, і з БНФ. Адно што з адміністрацыі дамоў культуры, дзе даводзіцца выступаць, перад спектаклямі падыходзяць, просяць, маўляў, пааццярожней. Перастрахоўваюцца. Многія здзіўляюцца, гадаюць, чаму нас не зачыняюць і гэтак далей. А проста гэта павінна быць. Мы як маленькі вентыль на крышцы паравога катла. Каб пара выходзіла.

**— А па што больш прыходзіць, на вашую думку, публіка — па адхланне, проста пацешыцца ці па штосьці іншае?**

— І па тое, і па другое. Мы імкнёмся задаволіць запатрабаванасць насельніцтва ва ўсім. Вось пайшлі нават на эксперымент: у прэм'ернай п'есе "Дзень танкіста" з'явіліся першы раз у "Хрыстафоры" жанчыны, артысткі іншых мінскіх тэатраў. Здаецца, удала — квіткоў не дастаць. Эстрадная драматургія зараз карыстаецца поспехам. Такім чынам, "Дзень танкіста" — гэта і забаўка, і мастацтва.

**— Беларуская мова ў прадстаўленнях "Хрыстафора" эпізадычная, дзеля каларыту. Беларускамоўнага сцэнічнага гумару як натуральнай з'явы не можа быць?**

— Наадварот, можа і павінен быць. Памятаю, якую папулярнасць мелі нумары Рыжковай — нашай Клары Новікавай! А як глядзіцца камедыі ў Купалаўскім! У нас калісьці таксама быў цалкам беларускамоўны спектакль. Паспрабавалі яго ў Гродне, Віцебску — але не пайшоў як след. Чакаемай рэакцыі не было. Можа, прычына менавіта ў нашых недапрацоўках...

Гутарыў
**Кірыла ПАЗНЯК**

# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### ГАСТРОЛІ

Пасля месячнага паслянавагодняга перапынку расійскі шоу-бізнес аднаўляе вялікакалькасную прысутнасць на гасціннай беларускай зямлі. Ну, не сядзіцца ім дома. Гэтую татальнасць разбаваць трохі палякі.

*6 лютага* — у канцэртнай зале па пр. Скарыны, 50 Польскі інстытут у Мінску прадстаўляе кракаўскі джазавы квінтэт і ягонага вакаліста Марка Балату з сучаснымі джазавымі кампазіцыямі і імправізацыямі на тэмы Шапэна.

*2, 14, 19 і 29 лютага* — адпаведна Аляксандр Малінін (к/з "Мінск), гурты "Машина времени" і "Воскресение" з сумеснай канцэртнай праграмай (у Палацы спорту), "Чиж" (у к/з "Мінск"), "Мумий Тролль" (у Палацы спорту).

*11 і 12 лютага* — **у Доме афіцэраў** Рускі камерны балет "Масква" дае "Жызэль" і "Шчаўкунка".

*18, 19 і 20 лютага* — у Белдзяржцырку выступаць Ігар Кіо ды іншыя "чараўнікі" Расіі.

### ЭКРАН

Паедзьце ў Кіеў і паглядзіце, якой мовай там агучваюцца тэлеканалы, прычым не толькі нацыянальныя. Усё дублюецца па-ўкраінску. Ад навінаў да серыялаў. А вось мастацкіх фільмаў на роднай мове ад шматлікіх пустых рэарганізацый на БТ мы дагэтуль не дачакаліся.

*29 студзеня, субота* — у сядзібе ТБМ за сімвалічныя 40 рублёў паказваюць "Стары храм" (17.30), кліп поп-гурта "Ньюкасмаполіс", публіцыстычны фільм Андрэя Расінскага "Беларускія капрычас" (17.40) і дубляваны па-наску "Страчаны свет" Стывена Спілберга.

**Беларускае тэлебачанне**

*29 студзеня, субота, 9.10* — "Сёння з вамі...". Госць праграмы — кіраўнік тэатра юнацкай творчасці пры Нацыянальным цэнтры дзіцячай творчасці Наталля Рачкоўская.

*29 студзеня, субота, 13.55* — "Постаці і цені", тэленарыс, прысвечаны 2000-годдзю хрысціянства.

*30 студзеня, нядзеля, 8.25* — дак. фільм "Мастак Мікола Селяшчук". Мастак — добры, час (і не толькі эфірны) — паганы.

*30 студзеня, нядзеля, 21.10* — ток-шоу "Карамболь". У гасцях у Ягора Хрусталёва — чэмпіёны КВЗ, каманда БДУ. Дарэчы, нядобразычліўцы кажуць, што беларусы перамаглі таму, што ў таемным закулісным таталізатары на іх паставіў сам Маслякоў. Ды плюс інтэграцыя...

*1 лютага, аўторак, 16.30* — "Красамоўны колер", тэленарыс па віцебскага мастака Алега Крошкіна з нагоды яго 50-годдзя.

*1 лютага, аўторак, 19.15* — "Дыялогі вякоў". Вядучы Аляксей Дудараў разам з Сяргеем Кавалёвым, Валерыем Мазынскім і галоўным рэдактарам аддзела тэатра Міністэрства культуры Вацлавам Валадзько паразважаюць на тэму "Беларуская драматургія сёння і заўтра".

*2 лютага, серада, 22.00* — тэлеспектакль паводле Жана-Клода Брысвіля "Вячэра" ў выкананні акцёраў Рускага тэатра імя Горкага. Паказ прымеркаваны да 70-годдзя Расціслава Янкоўскага, які выконвае ў гэтым спектаклі галоўную ролю.

*6 лютага, нядзеля, 11.50* — "Арт-клуб". Перадача ўзгадак пра прэм'еру спектакля "Эдзіт Піяф", што адбылася 20 гадоў таму ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача.

### РАМПА

Тым часам у нашых тэатрах ёсць што паглядзець і жыўцом. Кошты на квіткі ў лютым, дзякаваць Богу і мельпаменаўскім адміністрацыям, засталіся па кішэні.

**"Вольная сцэна"**

*29 і 30 студзеня* — "Стомлены д'ябал"

*3 лютага* — "Узлёт Артура Уі"

*4* — "Паваліўся нехта"

*5* — "Містэр Розыгрыш"

*6* — "Бот і яго шкарпэтка"

**Рускі тэатр**

*30 студзеня* — "Хрыстос і Антыхрыст"

*1 лютага* — "Цяжкія людзі, альбо Жаніх з Ерусаліма"

*2* — "Ад'ютант-Ша яго мосці"

*5* — юбілейны вечар народнага артыста СССР Р. Янкоўскага

**Купалаўскі тэатр**

*29 студзеня* — "Касцюмер"

*30* — "Паўлінка"

*31 студзеня і 2 лютага* — "Тутэйшыя"

*3* — "Смак яблыка"

*4* — "Страсці па Аўдзею"

*5* — "Сон у чарадзейную ноч"

*6* — "Таполевая завея"

**Малая сцэна Купалаўскага**

*29, 30 студзеня і 6 лютага* — "Трыстан і Ізольда"

*3* — "Лэдзі Кронкі і мыш"

*5* — "Разбітае сэрца"

## ПАРОДЫ!

## Павел САКОВІЧ

***Амаль з народнага***

*Ой, насніла — высніла,*
*Аж сабе не веру!*
*Дзе падман, дзе ісціна,*
*Дзе сцяна, дзе дзверы?*
*Во сплялa*
*дарожаньку —*
*Што ні крок, то бокам.*
*Дарагі, харошанькі,*
*Выбачай — і з Богам!*

Вольга РУСІЛКА

***Ой, насніла — высніла,***
***Што Ён — мой, адзіны,***
***А я ж, дзеўка, выспела —***
***Цяжка без мужчыны...***

***Я спляла дарожаньку***
***З бальшака да ганачка.***
***Глядзь: брыдзе —***
***"харошанькі" —***
***Неяк бокам Янычка.***

***Кажа мне: "Сасватаю!"***
***Я ж п'яным не веру:***
***— Ажаню з лапатаю,***
***Знойдзеш сам, дзе дзверы?***

***Вершы з-пад Жалезкі***

*І ў дні дарослaсці*
*спакойнай*
*Пачаў пісаць*
*я раптам вершы.*
*Няхай я ў іх*
*не вельмі здольны,*
*Але сярод Жалезкаў —*
*першы!*

Юрась ЖАЛЕЗКА

***"Маўчанне — золата"***
***дзвіз не мой.***
***Кажу адкрыта***
***вам і рэзка.***
***Хоць верш слабы***
***ў мяне парой,***
***Аднак пішу***
***заўжды з душой:***
***Не жалязяка ж я —***
***Жалезка!***

***Размова з зямлёй***

*Нядаўна,*
*капаючы бульбу,*
*Нагаварыўся*
*з зямлёй.*
*І вось што*
*яна сказала*
*Асобе цікаўнай маёй:*
*. . . . . . . . . . . . . . . .*
*— А бульбу*
*не па-сялянску,*
*Адной грабеш рукой!*

Казімір КАМЕЙША

***Аднойчы на лецішчы***
***бульбу капаў.***
***Здаецца, увосень, а,***
***можа, вясною...***
***Я часам апошнім***
***рассеяны стаў:***
***Бывае, бяседу вяду***
***сам з сабою.***

***А тут раптам***
***з бульбай гаворку павёў.***
***Ну, а тады ўжо —***
***з матуляй-зямлёю:***
***Я ёй гаварыў***
***пра павагу, любоў,***
***Яна ж ушчувала***
***мяне зноў і зноў,***
***Што бульбу капаю***
***рукою адною.***

***Прашу я зямельку: —***
***Не трэба бурчаць.***
***Даю табе шчырае***
***слова паэта,***
***Што бульбу дзвюма***
***навучуся капаць,***
***Яшчэ і рыдлёўку***
***асвою за лета!***

## ВЕРНІСАЖ





Мал. А.ГУРСКАГА.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧЫХ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты
"Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ
З 1932 ГОДА

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Павел ВЕРАБ'ЁЎ — *намеснік галоўнага рэдактара,*
Мікола ГІЛЬ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фота-карэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 27.01.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 446

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12